# МІХАСЬ ЧАРОТ

## ЗБОР ТВОРАЎ

*у двух тамах*

Рэдакцыйная калегія:

*Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка*
*Янка Казека*

**ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР**
***Рэдакцыя мастацкай літаратуры***
**МІНСК 1958**

# МІХАСЬ ЧАРОТ

ЗБОР ТВОРАЎ

*Том 2*

*Апавяданні*
*П'есы*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
*Рэдакцыя мастацкай літаратуры*
МІНСК 1958

## СОН ГАБРУСЯ

Сонца ўжо даўно схавалася за бор, і ноч, нібы чорная коўдра, пакрывала ўсход.

Пастухі папрыганялі з палёў.

Касцы і жнеі вярталіся дахаты, і адгалос іх песень ліўся далёка-далёка па лесе...

Прайшло з паўгадзіны, і зусім сцямнела. Вёска патрошку стала засыпаць... Толькі на дварэ сельскага савета чулася моцная гутарка...

— Браточкі,— гукаў Нічыпар,— гэта ж людзі ноч расхапаюць, а мы ўсё спрачаемся...

Але яго словы ледзьве можна было распазнаць паміж той гамарні, якая цяпер тварылася на дварэ.

— Ну, ціха! Дайце мне сказаць колькі слоў,— абазваўся стары Тамаш і стаў пасоўвацца на сярэдзіну грамады, якая чуць таўпілася на досыць такі шырокім двары,— я ўжо раней казаў і цяпер кажу, што не трэба зварочваць увагі на двух ці на трох чалавек, якія не хочуць дапамагчы ў гэткім няшчасці... Ці ж не сорам вось табе, Габрусь: ты, можа, яшчэ маеш леташні хлеб, але, скажу па праўдзе, яшчэ два — тры, а то і болей пудзікаў захована пад саломай, і сёлета, дзякуй богу, ураджаі добрыя, і вось ты, шляхецкая твая натура, каб табе загінуць, не хочаш даць колькі фунтаў тым няшчасным галодным людзям, якія цяпер зямліцу ды кару з дрэва ядуць?! Ці ж не грэх і не сорам гэта, мужчыны?

— Мне дай слова, старшыня! — закрычаў Кузьма, чуць не самы бедны селянін вёскі,— я сам галадаю, мне

самому прыходзіцца ісці ў людзей прасіць кавалак хлеба, а я бажуся перад усімі, што, як толькі сажну свой загон, першы прывязу сваю частку, каб паслаць туды, дзе ўсё спёка папаліла і дзе тысячы людзей паміраюць ад голаду... Мне здаецца, што ўжо даволі нагукаліся, я раджу гэтак запісаць і ў пратакол, што сход пастанаўляе: як толькі збяром з палёў хлеб, памалоцім, чым хутчэй выпаўнім харчовы налог і тады абяцаем, хто колькі можа, прынясём збожжа, бульбы і іншых харчоў вось сюды, да старшыні на двор, для адпраўкі ўсяго туды, у галодныя губерні, адкуль даносіцца плач галодных дзетак і льюцца аж сюды рэчкаю слёзы іх бацькоў... Згодны, мужчыны?..

— Згодны! — закрычалі ўсе ў адзін голас.

— Мы апошняе пашлём тым гаротнікам, каб выратаваць ад бяды,— казаў барадаты Ахрэм,— бо ўсе жывём пад богам і не ведаем, што нас чакае,— мо' на другое лета самі апынімся ў гэткім становішчы?..

— А хто не згаджаецца з гэткаю пастановаю? — запытаў старшыня.

— Я!..— адгукнуўся адзін толькі Габрусь.

— Ну і бог табе суддзя... Ты зусім не нашай вёскі селянін, ты нейкі вырадак нашай прыгожай працоўнай сям'і...

Пачалі гаварыць мужчыны і, закурыўшы люлькі і папяросы, разышліся па хатах...

Габрусь таксама, нібы той воўк, моўчкі пасунуўся дамоў. Яму нават зрабілася і сорамна, што ён адзін не згадзіўся даць сваёй долі на дапамогу галадаючым людзям...

Ноч зусім ужо ахінула сваімі чорнымі крыллямі вёску, і Габрусь быў вельмі рад, што яго ніхто не прымячае...

Гэтак, з нейкаю пакутаю ў сэрцы, ён дацягнуўся дахаты і сеў за вячэру...

— Ну, што? На чым жа скончылася? — запытала яго жонка Адэля.

— На тым скончылася,— адказаў Габрусь,— што ўсе згадзіліся даць сваю частку дабра, каб паслаць туды, у галодны край, а я не згадзіўся...

— І добра зрабіў! — залепятала яна.— Яшчэ што? Харчовы падатак бяруць, усё трэба купіць за збажынку

і яшчэ ахвяру нейкую рабі... Разумна зрабіў, што адмовіўся. Еш, Габруська, заціраччку,— сказала яна да мужа і лепятала далей:— Гэта ж сорам і так, што мы да гэтага дажылі, каб ты, Габрусь, што быў самым багатым шляхціцам на ўсю аколіцу, і сёлета чуць-чуць сваім старым хлебам пракідаўся да новага ўраджаю... А памятаеш, як даўней у нас было, як яшчэ хлопцаў ды дзяўчат наймалі? Заўсёды паўзасека жыта заставалася на другі год... А колькі мы прадавалі?.. Эх! Эх! — І, цяжка ўздыхнуўшы, яна пачала ўкладвацца спаць.

Габрусь таксама, выментаўшы дзве місы зацірκі, улёгся спаць, але думка аб тым, ці добра ён зрабіў, што адмовіўся даць хлеба галодным, не пакідала яго, і ён доўгі час не мог заснуць...

Урэшце, сон летняй кароткай ночы яго змарыў, і ён пачаў храпці, ды гэтак моцна, нібы хто яго душыў і не даваў супакойна дыхаць...

І вось сніцца Габрусю страшны, страшны сон... Нібы ён блукае па нейкаму выпаленаму сонцам полю і шукае сваёй палосы... Пасля знаходзіць — і што ж?! Там, дзе ўвосень зелянела густая шаўковая рунь, дзе вясною сэрца яго было поўна радасці, гледзячы на сваю шырокую і доўгую палоску, якая хвалявалася, як мора, і шаптала яму аб вялікім ураджаі, цяпер ён там не можа знайсці ніводнага каласка, ніводнай зялёнай травінкі... Усё пажоўкла, усё пачарнела, і нібы ад таго вогнішча нясе нейкім пахам даўнейшага дыму і чаду... Габрусь падае на калені на гэтай выпаленай палосе, на якую праз усю вясну і лета капелька дажджу не ўпала, і горкімі слязьмі мочыць пагарэлыя саломкі каласоў, лісты пажоўклай травіны...

Ідзе ён далей і бачыць, што аўсы і ячмені таксама зваліліся на зямлю, а націнне бульбы завяла, пахілілася ў барозны, якія глыбокімі шрамамі выглядаюць на гладкім паленым полі... Габрусь ад слёз і ад жалю бяжыць, сам не ведаючы куды. Ён забягае ў гай і бачыць, як без пары пажоўклі лісточкі на дрэвах, і чуе, як жаласна цыркаюць і пішчаць птушачкі, шукаючы лужынкі вады, каб прагнаць смагу... Але, бедныя, не знаходзяць і на вачах Габруся кідаюцца і паміраюць ад страшэннай спёкі...

Вось раптам чуе ён нейкае страшнае жалобнае рыканне... Ён выходзіць на балота і бачыць, як худыя, зусім змучаныя кароўкі грызуць сухі, выпалены сонцам мох і кусты багуну... Яны рыкаюць нейкім скрабучым за сэрца голасам, равуць, шукаючы сырую травінку, шукаючы выгар, дзе можна было б глынуць хоць адну капельку гразкай вады... І, не знаходзячы, тут жа са страшным рыканнем туляцца да дрэва і, грызучы бяросту, ліжучы яе языком, застаюцца ляжаць назаўсёды...

Габруся пачынае разбіраць нейкі страх... Ён не можа знайсці сабе месца... Але раптам якаясь невядомая сіла пераносіць яго ў сваю хату... Ён пераступіў парог і зжахнуўся...

Бачыць на ложку хворую і высахшую, белую як палатно жонку... Яна працягвае да яго свае худыя кастлявыя рукі і канаючым голасам шэпча: «Ратуй, Габруська!.. Расінка праз два тыдні не была ў роце... хлеба кавалачка два тыдні не бачыла... з голаду і смагі паміраю... Ратуй мяне... Ратуй сваіх дарагіх маленькіх дзетак»...

Габрусь ад перапалоху адхіляе сваю галаву на кут... І вось... бачыць, у куточку сядзяць яго трое маленькіх дзетак... Яны апухлі і азызлі з голаду, зусім не падобны да тых вяртлявых скакуноў, якімі ён бачыў іх раней...

Усе трое, прытуліўшыся адно да другога, яны ціхенька плачуць. Яны грызуць нейкі гнілы кавалачак дрэва... і слязьмі праганяюць яго, каб не засядала ў горле... Убачыўшы свайго татку, яны, як маладыя ластавачкі, разявілі свае роцікі, працягнулі ўсе да яго ручкі, худыя і пасохшыя, як каласкі ў полі, і пачалі плакаць і прасіць:

«Татачка дарагі... есці... есці хочам... дай кавалачак хлеба... ратуй нас... ратуй маму... яна таксама памірае... ідзі папрасі ў людзей хоць крошачку хлеба, а як у нас будзе — мы больш ім дадзім. Татачка, хочацца есці... ратуй нас... ратуй»...

І шэсць худых ручак працягвалася да Габруся, а ён упаў на стол, закрыўся рукавом і пачаў сам плакаць, не ведаючы сам, што рабіць, куды ісці, хто паможа яму ратаваць жонку, дзетак і жывёлу...

Вось раптам на печы замяўкаў сумную песню галодны кот, а ў сенцах, нібы перад вялікім няшчасцем, завыў сабака. У Габруся сэрца пачало разрывацца ад жалю... Ён хацеў накласці на сябе рукі, але шкадаваў кідаць жонку і дзетак, хацеў бегчы, але не ведаў, куды і чаго?..

У хаце не было ні пылінкі, ні крупінкі.

І вось чуе Габрусь, што ўжо доўгая рука галоднай смерці сваімі чорнымі пальцамі адчыняе дзверы... Ён бачыць, як яна паволі бярэ за шыю яго жонку... як ласкава гладзіць па галоўцы яго дзетак і блізіцца да яго... Габрусь мацней пачынае плакаць, захіляецца шчыльней вопраткаю... Але чуе, што ўжо халодныя пальцы рукі смерці бяруць яго за шыю і пачынаюць ціснуць... Ён пачынае вырывацца і з усіх сіл крычыць: «Прэч, паганая! я не дамся!..» ...І раптам прачынаецца...

— Айца і сына і святога духа!..— жагнаецца Габрусь і спужана пазірае на ложкі і на печ, дзе і што ён? Ці жыва жонка і дзеткі...

— А... Ды гэта ж сон!.. Божа ласкавы!.. Няўжо кара мне твая за тое, што я адмовіўся даць хлеба галодным людцам, якія не ў сне, а сапраўды паміраюць з галаду?!

З гэтымі словамі Габрусь саскочыў з ложка, хутка апрануўся і пачаў будзіць жонку.

— Ты жывеш, Адэлька?.. Ах, каб ты толькі ведала, які я сёння бачыў сон!.. Гэта ўсё грэх мучыць мяне за маю бязлітасць і бяздушнасць...

— Што ты плявузгаеш? — адазвалася Адэля, высунуўшы галаву з-пад коўдры. — Што гэта? Яшчэ чуць золак, а ты ўжо ўскруціўся? Звар'яцеў, стары, ці што?

— Эх, баба, баба! Каб ты толькі ведала, колькі я набраўся страху!.. Але гэта нічога... Дзякую табе, божа, што ўсё гэта ў сне бачыў я, а не сапраўды... Гэтак жа можа быць і ў жыцці сапраўды!.. Гэтак жа, мусіць, цяпер жывуць і паміраюць там, адкуль даносяцца аж сюды енк і плач гаротнага народу... Праўду стары Ахрэм казаў, што ўсе мы пад богам і з усімі гэтак можа стацца... А я больш не буду такім, якім быў дагэтуль... Я першым унясу ахвяру на дапамогу і аддам усё, толькі пакіну столькі, колькі патрэбна для пражыцця сямейкі... А можа, мой фунцік хлеба выратуе там

паміраючага... Я пабягу, Адэлька, скажу старшыні, што першым унясу, колькі змагу...

— Ды што ты, Габрусь, звар'яцеў?

— О, не!.. Гэтак няможна, кабеціна, жыць, як мы жылі... Я хутка вярнуся...

Адэля ад здзіўлення разявіла рот і не ведала, што казаць, калі Габрусь зачыняў за сабою дзверы...

Яшчэ не пачынала ўсходзіць сонейка, як Габрусь бягом прабег вуліцу і пачаў моцна стукацца ў дзверы да старшыні вёскі.

## ДЗІЎНАЯ ЗАЯВА

Здарылася гэта ў Пятроўку. Была нядзеля. Сонца пачало пячы з самага рання. Уся вёска пацягнулася ў цэркаў.

Стары Апанас Гарбуз хаця і лічыў сябе набожным, але ў цэркаў хадзіў рэдка. Ён больш маліўся дома дзеля таго, што недалюбліваў папоў. «Гавораць у цэркаўцы адно, а робяць зусім другое»,— адказваў ён, калі яго пыталі, чаму не любіць папоў.

Сёння, як заўсёды ў святую нядзельку, пад'еўшы добра бліноў з верашчакаю і вычысціўшы міску беленай заціркі, Гарбуз выйшаў у садок, сеў на лаўцы пад кустом агрэсту і стаў пазіраць на агарод. Ён вельмі дзівіўся, што, нягледзячы на сухую вясну, варыва на градах «шалела».

— Вось толькі агуркі трохі заняпалі, мусіць апошняя спёка пашкодзіла,— прагаварыў ён сам сабе і пагладзіў рукою па жываце, які ўжо зверху стаў награвацца ад сонца.

У гэты час сусед Мікола Шклянка, ідучы з поля, убачыў, што ў яго агародзе рыецца Гарбузова свіння.

Шклянка быў чалавек сярдзіты. Гэта можна было ўгадаць па тым, што ён заўсёды кусаў свае «каціныя» вусы і жаваў канец барады. Ён мог ні за што ні пра што навальіцца на чалавека, аблаяць яго апошнімі словамі, пасля прасіць прабачэння і ў канцы зноў пачынаць лаяць.

Убачыўшы чужую свінню, Шклянка ўхапіў здаравенны кол каля загарадкі і стаў ганяцца за ёю. Свіння кі-

нулася на Лыску, якога жонка Шклянкі ўспела выпусціць з хаты, пачуўшы голас гаспадара.

— Лыска, кусі! Каб яе ваўкі задушылі! — крычаў нечалавечым голасам Шклянка.

Свіння, не бачачы ратунку, рынулася ў плот, каб выскачыць у свой агарод, але плот быў моцны, і яна, прасадзіўшы галаву, ніяк не магла выцягнуць другой палавіны сваёй асобы.

Шклянка гэтым часам падбег да яе і так аперазаў калом па спіне, што яна з болю заглушыла піскам усю вёску.

У гэту хвіліну Гарбуз якраз ганяў з лысіны мух. Ён хацеў нешта на іх казаць, але, пачуўшы такі піск, так і астаўся з расчыненым ротам.

— Божухна! — закрычаў, апамятаўшыся, Гарбуз,— ці не маю Перапалосую хто пачаставаў.

З апошнімі словамі ён пабег на месца крыку.

Свіння так і асталася ляжаць у плоце, а Шклянка стаяў з калом у руках і з пераляку не ведаў, што рабіць.

Пабачыўшы Гарбуза, ён хацеў кінуць кол у крапіву, але Гарбуз закрычаў:

— Стой! Стой, каб цябе пярун забіў! Што гэта ты зрабіў? Апошнюю свінку...

— А навошта пускаеш у чужыя грады? Для тваёй свінні сеяў, ці што? Лысая падла! — адказаў Шклянка і пайшоў на свой двор.

— Дык ты думаеш, гэтым усё і скончыцца? — крычаў услед яму Гарбуз.— Я гэтага не дарую! Яшчэ ёсць валасць, суд!..

Пачуўшы гэты крык, Гарбузіха кінула паліць у печы і выскачыла з чапялою ў руках, забыўшыся, што на гаршках дапякаўся апошні блін.

Яна, даведаўшыся ў чым справа і пабачыўшы, што Шклянка з жонкаю раяцца на сваім двары, выбегла на вуліцу і пачала крычаць і клясці іх на чым божы свет стаіць:

— Недавярак! Арыштант! Злодзей! Гэта табе не каноплі Васілёвы цягаць з падсвіронка!.. Каб ты да святога Пятра не дажыў! Каб ты гэтак поўзаў жыватом, як мая свінка поўзае!..

— Годзе! годзе ўжо! — сутрымліваў яе Гарбуз,— пашануй святой нядзелькі.

На гэты крык выскачыла на вуліцу Домна, кума Гарбузіхі. Яна не разбірала, хто і ў чым вінаваты, а зразу навалілася на жонку Шклянкі і пачала яе лаяць.

— Добра, добра ведаю, што ты за штучка! — крычала Домна.

— А ты не сунь носа, куды не трэба! Ты нічога не бачыла! — агрызнулася жонка Шклянкі.

— Што? — мацней закрычала Домна. — Ты яшчэ агрызацца ўздумала? Не бач ты свету, калі я не бачыла, як твой «ваўкалака» (Шклянку за яго сярдзіты від у вёсцы звалі «ваўкалакам»)... як твой «ваўкалака»...— прагаварыла яна яшчэ раз, але далей не ведала, што казаць, бо не ведала, за што сварацца. Сваю гутарку Домна кончыла тым, што павярнулася задам... і пабегла да Гарбузоў, каб распытаць, што такое здарылася.

Хутка Гарбузы пакаціліся на свой двор; толькі людзі, якія збегліся на гэты лямант, гутарылі паміж сабою, хто больш вінен. Як трэ' было і чакаць, большасць вінавáціла Шклянку.

Кончыўся ўвесь гэты кірмаш тым, што стары Сцяпан, выкурыўшы тры люлькі чужога тытуню, сказаў:

— Што нам да іх? Няхай самі разбяруць, хто больш вінен, і пагодзяцца, а нам час разысціся... Толькі дай, Сымон, яшчэ на люльку тытуню.

— Закурвайце, мужчыны! — адазваўся Сымон, выняўшы з-за пазухі вялікі капшук з тытунём.

Усе закурылі і разышліся.

## II

Прайшло некалькі дзён. У валасці адбываліся суды. Сходавая была перапоўнена сялянамі. Адны з іх былі заклікáны павесткамі, а другія прыйшлі проста так, каб пачуць навіны. Хаця яны паміж сабою гутарылі і «ціхенька», але часам падымаўся такі гвалт, што прымушаў высоўваць галаву аднаго з суддзяў з пакоя, дзе разбіраліся справы, і крычаць на ўсё горла:

— Мужчыны, не крычыце! Бо старшыня вон павыганяе!.. І што за народ! — і галава гэта зноў знікала.

Ад дыму ў сходавай нікога не было відаць, калі ўкаціўся ў яе Гарбуз, трымаючы ў руках нейкую паперу.

— А браточкі мае! Вось накурылі, і бацькі роднага не распазнаў бы,— забурчаў пад нос Гарбуз і стаў праціскацца да тых дзвярэй, якія вялі да пана старшыні.

Дзверы гэтыя ён ведаў добра, бо не раз прыходзілася іх адчыняць. Толькі ён даціснуўся да іх, пацягнуў за клямку, як зараз нехта закрычаў:

— Куды не ў чаргу прэшся! Паклічуць, як будзе пара!..

Але Гарбуз на гэта не звярнуў увагі: ён ведаў, што яго не паклічуць, бо заявы аб яго справе там не было,— ён трымаў яе ў руках.

Пастаяўшы трошкі ля дзвярэй, Гарбуз першым увайшоў у канцылярыю, як толькі адтуль выйшла якаясь баба — уся чырвоная, як рак печаны.

Нічога не кажучы, ён падышоў да стала і палажыў сваю паперу пад самы нос старшыні.

— А ты чаго не ў чаргу? — пачаў быў старшыня, але, спазнаўшы Гарбуза, таго самага Гарбуза, з якім пару дзён назад выпіваў у Залмана, ён дабавіў:

— Хіба такая пільная справа?

— Вельмі пільная, паночку! Калі ласка, каб зараз і разабраць... Буду вельмі дзякаваць, і як кончыцца суд...

Але старшыня не даў яму дагаварыць, а сказаў, каб выйшаў у сходавую і пачакаў, пакуль будуць разглядаць гэту паперу. Гарбуз выйшаў.

Дзеля таго, што старшыня быў няграматны, то ён адразу гэту паперу падсунуў да пісара і запытаў:

— Аб чым там?

Пісар глянуў на паперу, раскінуў яе і здзіўлена стаў ківаць плячыма. На паперы нічога не было напісана, але нешта было намалёвана.

— Нічога я тут не разбяру! — сказаў пісар,— разбірайце яе самі. Гэты чалавек, мусіць, звар'яцеў: падаў не заяву, а чорт ведае што! І чаго толькі ні пачуеш і ні пабачыш ад гэтых паганых мужыкоў! Ох, ох,— і стаў пісаць далей, перадаўшы яе старшыні. Старшыня доўга круціў яе ў руках, нават пад святло паглядзеў, але каб зразумець што, дык нічога. Усе суддзі папарадку разглядзелі, і ніхто нічога не мог паняць.

— Я восьмы год суддзёю, але яшчэ такой заявы не бачыў,— загаварыў адзін суддзя, які да таго быў п'яны, што сеў у куточку паміж двух сцен, каб толькі, пахіснуўшыся, не паляцець на падлогу.

Вы не дзівіцеся, што суддзя быў п'яны. Тут усе суддзі былі п'янымі, а таксама і старшыня і пісар. Бо суды цягнуліся ўжо трэці дзень, а пасля кожнай разабранай справы, як бы яна ні канчалася, на чыім бы баку ні была праўда, ім усім прыходзілася ўставаць з крэслаў, ісці ў пакой, які азначаўся для судоў, калі прыязджаў земскі начальнік, і там выпіваць некалькі бутэлек гарэлкі. Але, нягледзячы на тое, што былі ўсе п'яныя, яны рабілі сваё і судзілі так, як на гэта паказвае «стацця», якая ўжо даўно стаяла ў вышэйсказаным пакоі. Яны думалі, што з такою самаю «стаццёю» прыйшоў і Гарбуз, дзеля чаго «дзела» яго «без паследства» астаўляць не можна было.

— Пазваць яго сюды! — закрычаў старшыня.— За каго ён нас лічыць, каб падаваць заместа заявы чорт ведае што!..

Зараз з'явіўся Гарбуз.

— Ты гэта што? Смяяцца ўздумаў над начальствам?— закрычаў зноў старшыня і націснуў слова «начальствам».

— Барані божа, паночку! — нясмела загаварыў Гарбуз.

— Ды што гэта? — запытаў пісар, паказваючы на яго паперу.

— Гэта... гэта заява, каб вы разабралі маю справу з суседам Шклянкам.

— Ці ж тут што-небудзь напісана? — загаварыў пісар мацней, коса паглядаючы на Гарбуза.

— А ці ж вы, паночкі, няграматныя, што пытаеце мяне?

— Дурань! З канцылярыі паганю! — закрычаў старшыня і высмаркаўся ў кулак.— Хто табе напісаў?

— Там не напісана, пане старшыня, а намалёвана,— паправіў пісар, які быў цверазейшы за ўсіх.

— Гэта мне Юрка Арцёмаў напісаў, бо сам я, як ведама, няграматны...

— А ён граматны... Юрка той? — запытаў адзін суддзя...

— Таксама не, але за залатоўку ўзяўся напісаць... Ён казаў, што ў судзе разбяруць, хоць трохі галовы і паломяць.

— Каб ён сабе ногі паламаў,— прамармытаў п'яны суддзя, седзячы ў кутку.

— Бачыце, мае паночкі,— казаў далей Гарбуз,— усё сяло абышоў, нікога граматнага не знайшоў. Андрэй Базылёў умее пісаць, але ён нейкі пляменнік Шклянкі, дык ні за якія грошы не ўзяўся напісаць заявы на свайго дзядзьку... Думаў не судзіцца, але, дзякуй яму, Юрка зрабіў ласку, напісаў...

— Вось каб яго палажыў на лаўку ды дубцамі спісаў, каб дзве нядзелі сядзець не мог. Ведаў бы, як пісаць! — сярдзіта прабасіў суддзя, які ўжо даўно меціў у старшыні і заўсёды стараўся актаваю ніжэй гаварыць за другіх суддзяў.

— Дык ты растлумач, што ўсё гэты малюнак азначае... Людзі... свіння, і ўсё такое...— запытаў зноў старшыня,— што гэта такое?

— Гэта і ёсць тая самая заява, што Юрка пісаў...

— Цьфу! Свінячая морда! — гукнуў старшыня і плюнуў якраз на пісараў камаш, але той як бы ненарокам выцер яго аб крысо світы суддзі, які сядзеў радам з ім.— Растлумач нам, у чым справа? Чуеш?! А то...

— Гэта ўсё аб свінні, што сусед Шклянка забіў,— пачаў гаварыць Гарбуз, а пра сябе думаў, што і тут усе няграматныя...

— Ну, дык як далей? Кажы, кажы!..

— Вось я і кажу,— тлумачыў ім Гарбуз,— тут аб усім напісана. Вось гэты чалавек, што з калом у руках, гэта мой сусед Мікола, а шклянка намалёвана — гэта яго прозвішча. А гэта плот... і вось тая самая дзірка, кудэю свіння лезла. Вось гэта самая свіння, што тут намалёвана, і ёсць мая Перапалосая, якую сусед і забіў у гэтай дзірцы, што вы бачыце, і вось гэтым калом, што ў руках трымае... А ўнізе, бачыце, намалёваны чалавек — гэта я сам — Апанас, а каля мяне гарбуз намаляваны — гэта маё прозвішча Гарбуз...

— Значыцца, і тут непісьменныя, — падумаў услых Гарбуз і цяжка ўздыхнуў.

Усе ўвесь час сядзелі з расчыненымі губамі, а як Гарбуз кончыў тлумачыць, разам сказалі:

— Разумеем. Вось яно што!!

— Як жа будзе? Апошнюю свінку...

— Добра, добра! — пачаў старшыня, — мы пасля разбярэм гэту справу і адповедзь дамо... Павестку пашлем...

— Але дзіўная твая заява! — у адзін голас загаварылі.— Відаць, што няграматны пісаў,— дабавіў пісар і сунуў гэту паперу пад сукно...

«Або няграматныя чыталі»,— падумаў Гарбуз і, пакланіўшыся да пояса, выйшаў з канцылярыі.

Ідучы дамоў, ён увесь час думаў: «Хто граматнейшы: Юрка, што гэту заяву пісаў, ці суддзі, што не маглі яе прачытаць».

Ужо пачынала змяркацца, калі Гарбуз узышоў на двор. Першая яго спаткала жонка, якой ён і стаў расказваць, як было ў судзе.

## АПОШНЯЯ НОЧ

Сонца схавалася за лес...

Летні гарачы дзень пачаў змяняцца вечарам. Над сырым балотам белым палатном разаслаўся туман.

Наўкол зрабілася ціха, толькі недзе далёка чулася песня жнеяў, якія грамадою ішлі пасля працы ў вёску.

Зося гэтак шчыра запрацавалася, што не пабачыла, як яе агарнула ноч.

Калі яна разагнулася, вяжучы апошні сноп, і зірнула на густы лясок, каля якога канчалася палоска, яе апанаваў нейкі страх...

У гэты час пачуўся плач маленькага Міхася, яе дзіцяці, які ўжо доўгі час спаў у халадку пад снапамі. Цяпер камары разбудзілі яго, і ён пачаў плакаць.

Зося, палажыўшы серп на плячо, вышэй падаткнуўшы спадніцу, каб не замачыцца ў вячэрнюю расу, якая ўспела ўжо напаіць іржэўнік, падбегла да Міхаські, узяла яго на рукі і яго запалены сонцам тварык шчадна прыхінула да сваіх грудзей... Міхаська змоўк... Ганяючы адною рукою камары над дзіцём, другою рукою яна папраўляла кофтку і спадніцу, а пасля пачала складаць збаны, у якіх брала сабе полудзень...

На яе загарэлым твары відаць былі застыўшыя капелькі поту, які ўвесь дзень умываў яе за цяжкаю працаю.

— Ну, даволі, мой дарагі сынок! — сказала яна да дзіцяці.— Мама таксама есці хоча. Дома я цябе лепш пакармлю.

Міхаська, дзесяцімесячны хлопчык, нібы зразумеў гэтыя словы сваёй мамы, адарваўся ад грудзей і больш не плакаў...

Ноч зусім ужо ахінула чорнымі крыллямі поле і сенажаць, калі паўз бераг густога лесу Зося, трымаючы на руках дзіця, з невялічкім клумачкам за плячыма спяшалася дамоў.

З-за лесу пачынаў выглядаць месяц і сваім сярэбраным бляскам асвяціў постаць і твар Зосі.

Дзевятнаццацігадовая кабета, маладая маці, выглядала цяпер тою непавіннай дзяўчынай, якой яна была паўтара года назад... Месячная ноч вярнула ёй усю дзявочую прыгажосць. Распушчаныя густыя і доўгія валасы, чорныя, як смоль, бровы і цёмна-блакітныя вочы — усё гэта выглядала, як і раней; нават бляск вачэй гарэў тым самым агнём, якім быў запален яшчэ дзявочымі гадамі...

Зося толькі што ўзышла на грэблю, якая вяла ў вёску, перасякаючы густыя кусты гаю, як раптам непадалёку ад яе пачуўся трэск сухога галля і перад ёю выраслі, нібы з зямлі, дзве чалавечыя фігуры...

Зося гэтак задрыжала ад страху, што нават дзіця на руках зварухнулася і заплакала.

— Стой! — пачуўся ціхі голас аднаго незнаёмага.— Ты хто такая і куды ідзеш?..

Зося ад перапугу ледзь прагаварыла два словы:

— Дамоў... іду...

— Ну, ладна! Там разбяром, ідзі за намі,— прагаварыў другі незнаёмы і павярнуў у гушчар.

— Мае даражэнькія,— загаласіла Зося,— што вы? Пашкадуйце дзіцяці...

— Ціха! Будзеш жыва,— закрычаў першы незнаёмы і моцна пацягнуў яе за руку, даючы ведаць, каб не спрачалася...

Зося змоўчала...

— Ты што ж? — пачаў зноў першы незнаёмы, — людзей баішся? Мы таксама людзі...

Зося трошкі апомнілася і пачала прасіцца:

— Я ведаю, што вы такія людзі, як і ўсе... але пусціце мяне... яшчэ з вярсту да маёй хаты... дзіцятка есці хоча, і ў мяне ад поўдня расінка ў роце не была...

злітуйцеся... я і так няшчасная кабета... не здзекавайцеся з мяне...

— Ды хто табе сказаў, што мы будзем цябе мучыць?.. Мы цябе пусцім такою, якою і ўзялі... Ты нам патрэбна зусім для іншага,— пачаў угаворваць яе другі незнаёмы, ідучы ззаду за ёю на крокі два — тры...

Невялічкая палянка паміж гушчару, асвечаная месяцам, выглядала нейкім цудоўным гняздом старажытных людзей...

Пад альховым кустом, укруціўшыся ў старую дзіравую коўдру, ляжаў з абросшым тварам невялічкага росту чалавек... Пачуўшы далёкую гутарку незнаёмага голасу, ён усхапіўся, выцягнуў з кустоў ржавае ружжо і памкнуўся бегчы на голас... Але, прыслухаўшыся лепей, ён астаўся чакаць на месцы, прытуліўшыся да дрэва...

Прайшло некалькі хвілін, як у гэта гняздо ўвайшлі два незнаёмыя, а наперадзе іх маладая кабета Зося з дзіцем на руках.

Трое незнаёмых людзей, у чые кіпцюры папала цяпер маладая вясковая кабета, былі правадырамі тых шаек, якія, было чуваць, разгульвалі па гэтым самым лесе ўжо доўгі час і рабавалі ні ў чым непавінных сялян...

Першы незнаёмы быў высокаадукаваны чалавек, сын багатага пана... Высокі ростам... Бляды твар яго і ўсе манеры казалі аб яго добрым мінулым выхаванні, якое рыхтавала яго зусім для іншага жыцця... Звалі яго Белым... Другога незнаёмага звалі Крывым, празваным, напэўна, за тое, што сапраўды кульгаў на правую нагу... Кульгавая нага, глыбокія шрамы на твары і выбітае плячо левай рукі — добра сведчылі аб яго мінулай працы. Трэці незнаёмы, які толькі што ляжаў пад кустом, нізкага росту і ўвесь заросшы валасамі, быў ахвяраю сваёй палахлівасці... за сваю палахлівасць ён быў празваны Зайцам...

Уцёкшы са шчыльных радоў сваіх таварышаў, змаганнікаў за правы працоўнага народу, будучы і сам сынам працоўнай сям'і, ён папаў у лапы сваіх ворагаў і прымушан быў стаць іх паслугачом.

Да гэтай «тройцы» належаў яшчэ адзін падобны Зайцу сын вёскі — Грышка, які і сам сабе не даваў адказу,

чаму ён святло і вольнае жыццё прамяняў на лес і вечны страх...

Грышка быў імі пасланы ў бліжэйшую вёску, каб выведаць, што і як там робіцца...

Стоячы паміж трыма незнаёмымі мужчынамі, ноччу, у гушчары лесу, Зося схіліла галаву на твар свайго дзіцяці і пачала плакаць...

— А як пекна яна выглядае,— сказаў Белы Зайцу, які, набраўшыся смеласці, выходзіў з-за дрэва, кінуўшы вінтоўку пад куст.

— Шкада, што ўжо матка,— загаманіў Кульгавы,— быў бы смачны для цябе кусочак, Белы... А сынок твой... ці можа дачушка, такая прыгожая, як і ты?..

Пры гэтых словах Кульгавы падышоў бліжэй, зірнуў у твар Зосі, пасля закрануў пальцам нос дзіцяці і сказаў:

— Што? Ты не баішся нас? А? Як цябе завуць?

— Міхаська,— прагаварыла праз слёзы заплаканая маці і мацней прыхінула дзіця да сваіх грудзей...

— Ну, значыць, маладзец... Прывыкай, брат, з гэтых гадоў да лесу, да бяссонных начэй... Вырасцеш — не страшна будзе... А то, бачыш, наш Заяц не прывык ночы цэлыя па лясах разгульваць — цяпер, нябось, часамі страшна яму бывае... То-то я!..

Пры гэтых словах ён абвёў усіх вачамі і зноў астанавіў свой погляд на прыгожым твары Зосі:

— Даўно замужам?

— Паўтара года...

— А мужанёк твой дзе пажывае?

— Не ведаю... у войску... забралі...

— Э, вось яно што! — злосна смеючыся, прашыпеў Крывы.— А за што ён ваюе? Хто паслаў яго ў войска?..

— Забралі... ён не хацеў ісці... Мяне шкадаваў... але сказалі ісці — пайшоў...

— Ну, ён ваюе з намі, а мы паваюем з табою...

Зося закалацілася, а маленькі Міхаська зноў заплакаў.

— Ціха, ціха, сынок — пачала праз слёзы гаварыць Зося, калышучы на руках дзіця,— загінуў татка твой загінеш і ты без часу, мая ты кветачка..

Заяц, лежачы пад кустом, круціў папяросу. Павярнуўшыся да Крывога, ён сказаў:

— А што вінавата жонка, калі мужа забралі ў войска?.. Я вось таксама, пакуль не ўцёк у лес, прымушан быў служыць чырвоным... Яны бяруць і не пытаюць, хочаш ты ці не хочаш ісці... Эх, брат, і там і тут — адзін чорт. Яшчэ там хоць смялей спаў, а тут вось ляжы дзень і ноч і бойся, каб цябе таго...

— Ды такім, як ты, і месца на печы,— сказаў да яго Крывы.— Я дзіўлюся, як ты да гэтага часу ад нас не ўцёк — трус...

— Даўно б мяне тут не бачылі, але куды?.. Зноў туды?.. Яно б нічога, каб усё так мінавала... Але як прыставяць... Эх, чорт бяры — сон пракляты не бярэ...

— Эх, баба! — крыкнуў на яго Белы,— спаць не час цяпер... Сам ведаеш, што трэцюю ноч тут начуем... Значыць, трэба новае гняздо выбіраць... Ідзі на «шырокую» мо' Грышку спаткаеш, яму сёння чарга падшукаць хату на тры ночы... Чуеш?.. Без усякіх спрэчак... Мокрая курыца!..

Заяц нешта хацеў сказаць, але апошнія словы Белага гэтак былі сказаны, што яго рот так і астаўся расчыненым. Пасля нядоўгага маўчання, калі Заяц сабраўся адыходзіць, Белы павярнуўся да яго і сказаў:

— Глядзець у абодва!.. А спаткаеш Грышку,— скажы, што ёсць краля... Ён, здаецца, ахвотна возіцца з імі...

Пры гэтых словах Белы з ухмылкай на вуснах падышоў і глянуў у твар Зосі.

Заяц, аглянуўшыся на ўсе бакі і буркнуўшы некалькі слоў сабе пад нос, ціха пасунуўся ў густыя кусты...

— Жыва, жыва! — крыкнуў Белы і пачаў гаварыць да Крывога:

— Ты нічога не прыкмячаеш?

— Не,— адазваўся Крывы.

— Я пачынаю бачыць, што нашы два малайцы нешта таго?!

— Як, што?

— Нешта гаманіць пачынаюць па-інакшаму... і аб чырвоных лепш адзываюцца?!

— Нічога, брат! Гэта так сабе,— угаворваў яго Крывы,— вядомая рэч, абодва маладыя, вясковыя вароны, — вось і не могуць прывыкнуць да прастору. Як у іх жыцці будзе дэвізам «сёння ўсё, а заўтра нічога», як у мяне, тады зусім інакшымі зробяцца: час і тыя абставіны, у якіх яны знаходзяцца, сваё возьмуць...

— А мне здаецца, што колькі ваўка ні кармі, а ўсё-такі ён у лес цягне... Так і яны... Мужычая кроў цячэ ў іх жылах — вось у чым уся бяда. А грошы тут не заўсёды сваё возьмуць...

— Эх, Белы, Белы! Вось у маіх жылах ніякай крыві няма. Ні мужычай, ні панскай... У мяне цячэ кроў... ну, кроў загінуўшага чалавека, які прадае сябе таму, хто даражэй плаціць... Ну, вядома, не так хутка ты зробіш іх вернымі паслугачамі, якім стаў для цябе я... Ну, ды не час аб гэтым разводзіць тары-бары... Наша краля штось прыгарунілася... Сумна без мужанька? Га?.. Ну, нічога! Белы! Даўно ты цалаваў загарэлы твар вясковай дзяўчыны?.. Нябось, панічы і даўней ад гэтага не адхіляліся...

— Кінь жарты, Крывы!.. Бліжэй да справы,— агрызнуўся Белы і, адышоўшы, стаў каля дрэва...

Крывы пачаў аб усім распытваць у нявольніцы, якая больш маўчала або казала, што нічога не ведае. Крывы пачынаў злавацца.

— Маніш,— сказаў ён,— а ўчора да вас чырвоныя не прыязджалі?..

— Я ў полі жала, нікога не бачыла,— адказала Зося, чуць-чуць ступіўшы ўбок...

— Стой! — крыкнуў Крывы,— не мецься толькі ўцякаць — вельмі дрэнна будзе...

— Я не ўцяку. Але што вы хочаце са мною рабіць?

— Нічога! — адказаў Крывы і, падышоўшы бліжэй, абняў яе прыгожы стан.

— Вон, паганец!

І чорная мазолістая рука адпіхнула ад сябе плюгавы твар Крывога...

— О-го! го!.. Вось яно што! А ну, дай твайго сынка патрымаць Беламу, а мы з табою зробім міравую...

— Не дам і дзіцяці паганіць аб нячыстыя рукі твае. Ты думаеш, што я баюся смерці? О, не! Зусім не страшна

памерці, але не пазволю паганіць ні сябе, ні свайго чыстага дзіцяці...

— Ха-ха-ха! — паліўся па ўсяму лесу штучны смех Крывога.— Бачыш, Белы! Яна баба, таво, я першую спатыкаю гэткую. Шкода, што карантыш гэты з ёю, а то ў нашу кампанію...

— Эх вы, душагубцы! Хто к вам пойдзе! Хіба гэткія паганцы, як вы!

— Ну, годзе, годзе!

Моцная рука Крывога ўхапіла за стан Зосі гэтак моцна, што яна ад болю закрычала.

— Ціха! — пагразіўся Крывы.— А то вось зараз... Белы, вазьмі абаронца.

Белы ўзяў дзіця, а жылістыя рукі Крывога абвілі стан маладой кабеты.

— Ратуйце! — крычала Зося.— Людзі... хто верыць... ах...

І больш яна не магла вымавіць і слова, як рука гвалтаўніка заткнула яе рот...

— Цягні далей... у кусты,— казаў Белы, гушкаючы на руках маленькага Міхася,— я паняньчуся з яе абаронцам...

Час-ад-часу вырываліся крыкі Зосі, якую азвярэўшы Крывы цягнуў у гушчар лесу, чуўся крык дзіцяці на руках Белага. Белы не мог ніяк заняньчыць Міхаську. Ходзячы ад куста да куста, злосна гаманіў:

— Ну і ночка выдалася! Яшчэ гэткай не было...

— Ну ціха, ціха, прахвост, а то я цябе... А-а-а!.. Ніколі не няньчыўся з малымі, і тут — на табе! Гэй, Крывы, кінь ты вадзіць! Пусці матку, няхай крыкуна гэтага супакоіць!..

Але адказаў не было чуваць, толькі было чутно далёкае стагнанне і войканне...

— Праклятая ноч! — бурчаў Белы, носячыся з дзіцянём...

А месяц супакойна пазіраў на гэта гняздо і нібы ўсміхаўся сваім пабялелым тварам.

У гэты самы час на краі лесу, між густых альховых кустоў, аглядаючыся на ўсе бакі, блукаў, як непрытомны, іх чацвёрты хаўруснік — Грышка.

Яму трэ' было выпаўніць даручанае заданне: выса-

чыць, ці ёсць чырвоныя ў вёсцы, і падшукаць новае таемнае гняздо для начлегу трох чарговых начэй.

Грышка быў сын небагататага селяніна той самай вёскі, у якую яго пасылалі цяпер з даручэннем.

Больш паўтара года таму назад яго прызвалі ў Чырвоную Армію. Пабыўшы два разы ў баях, яму гэтак усё далося ў знакі, што ён уцёк са сваёй вайсковай часці і пачаў хавацца па лесе, каб толькі больш не чуць стуку гармат і траскатні кулямётаў.

Жывучы ў лесе, ён спаткаў першага таварыша па няшчасцю — Зайца, які пазнаёміў яго і далучыў да шайкі Белага і Крывога.

Зусім не па душы прыйшлося Грышку новае жыццё з новымі, дагэтуль незнаёмымі людзьмі.

Грышка думаў, каб уцячы дамоў, заняцца супакойна працаю на сваёй гаспадарцы і каб гэтым усё скончылася.

А ўсё яно выйшла іначай і зусім не так, як бы гэта хацелася.

І вось цяпер ён ужо доўгі час жыве вольным жыхаром лесу, але жывецца яму не ахці вольна.

Шмат разоў памыкаўся Грышка ўцячы зноў у сваю часць або з'явіцца ахвотна дамоў, але нейкая невядомая палахлівасць брала свой верх, і ён стаў патроху прывыкаць і асвойвацца са сваім становішчам.

Тыя людзі, апрача Зайца, з якімі яму прыходзілася тут спатыкацца і жыць, былі зусім іншых поглядаў на жыццё, чым ён, але голад і холад прымусіў з імі зжыцца і стаць іх верным наймітам.

Грышка ўвесь час наравіў, каб бліжэй «перакачаваць» да сваіх краёў і адтуль уцячы дамоў...

Яго жаданне споўнілася.

Цяпер ён у сваім родным ляску, пасланы ў сваю мілую вёску, каб высачыць там «ворага».

Грышка ўжо парашыў уцячы і не вярнуцца, але вось дзве ночы падходзіў аж да сваіх гумнаў, але не адважыўся зайсці ў хату.

— Апошняя ноч,— шаптаў ён, выходзячы з лесу і кустамі ідучы праз поле,— а заўтра, калі не пакіну гэтага паганага гнязда, хто ведае, што рыхтуе новае логвішча? Мо' вловяць!? Мо' рука Белага расшчэпіць мне

галаву, калі дазнаецца, што я хачу ўцячы дахаты? Хто ведае?..

З гэтымі словамі Грышка мерыўся ўжо выйсці на поплаў каля сваіх родных загонаў.

Ціхі ветрык заварушыў кусты. Грышка супыніўся. Да яго вуха даляцелі спевы жней.

У яго пакаціліся слёзы. Раптам успомнілася яму маладая жонка, якая, напэўна, думае, што яе Грышачка ўжо даўно не жыве. Успомніліся яму ўсе дзіцячыя гады, калі ён смела гуляў па гэтаму ляску, пасучы быдла, і калі ён зранку да познай ночкі працаваў вось тут недалёчка на сваёй сенажаці...

Але зараз, нібы тыя крыллі чорнай ночы, ахінулі яго новыя думкі. Грышка ўспомніў пра сваё жыццё ў лесе разам з тымі, праз каго ён усё сваё жыццё пакутаваў і пакутуе яшчэ і цяпер.

Напады на непавінных людзей, кражы і рабункі, забойствы — усё гэта пачало выплываць у яго памяці, і валасы падняліся дыбам.

«Божа,— думаў ён,— даруй мне; я ні ў чым не вінен... На маёй душы няма гэтага цяжкага грэху... Калі і прыходзілася крыўдзіць чалавека, дык толькі затым, што мяне прымушалі... А сам я... О, не!.. І сам я грэшны... Навошта я ўцякаў сюды?.. Навошта я разам з гэтымі прадажнымі душамі жыў тут?»

Усё наўкола змоўкла. Грышка прытуліўся да дрэва і, закрыўшы рукою свой пачарнеўшы твар, пачаў плакаць...

Яго сэрца нібы што чула, але не хацела казаць. Яго пачуццё нібы шаптала яму, што гэта апошняя ноч, а заўтра жыццё новае...

Раптам ён увесь задрыжаў і пачаў туліцца да зямлі... Да яго даляцелі словы песні:

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ.
Каб у злучнасці братняй
Узняўся людскі род...

— Яны!.. Гэта чырвоныя! — шаптаў ён пра сябе і сам не ведаў, куды цяпер кінуцца.— Значыцца, зноў назад... зноў не пабачу ні роднага кутка, ні родных і мілых сэрцу людзей.

У гэты момант ззаду пачуўся трэск сухога галля... Грышка так і гопнуўся на мокрую зямлю, чакаючы, што вось-вось яго схопяць ззаду, або будзе пранізан астрыём штыка. Толькі знаёмы свіст прымусіў яго прыйсці да памяці.

Грышка свіснуў па-свойму, і з яго вачэй пачалі знікаць чырвоныя кругі... Прайшло паўхвіліны, і перад ім стаяў Заяц.

— Ты тут? — казаў ён Грышку,— а мне казалі ісці на «шырокую»... («шырокаю» называлі грэблю, якая цягнулася цераз лес)...

— Гэта ты, Заяц?

— Я!

— А мне здалося...

— Ды мала што табе здаецца... Вось кажы хутчэй, дзе выбраў начлег і ці мерышся ісці ў вёску...

Грышка маўчаў.

— Ды ты што? — загаманіў мацней Заяц,— вады ў рот набраў! Знарок пагналі даведацца, як і што ў цябе... Ведаеш сам, што я не ахвотнік да гэткіх спраў...

— У вёску я не пайду... а падшукаць новую кватэру можна... Я, Заяц,— пачаў Грышка ўстаючы гаварыць,— больш не магу тут аставацца... Кажу табе аднаму, бо ведаю, хто ты.

— Ну, а як жа я? — прагаварыў збіты з панталыку Заяц.— Што ж я адзін астануся з гэтымі ябеднікамі? Ніколі! Ды што ты сапраўды задумаў уцячы?!

Грышка трохі памаўчаў і сказаў:

— Але!..

— Куды?

— Сам не ведаю...

— Вось табе і на,— вытрашчыўшы вочы і гледзячы на яго, казаў Заяц,— як жа так можна? З агню ў полымя хочаш папасці?

— Абы тут не быць... Ты падумай, Заяц, каму служым? А? Думаў ты над гэтым? Таму, каму служылі нашы бацькі і дзяды — панам. Ты чуў, што Белы не адзін раз казаў, што ўсіх мужыкоў трэба перавешаць. А мы хто з табою? І ты думаеш, што ён пакіне нас, калі яго верх будзе? Падумай толькі, процiў каго мы аружжа выстаўляем? Процiў чырвоных? А чырвоныя хто? Нашы

бацькі і браты... Эх, Заяц, мы не людзі, а звяры і горш за звяроў.

Заяц увесь час не пярэчыў, а толькі ківаў галавою і казаў:

— Гэта праўда, але што рабіць?

— Я ўжо вырашыў,— сказаў Грышка,— як толькі настане поўнач, я пакідаю гэту паганую справу і тых паганцаў, што ўвесь час кіравалі тут намі, і гайда ў сваю вёску. Лепш смерць, але жыць гэтак даволі.

— А дзе ж твая вёска?

— Вось тут, за паўвярсты адгэтуль.

— Ці праўда? І ты нічога не казаў? Тады і я... я таксама з табою... А там што будзе, дык будзе... Цяпер, бач, я босы, гэта нічога, а што будзе, калі зараз пачнуцца халодныя дні восені, а там і зіма... Ды вось што, Грышка, я табе і не хвалюся: нашы людаеды бабу злавілі, ды яшчэ з дзіцем.

— Калі? дзе?

— Не ведаю, але прывялі. Мяне прагналі цябе шукаць, ну, а каля яе ўзяліся.

— Эх, паганыя стварэнні,— сказаў праз зубы Грышка,— зноў пачнуць вырабляць тое, што тады...

— Шкадавалі, што цябе няма. «Ён, кажуць, любіць з кралямі вазіцца»... Ну, ды пойдзем туды... А як заснуць — мы падумаем-падумаем — ды давай бог ногі... Вось толькі б зразу чырвоным не папасціся...

— Ну, дык пайшлі,— рашуча сказаў Грышка...

Грышка і Заяц павярнулі ў глыбіню лесу і пайшлі туды, дзе знаходзілася іх гняздо.

Месяц гэтак ясна пачаў свяціць, што яны, каб схавацца ў цень, павінны былі ўлукаткі хадзіць між невялічкіх кустоў.

— А ты што, Заяц, думаеш, што я сапраўды вельмі ласы да кабет? Не, брат! Толькі дзякуючы мне тая кабета асталася жывою — я памог ёй уцячы з нашага гнязда. Да ты сам ведаеш па сабе, што мы яшчэ да гэтага не дайшлі, каб бесчалавечна гвалтаваць непавінную душу... Хіба час і гэта звярынае жыццё ўсяму навучаць...

І радзячыся аб тым, як ім пакінуць лес і зноў уцячы да людзей, яны не прыкмецілі, як сталі падыходзіць да таго глухога гушчару, дзе знаходзілася іх гняздо...

— Ціха, ціха! — сказаў Грышка і астанавіўся.— Што гэта? Плач дзіцяці?

— Але! Але! Значыцца, яна яшчэ тут.

Раптам Грышка ўвесь зрабіўся белы як палатно і сказаў:

— А што, калі з нашай вёскі кабета? Самая бліжняя вёска,— усё можа быць... Тады яна спазнае мяне...

Пры гэтых словах Грышка моцна сціснуў рукою востры клінок, які вісеў з правага боку на абрэзаным кавалку вяроўкі.

— А вось, чуеш, Заяц? Чуеш плаксівы голас кабеты? Ідзі за мною... Толькі смела!..

— Хто? — пачуўся голас Белага.

— Свае! — адказаў Грышка і шпарка пабег на голас Крывога, які ў кроках дваццаці ад кустоў, на маленькай палянцы, асвечанай месяцам, здзекаваўся з Зосі.

— А-а-а! Грышка? — гукаў Крывы.— Ну, брат, апошняя ночка ў гэтым гняздзе таго? — Вось дзе птушачка! Злавіць — злавілася, а больш ні-ні... Паўгадзіны важуся... Вось дзе кабета!..

Погляд Грышкі раптам астанавіўся на яе загарэлым асвечаным месяцам твары...

— Ах, божа! — закрычаў ён на ўвесь лес і, не помнячы нічога, адскочыў назад.

Яго рука з непамернаю сілаю выхваціла клінок, які сярэбраным колерам бліснуў у паветры. Размахнуўшыся з усіх сіл, ён парнуў ім у патыліцу Крывога...

— О-о-ой! — цягуча панеслася па лесе, і адною прадажнаю душою на свеце стала меней.

— Гэта ты? Ты!.. Зося... мая дарагая,— трасучыся ад перапалоху, шаптаў Грышка...

Яна была памяртвелаю і ледзь дыхала... Грышка не пераставаў гушкаць яе на сваіх руках...

Пачуўшы крык і войканне, Белы кінуў на разасланую світку дзіця і пабег глядзець, што робіцца на палянцы. Калі ён падскочыў да Крывога і, не ведаючы ў чым справа, пачаў, нагнуўшыся над ім, нечага пытаць, Заяц прыкладам сваёй вінтоўкі гэтак лоўка хвазянуў па галаве, што Белы тут жа і ўпаў на халадзеючае цела свайго вернага таварыша. Дзве выстраленыя кулі ўслед за гэтым як бы аджывілі Белага. Ён чуць-чуць прашаптаў:

— Апошняя... ноч... апошняя...

Месяц як бы нарочна схаваўся за хмарку, каб не быць сведкаю ўсяго таго, што тварылася на маленькай палянцы густога лесу...

— Ну, Грышка, мы цяпер адны. Цяпер вольны выбраць сабе новы жыццёвы шлях...

З гэтымі словамі Заяц падышоў да Грышкі.

— Што? Замучылі, праклятыя?

Зося трохі пачала разумець. Адчыніўшы вочы, яна не зразу спазнала, хто трымаў яе на руках. Пачала ўглядацца...

— Хто гэта?

— Я, Зоська, я—твой Рыгорка... Што, не спазнала?..

Тым часам Заяц узяў на рукі дзіця і прынёс да Зосі...

— Міхалка жыў? — пыталася Зося, беручы дзіця на рукі.

— Сынок мой,— цалуючы Міхаську, гаварыў Грышка,— вось дзе першы раз спаткаўся ты са сваім татам. — І Грышка пачаў плакаць.

— Вось яно што? Значыцца, гэта твая жонка? — запытаўся Заяц.

— Зоська! Даруй мне... Цяпер я не астануся тут... Я з табою пайду...

Абняўшы яе і дзіця, ён хацеў пацалаваць, але рука Зосі адпіхнула яго твар, і яна сказала:

— Ты такі, як і тыя, чуеш? Я баюся цябе!

— Няпраўда, я ніколі гэткім не быў і не буду. Даруй мне ўсё, можа, мне хто іншы не даруе... Але больш вам не гуляць па лесе,— сказаў ён, гледзячы на мертвякоў.

— Можа, заўтра і мы будзем разам з вамі, але двума ворагамі працоўнага народу меней...

— А заўтра яшчэ двума меней стане: нас расстраляюць, як з'явімся самі,— бубнеў пад нос Заяц, апусціўшы галаву.

— А можа, даруюць? — разважаў Грышка.— Аб усім прызнаемся і зноў пойдзем у войска...

— А можа?! — прагаварыў за ім Заяц.

Зося заплакала і шчадней прыгарнулася да грудзей Грышкі... Міхаська маўчаў, як бы разумеў, што наўкол яго дзеецца...

— Рыгорка! Пойдзем дамоў... Нічога не будзе... Хто

сам вяртаецца, таму лёгкую кару накладаюць або зусім даруюць... Пойдзем, дарагі Рыгорка... Каб не ты — і я і сынок твой загінулі б...

— І ты, Заяц, з намі — разам паміраць або разам радавацца будзем новаму жыццю... Старое, нябось надаела...

— Ну, што ж! Пойдзем разам! Тут я не астануся... Значыцца — апошняя ноч?!

— Апошняя! — моцна паўтарыў Грышка, беручы на свае рукі дзіця...

— Апошняя!..— пакацілася рэха па ўсяму лесу.

Круглы месячык зноў выплыў з-за хмары, каб асвяціць блукаючым людзям сцежку, якія ішлі ад цемры і смерці к новаму, светламу, вольнаму жыццю...

Лес чуць-чуць пачынаў шумець, як бы запяваў хаўтурную песню над пакойнікамі...

А далёка-далёка моцна рагатаў лясун.

## НА ПАСЕКАХ

### I

У маёнтку пана Manішэўскага жыццё ішло звычайнымі крокамі...

Пан, аддаўшы загад аканому, ехаў з паняю баляваць у бліжэйшы маёнтак, аканом ганяў да працы парабкоў, парабкі бурчалі пад нос і запускалі моцныя слоўцы і на пана і на аканома...

Толькі вось у адзін дзень, вечарам, пан, не паспеўшы выскачыць з брычкі, паклікаў да сябе аканома і сказаў:

— Вайною пахне... Ты, Францішак, чым найхутчэй павінен мне прадаць Пасекі... Чуеш? Заўтра ж дай ведаць мужыкам аколічных вёсак, хай прыходзяць да мяне...

— Ну, а як жа, шаноўны пане, калі сячанскія мужыкі зноў перашкодзяць... іх жа сервітут...

— Ат! Я ім паабяцаю ў іншым месцы, а пакуль што мне ёсць рахунак прадаваць Пасекі... З гэтым трэба паспяшацца, бо... пахне і вельмі пахне вайною... Ну, дык ты іх пастарайся ўгаварыць, а ў нядзелю ў мяне будзе адвакат, я з ім параджуся наконта сервітуту...

Пан пайшоў да пакояў, а аканом зараз жа сеў на каня і паскакаў у Сячанку, якая знаходзілася вярсты за тры ад маёнтка... Сяляне якраз вярталіся з поля... Аканом заехаў да старасты і растлумачыў таму, у чым тут справа, прасіў старасту, які лічыўся ў вёсцы

самым разумным чалавекам, угаварыць мужыкоў адкупіць зразу ўсю Пасеку...

Праз паўгадзіны каля старастава́га двара сабралася амаль не ўся вёска.

— Нешта нядобрае чуе пан, калі Пасекі задумаў прадаваць...

—Ды проста,— адказаў аканом,— хоча чым-небудзь здаволіць сваіх суседзяў-сялян... Вось чаму яму і пажадана, каб усе Пасекі былі адкуплены вамі...

— О, які пан стаў добры,— вырвалася ў Андрэя Драчуна,— і аб нас, мужыках, стаў клапаціцца... Не, тут, мужчыны, нешта не тое...

— А каму ж, калі не пану, аб вас клапаціцца?

— А калі так,— загукаў Марцін Краўчонак,— дык няхай аддасць нам наша — сервітут няхай аддасць...

Усе сяляне голасна загаманілі...

— Але, але! — пачалі раздавацца галасы...

— У нас і даная ёсць, колькі нам належыць ад Манішэўскага... Яшчэ бацька яго павінен быў павялічыць нашы надзелы, а тут сын задумаў за нашу зямлю грошы з нас дзерці... Не дамо, мужчыны, прадаваць Пасекі?.. А не, то няхай у Падгацці аддасць нашу частку ды сенажаці ў Прылуках выдзеліць...

— Не дамо!..— загукалі ўсе ў адзін голас...

Аканом пабачыў, што ні аб чым не дагаворышся, сеў на каня ды гайда да маёнтка. А сяляне яшчэ доўга гаманілі паміж сабою, радзіліся, як быць, і парашылі, што не толькі самім не купляць, а і другім мужыкам не дазволіць купляць на Пасеках зямлю, пакуль пан не разлічыцца за сервітут...

Аканом, як трэ' было і чакаць, аб усім далажыў пану... Пан доўга маўчаў, кусаў кончыкі вусоў, нарэшце закрычаў:

— Ну, гэта яшчэ пабачыма! Яны зноў хочуць, каб я ўспомніў ім пяты год... Мяцежнікі! А ты, Францішак, стары, але дурны... Колькі з мужыкамі жывеш, а не ўмееш да іх падысці як след... Не ведаеш, з кім справу маеш... А яшчэ шляхецкая кроў у жылах цячэ... Ідзі!..

Аканом выскачыў куляю з пакояў, а пан закурыў цыгару, сеў у крэсла і пачаў думаць...

— Гм... Вайна! Гэта нічога... Але як што іншае?..

У галаве зароіліся палахлівыя думкі... Не п'ючы вячэрняй гарбаты, ён заснуў.

Да нядзелі ў маёнтак не паказаўся ні адзін ваколічны мужык...

— Тут нешта нядобрае,— прагаварыў пан,— раней пішчом лезлі, каб прадаў ці зямлі ці лесу, а то сам наказаў, і ніхто не ідзе...

Зараз жа загадаў запрэгчы брычку і разам з аканомам паехаў у Сячанку...

Хлопцы і дзяўчаты гулялі прыбранымі... Каля кожных варот стаяла па некалькі мужчын... Шмат хто пакланіўся пану, які на стаенным жарабцы пракаціў па вёсцы да старасты...

— Пасекі прывёз прадаваць,— смяяліся мужчыны... Каля старастывых варот сабралася вялікая грамада. Пан выйшаў ад старасты, а за ім аканом і староста...

— Ну, што, мужчыны?

— Нічога, пане, жывем памаленьку,— адказаў Марцін Краўчонак,— толькі вось пан скрыўдзіць надумаў...

— Што ты, Марцін? Як і чым?

— Ды Пасекі пан, здаецца, мае замеры прадаць, а гэта ж нашы надзелы...

— У сервітуце, значыцца,— падхапілі сяляне...

— Вы што? Звар'яцелі? Вашы Пасекі?..

— Ды гэтак жа і ў данай паказвае... Яшчэ ваш нябожчык бацька павінен быў...

— Ну, гэта глупства мне гародзіце... Няхай вам нябожчык і дае... Вось хочаце, дык купляйце... Для вас я таней прадам... Зямля добрая, вось толькі пні павыдзіраць...

Андрэй Драчун не мог далей маўчаць...

— Што гэта пан надумаў?

— Як што? Пасекі прадаць...

— Хто ж іх у пана купіць?

— Не купіце вы, купіць нехта іншы...

— Па-першаму,— пачаў Драчун,— яны клінам уразаюцца ў нашы палосы, дык хто гэта туды палезе, а па-другому — мы не дазволім, каб хто і хацеў купіць... Пан, пэўна, жартуе?!

— Як гэта не дазволім? Што? Вы зноў бунтаваць? Будзеце ўсе там, дзе сядзіць Бутрым, калі вы мне слова пікнеце... Даю вам два тыдні тэрміну... Падумайце і купіце, а не — дык!..

— Ну, гэта яшчэ пабачым,— прашаптаў Андрэй Драчун.— А палохаць нас не вельмі...

Брычка зноў пасакатала, уздымаючы хмару пылу... Мужыкі ўсе маўчалі... Усе перанесліся ў мінулае, калі ў пятым годзе іх, па ласцы гэтага самага пана, «хрысцілі» бізунамі казакі за тое, што збунтаваліся і не пайшлі бульбу выбіраць за залатоўку ў дзень...

— Глядзі ты яго, пузаты чорт, успамінае пра Бутрыма,— першы загаварыў Драчун, якому Бутрым прыходзіўся блізкім сваяком,— знойдзецца на тваю галаву яшчэ не адзін Бутрым! Я сам табе першы жывот гэты тоўсты прапару...

Зухаваты хлапец Грышка падышоў да Драчуна і сказаў:

— Я, дзядзенька, чуць-чуць памятаю той час... Але вось, каб цяпер, то я, дальбог жа, першы... Эх, толькі вось іншыя ў нас... Ды стараста таксама, як відаць, ліжацца з панам... Сказаў бы ад усяго вобчаства: не хочам купляць і другім не дазволім.

Усе пачалі расходзіцца. Пачуліся гукі гармоніка... Грышка плюнуў, вылаяўся яшчэ раз і тады пайшоў.

Сонца закацілася за хмару... Каля старасты ўжо нікога не было, толькі нейкі зусім сівенькі дзядуля стаяў каля вушулы варот і ўціраў кулаком слёзы...

Гэта быў бацька Бутрыма...

— Успомнілі... зноў успомнілі, зладзеі... восем з палавінаю гадоў... Ах, сынок мой дарагі...

І сляза за слязою кацілася па зморшчаным твары...

## II

Загрукалі гарматы...

— О, маё сэрца чула,— гаварыў пан, паціраючы рукі,—усё-такі дурняў знайшоў, а цяпер хоць трава там не расці...

Зямля на Пасеках была прададзена багатаму шляхціцу, які шмат гадоў арандаваў княжацкі маёнтак.

Сячанскія сяляне павінны былі здаць сваю пазіцыю дзеля таго, што Андрэя Драчуна і яшчэ самых галоўных заправіл вёскі забралі на вайну ў першую мабілізацыю...

— Калі не цяпер, дык як вярнуся з вайны, я гэтага паганага «шэршня» выкуру з Пасекі,— сказаў Драчун, пакідаючы вёску...

А Ліпніцкі, купіўшы Пасекі, зараз жа стаў абжывацца... Пачаў строіць новыя будынкі, карчаваць поле, дакупіў да Пасек яшчэ дваццаць дзесяцін, каля рэчкі, сенажаці... Праз два з палавінаю гады ён чужымі рукамі выстраіў гэткі маёнтачак, што яму нават пазайздросціў і сам Манішэўскі...

Фронт штораз то ўсё сунуўся бліжэй і бліжэй... Сячанцы апускалі рукі... А Ліпніцкі і вухам не вёў, а рыхтаваўся жыць тут цэлую вечнасць...

— Бач,— гаманілі сячанцы,— Ліпніцкі, мусіць, і паміраць не думае? Глядзі, які за гэткі час палац пабудаваў...

— Нічога,— адказаў адзін з сялян,— вайна спаліць усе яго палацы... Толькі шкада, што гэта праца такіх жа самых гаротнікаў, як і мы... А яго што? Грошы якія... таксама чужым мазалём здабыты...

Але вось войска пачало капаць зямлянкі і на Пасеках... Тады толькі Ліпніцкі ўбачыў, што не ўсюды ціха... Хацеў ён забараніць псаваць яму засеяныя жытам ляды, але пабачыў, што мае справу не з сячанскімі мужыкамі... А сам Манішэўскі зараз жа кудысьці выехаў, пакінуўшы ўсё дабро на аканома...

— О, пачало пячы панам,— смяяліся сячанцы,— наш пан некуды шмыгануў, а Ліпніцкі, кажуць, дзень і ноч богу моліцца, каб нашы немцаў усіх пабілі...

Не прайшло двух тыдняў, як Ліпніцкі прыляцеў у Сячанку сварыцца, што вясковыя коні атаву патравілі ля рэчкі.

— Здаецца, пан Ліпніцкі, першы раз да нас і трапіў,— падсміхваліся сячанцы...

— Не меў інтарэсу да мужыкоў,—вырвалася ў яго...

— Ну, дык і мы не хочам мець... Заварочвай аглоблі...

— Ну, а за атаву калі расквітаемся?..

— Ды ўжо тады, як і за Пасекі,— адказаў Марцін Краўчонак, які даўно вастрыў зубы на Ліпніцкага...

— Ну, пачакайце! — паргазіў ён пальцам, садзячыся ў каламажку...

— Шэршань!..— пусціў нехта з грамады за ім слова...

Ліпніцкі, буркаючы нешта сабе пад нос, завярнуў у бок Пасекаў і пачаў паганяць каня...

— Глядзіце, глядзіце! — крычалі малыя хлопцы,— то ж Андрэй Драчун едзе...

— Ах ты, ваяка!.. Ну, як здароў?

— Што, зусім ужо?

— На папраўку,— загаварыў весела Андрэй і пачаў цалавацца з усімі па парадку...

— Ай, ды стары ты стаў...

— А жонка, жонка як будзе рада! — гаварылі, вітаючыся з ім, бабы...

— Ну, а Пасекі як? — было яго першае запытанне...

— Ды вось толькі што Ліпніцкі тут быў, атаву яго паелі вясковыя коні...

— Гэ, Андрэйка, не бачыць нам Пасекаў, як сваіх вушэй... Гэткія палацы пабудаваў,— куды там!.. А Манішэўскі некуды ўцёк, калі пачало тут войска станавіцца...

Вечарам у Драчуновай хаце была чуць не ўся вёска...

— Не бойцеся, сюды немец не прыйдзе... Хутка яму капут...

— Я чуў,— казаў канцавы Міхалка,— што нібыта вясною замірэнне будзе?

— Можа, і будзе, але ненадоўга... Не з немцамі будзем ваяваць, дык з кім-небудзь...

— Няўжо ж з французам? — запытала Тэкля, якая прыйшла да Андрэя, каб пісьмо сыну напісаць.

— А калі самі з сабой? — адказаў Андрэй...

— Ну, гэта не вайна,— смяяліся сяляне,— гэта так сабе... бойка... у гэткую вайну і мы можам пайсці... Толькі з кім нам біцца?

— Хіба з Ліпніцкім,— гукнуў нехта з грамады...

— Во, праўду сказаў... Але што ж яго нам біць: ён адзін, а нас вунь колькі!..

Раптам праскрыпелі дзверы...

— Гэта што за сход? — І ўраднік, бразгаючы шпо-

рамі, пачаў працiскацца да стала... Усе змоўклі і пачалі скідаць шапкі...

— Тут чыя хата?

— Мая,— адказаў Драчун...

— Вайсковы?

— Але, сёння прыйшоў на тры месяцы на пабыўку...

— Гэта ты — Андрэй Халімонаў Драчун?

— Я.

— Ты арыштован!

Усе, разявіўшы раты, застылі.

— Гэй, вы,— загукаў урадпік,— зараз жа зрабіць вобыск.

Два стражнікі сталі каля дзвярэй, а два прыняліся шукаць...

— Што вам трэба? — супакойна запытаў Андрэй.

— Мы ведаем, што нам трэба! — крыкнуў ураднік.— Толькі нікога не выпускаць — усіх абшукаем...

Мужыкі пачалі шаптацца. Ніхто не ведаў, чаго шукаюць. Жонка Андрэя і двое малых дзяцей пачалі плакаць.

— Вось як ты з вераю і праўдаю служыш цару? — гаварыў ураднік, сочачы за вобыскам...

— Даволі таго, што вы, сабакі подлыя, верна яму служыце...

— Ага, — заскрыпеў зубамі ўраднік, — значыць праўда...

— Ну, дык не шукайце, здраднікі людскія, я сам вам аддам,— і пры гэтых словах Андрэй дастаў свой паходны мяшок і выцягнуў адтуль жмут папер...

— Вось, задушыцеся імі...

— Няўжо ж, як Бутрыма, за кніжкі...— пачалі шаптацца мужыкі.

— Больш няма? — перадаючы стражніку паперы, пытаў ураднік.

— О, не бойся, ёсць столькі, што ўсе вы, царскія найміты, не сабераце...

Праз некалькі хвілін Андрэй, акружаны стражнікамі, выходзіў з хаты. Жонка залівалася горкімі слязьмі... Бабы і мужыкі таксама пачалі плакаць.

— Ненадоўга,— сказаў Андрэй,— хутка пабачымся... А я пайду вам Пасекі адваёўваць... Глядзіце жонкі... дзяцей...

Асенняя чорная ноч пацямнела, калі Андрэй выйшаў на вуліцу... Мужыкі пачалі разыходзіцца, а бабы супакойвалі жонку Андрэя, якая кінулася на пасцель і залілася, як морам, слязьмі.

Над сячанцамі яшчэ гусцейшая навісла хмара... Усю зіму не маглі яны забыць Андрэя...

— Хутка вернецца, казаў...

І пры гэтых словах сонца пачынала выглядаць з-за хмары і жартаўліва, але з нейкім прадчуццём, ухмылялася...

## III

Прыйшла новая, яшчэ небывалая восень... Як мала часу прайшло, а як шмат чаго здарылася!

Андрэй зноў у сваёй вёсцы.

— Ну, а цяпер—гуляй бедната! Тваё пачынае брацъ...

— Пасекі нашы будуць?

— Гэ, што Пасекі,— смяяўся Андрэй, — усё наша будзе!..

І сячанцы чуць не на руках насілі Андрэя.

— А што, Андрэй, дрэнна было ў астрозе?.. А праз каго, скажы, браток? Хто выдаў цябе?

— Ды цяпер можна сказаць: праз пана Ліпніцкага.

— Што?! Як жа гэта? Ён не знаў цябе зусім...

— А вось увосені, едучы дамоў, я парабкам яго на полі раздаў гэтых самых кніжак... А ў вёсцы з ім і стрэўся... Фурман яго, Даніла, ведае мяне... Ён, пэўна, без усякай благой думкі сказаў, што гэта Андрэй Драчун дамоў паехаў. А зараз жа Ліпніцкі, едучы ад нас, заехаў на поле ды неяк пабачыў гэтыя кніжкі... Парабкі, як пачаў іх выпытваць ды пагражаць, сказалі, што жаўнер нейкі праехаў ды даў пачытаць... Ну, а той тады і змікіціў, што гэта я, ды ўраднiку... Гэтак у пратаколе значылася... як судзілі мяне...

— Ах, паслугач панскі, глядзі ты — чалавека хацеў закапаць... Але вось сам няхай цяпер гэтага хлеба паспытае.

— А Манішэўскі што? — запытаў Андрэй.

— Ды за тыдні два перад гэтым, як цара скінулі, уцёк некуды...

А ў гэтую самую ноч на Пасеках было відна, хоць іголкі збірай... Нехта падпаліў новыя будовы Ліпніцкага.

Сячане прахваціліся ў самую поўнач... Пабеглі на пажар. Ваколічныя вёскі таксама беглі на агонь... Кожны хацеў чым-небудзь пажывіцца...

— Не браць! — загукаў, прыбегшы туды, Андрэй,— калі загарэлася, няхай усё гарыць, каб духу панскага не асталося...

А праз паўгадзіны яшчэ святлей стала на Пасеках... Загарэўся маёнтак Манішэўскага...

Частка людзей пабегла туды... Аканом Манішэўскага, які не паспеў уцячы разам з панам, бегаў на дзядзінцы і прасіў, каб затушыць...

— Цябе яшчэ туды ўкінуць,— закрычаў здаравенны парабак Яўхім,— хай згарыць гэта паганае гняздо, каб не было куды варочацца звярам-кравапіўцам... Мы там не жылі...

— Мы сабе лепшыя пабудуем, якія не будуць успамінаць аб мінулым.

Толькі панскія падлізнікі бегалі наўкола палаючага пакоя і шапталі пацеры...

Стары Ахрэм, які трыццаць пяць год праслужыў пастухом у гэтым маёнтку, выйшаў з пякарні і пазіраў на вогненную стыхію, якая штораз, то ўсё хутчэй і шчырэй несла дымам ахвяру да неба, каб скупіць прад чалавецтвам усе тыя здзекі і ўчынкі, якія ўтвараліся ў гэтых пакоях...

— І там светла,— сказаў Ахрэм, пазіраючы на Пасекі,— і новае гняздо дымам нясецца ўгору...

— Не шкада табе, Ахрэм, што гэткія пакоі і ўсё дабро ў іх нішчыцца? — падышоўшы, запытаў яго Яўхім...

Ахрэм доўга маўчаў, а пасля адказаў:

— Не. Хоць гэта ўсё і наша, але не шкада...

І здавалася, што ўся зямля хутка загарыцца, а неба ўтопіцца ў чырвоным водбліску пажару.

На Пасеках пагарэла ўсё.

Парабкі і дзяўчаты разышліся, хто куды папала. Ліпніцкі быў арыштован, але пасля нямаведама дзе загінуў...

Сяляне захадзілі каля Пасек...

Той, хто прадаў, і той, хто купіў — абодва загінулі... Усё ж такі наша — нам...

...А прайшло некалькі тыдняў. Ліпніцкі як з зямлі вырас. Ён зноў з'явіўся разам з находам немцаў.

Усё было зруйнавана... Толькі абгарэлыя шуллі стаялі, як тыя вартаўнікі размытага дажджом вогнішча...

— Вось тут... Я калісь...

Але крык людзей і скрып калёс вывелі яго з задуменнасці... Ён азірнуўся і пабачыў, што сячане вязуць бярвенне з яго бору.

— Стойце! — крыкнуў ён нечалавечым голасам.— Спалілі, зруйнавалі!.. А цяпер яшчэ... Эх вы, зладзеі!..

Не паспеў ён аглянуцца, як магутная рука Яўхіма абхапіла яго шыю...

— Дык ты яшчэ жыў? Сабака паганы!

— Не душы, не трэба рук мараць! — загаманілі мужчыны.

— Каб гэтак я свайго злавіў пана — тут бы з яго і дух вон. А ты... не стоіш таго, каб Яўхім цябе... Нікому не скажаш?

— Не...— прашаптаў Ліпніцкі і чуць-чуць пачаў дыхаць.

Сячане абкружылі Ліпніцкага і сталі трымаць раду, што з ім рабіць...

— Шкада,— сказаў аднавокі Кузьма,— паўцякалі нашы хлопцы. Яны б ведалі, які суд над ім учыніць... Вось Андрэй бы Драчун быў, якога ты прадаў калісь, помніш?

— А ён... вярнуўся? — дражачым голасам запытаў Ліпніцкі.

— Га! — падхапіў Яўхім.— Ты думаў, што яго загубіў? Такія, як ён, не гэтак хутка гінуць... не гэтак лёгка... а вось ты тут жа павінен знайсці сваю сабачую смерць...

— Пусціце... бярыце і сячыце!

— Ды не за гэта, а за тое, што чалавека прадаў...

— Даруйце... Я вінен у тым...

— Годзе! — угаворвалі мужчыны Яўхіма.— Ён сам сабе галаву хутка зверне, навошта мараць рукі...

— Жыві, паганае стварэнне, ды глядзі, каб аб гэтым спатканні, апроч нас ды гэтай Пасекі, ніхто не ведаў...

Ліпніцкі пабажыўся, што нікому не данясе...

Праз тыдзень сячане даведаліся, што ў Даўгабродскім лесе Ліпніцкага знайшлі павешаным...

— Сабаку — сабачая смерць,— сказаў Яўхім,— яшчэ на другую галіну Манішэўскага трэба было павесіць...

Сячане захадзілі каля Пасек.

— А можа яшчэ вернецца і сам пан Манішэўскі! — гаварылі яны,— боязна прыступаць да падзелу... Хутчэй бы прыйшлі нашы хлопцы.

Больш за ўсіх сваіх хлапцоў чакаў Яўхім. Ён даў слова не ісці больш да паноў парабкам. Цяпер па просьбе Андрэя Драчуна жыў у яго жонкі. Памагаў засяваць ёй шнур і карміць дзяцей...

Дні беглі... Пасекі пачыналі зарастаць быллём і палыном.

Сячане чагосьці чакалі.

Нямнога прайшло часу, як пачалі хадзіць чуткі, што зноў ідуць бальшавікі.

— Эгэ, ці я не казаў, што хлопцы нашы не забавяцца!? — радаваў сябе Яўхім.

І чорны бор, скуль ваколічныя мужыкі вазілі паціху новыя хаты, зашумеў галасней, як бы прадчуваў, што дажывае апошнія дні, як бы раней уведаў, што яго высекуць...

А на Пасеках было зацішша. Толькі вецер шалёны свістаў, як бы пяяў жалобную песню па мінулым.

## IV

Пасекі ажывіліся... Зусім новыя людзі насялілі іх.

Хлопцы і дзяўчаты ў белых кашулях, як мак, упрыгожылі поле.

Работа кіпіць. Разудалыя песні глушаць усю аколіцу.

— Ай ды камуна! Глядзі, як у іх усё ідзе скора і гладка: мы жыта не паспелі павазіць, а яны авёс возяць,— гаварылі сяляне суседніх вёсак.— Ці не далучыцца і нам да іх?..

А сячане проста не маглі надзівіцца з усяго таго, што тварылася на Пасеках.

Андрэй Драчун быў самым баявым заправілам усёй камуны, а Яўхім — першым працаўнікам.

— А сяляне не памыкаюцца адняць у вас гэту зямлю?— пыталі ў Андрэя праязджаючыя інструктары і камісары.

— Ды што вы, гэта зямля належыць да Сячанкі па сервітуту, а сячане самі і захацелі, каб тут была камуна... Аддалі сюды сваіх малазямельных і батракоў, а частка парабкоў, што жылі калісь у пана,— вось хто ў нас у камуне.

— І непаразуменняў не бывае з ваколічнымі вёскамі?

— Куды там! Мы ў іх, а яны ў нас дарагімі гасцямі бываем,— гаварыў Андрэй.— Часцей заязджайце, ды, калі можна, кніжак і газетак нам сюды прышліце: на гэту зіму школку думаем адчыніць... Толькі вось з будынкам у нас туга. Згарэла ўсё панскае. Але нічагуткі. З часам усё будзе.

Не прайшло два гады жыцця камуны, як Пасекі нямажна было пазнаць.

Быў дзень супачынку. Хлопцы і дзяўчаты сабраліся каля Андрэя, а той апавядаў ім аб сваім вайсковым жыцці, як сядзеў у астрозе і як запісаўся ў бальшавікі. Усе слухалі. Засыпалі яго рознымі пытаннямі, на што Андрэй чуць успяваў адказваць. Раптам убачылі, што цэлая грамада людзей ідзе да іх з боку Сячанкі.

— Глядзіце, глядзіце! Ніяк вайною на нас сячанцы ідуць?

Усе зарагаталі і сталі напраўду цікавіцца, чаго гэта ўся вёска сыпле на Пасекі.

Пачуліся гукі рэвалюцыйнай песні, і грамада стала падыходзіць бліжэй.

— Ну, значыць, свае, калі з гэтай песняй ідуць,— пажартаваў Андрэй.

Падышлі зусім блізка. Нарэшце ўсе сышліся, пачалі вітацца. На тварах сячан столькі было напісана радасці, столькі бадзёрасці чулася ў гутарцы, але ніхто з камунараў не мог зразумець, з чаго яны ўстроілі гэткую ўрачыстую гасцібу.

— Не пазналі, не пазналі! — гаманілі сячане...

— Ах! Ты — Бутрым?! — вырвалася ў Андрэя...

І Андрэй гэтак моцна абняў ужо напалову пасівеўшага незнаёмца, што, здавалася, яны больш і не разлучацца. Слёзы ў абодвух пакапалі з вачэй.

Мала хто знаў Бутрыма, але ўсе чулі пра яго, і цяпер не маглі ўпомніць у сэрцы сваім радасці, якую ім прынёс дарагі госць.

— А я і не думаў, што нашы сячанцы першымі добры прыклад пададуць,— загаманіў Бутрым.

— Крыўдзіш нас, Бутрым,— загукалі мужчыны.— Што табе, сячане не на агні печаны? Ды ты паглядзі, як камуна ў нас спраўна працуе. Напэўна хутка мы ўсе сюды запішамся і загоны свае далучым да Пасек...

— Вітаю вас, братцы, вітаю з добрым пачаткам! Збожжа, што я сеяў тут, не загінула...

— О, не! — падхапілі сячане.— Яно ўжо дало добры прыклад.

— Вось той,— казаў Андрэй да грамады,— хто першую жменю волі і братэрства пасеяў у нашай вёсцы, за што і пасівеў у астрозе...

Сонца, як бы нарочна, гэтак пачало пячы, што ўсе прымушаны былі пайсці ў цянёк, дзе доўга гутарылі з Бутрымам, што робіцца на свеце... а пасля ўсе гуртам праводзілі яго да самай вёскі.

— Калі Бутрым пахваліў нас,—гаварылі ў камуне,— значыць, справа наша ўгору ідзе...

І на Пасеках яшчэ шпарчэй пайшла праца... Слава аб камуне пайшла на ўсю акругу. Шмат людзей прыходзіла паглядзець, як жывецца, як ідзе праца, а шмат хто прыходзіў і чаму-небудзь павучыцца.

У адзін дзень, якраз у час полудню, каля ганка астанавілася каламажка, і ў ёй сядзеў бацюшка суседняга прыходу.

Усе здзіўлена пераглянуліся і пачалі рагатаць.

— Бачыце, бачыце,— сказаў адзін хлапец,— бацюшка прыехаў у камуну запісацца.

— А-а? — сказаў Пётра, гадоў пад сорак пяць мужчына.— Ды гэта ж мой бацюшка: я ў яго калісь тры гады служыў.

Андрэй выйшаў на ганак.

— Здраствуйце! — сказаў бацюшка і зняў капялюш.

— Добры дзень! — адказаў Андрэй.
— Хто ў вас тут старшы?
— У нас няма старшых, усе мы роўныя!
— Значыцца, з вамі таксама можна гаманіць?
— Можна.

Бацюшка злез з воза, прывязаў лейцы за драбінку і ўзышоў на ганак.

— Я вось хацеў бы,—пачаў ён,—каб тут, на Пасеках, дастаць з паўдзесяцінкі сенажаці скасіць. Вядома, што хоць бы на пэўную частку. А то мае суседзі аднялі ў мяне да апошняй дзесяцінкі. А кароўку маю... трэба ж зіму як-небудзь пракарміць.

— У нас і ў саміх мала сена, не ведаем, як зіму прахарчуемся...
— А як жа вы тут?
— Ды камунаю.
— Ка-амунаю? — спужана загаварыў бацюшка і пачаў азірацца.
— Няма лішняга,— сказаў Андрэй, пазіраючы на бацюшку.

Бацюшка ўвесь час ціскаў у руках пугу і капялюш.

— Няма... так... няма... а я думаў...— Пры гэтым ён саскочыў з ганка і стаў заварочваць каня.
— Спужаўся аднаго слова, як чорт крыжа,— сказаў усміхаючыся Андрэй і пайшоў канчаць полудзень.

Выйшаў Пётра і падышоў да бацюшкі.

— Дзень добры, бацюшка!
— А, Пётра, калі не мыляюся?..
— Ён, той самы...
— Таксама ў камуне?! Ну, як жывеш?
— Вельмі добра. І да смерці хацеў бы так.
— Ды што ты, Пётра? А мне дрэнна...
— А вы, бацюшка, да нас, значыцца, у камуну...

Бацюшка адхіліўся ў другі бок і, каб не прымеціў Пётра, перажагнаўся...

— А ты, Пётра, молішся богу?
— Не.
— Чаму?
— Не ўмею.
— Навучыцца, навучыцца трэба...
— У праграму нашу, бацюшка, не ўходзяць малі-

тві... Часу няма гэтым займацца. Мы больш з плугам, з касою...

— Так, так... праграму ведаеш... Но! — загукаў бацюшка на каня.

— Пудзіла канаплянае,— забурчаў пад нос Пётра,— цябе слухаць цяпер нехта будзе!.. Ты маліся — за гэта грошы ад дурняў заграбаеш...

Дзяжурны барабаніў у павешаную бляху, што значыла выходзіць да працы...

Зноў жарты і вясёлыя песні заглушылі абшары палёў. А яскравае сонца са сваіх праменняў саткала бліскучазалацісты арэол над Пасекамі.

## БАЦЮШКА

### I

Быў святочны дзень.

Царкоўны звон, нібы дапяваючы сваю апошнюю песню, глушыў сягоння ўсю вёску мацней, як раней.

З белымі хусткамі на галовах, хрысцячыся за кожным ударам звону, ішлі дзве — тры старэнькія кабеты ў царкву...

Але не прайшло паўгадзіны, як каля царкоўнай агарожы пачалі збірацца людзі.

Між усіх сялян вызначалася высокая і стройная фігура Антона Мятлы, які, нягледзячы на летнюю спякоту, быў апрануты ў тоўстую суконную світку і падпяразаны поясам.

Яго рыжая барада, апушчаныя ўніз вусы, паморшчаны загарэлы твар гаварылі аб сур'ёзнасці і задуменнасці.

Ігнат Шпілька, які заўсёды любіў усунуць свой язык дзе трэба і дзе не трэба, не мог змаўчаць і тут, калі гутарка зайшла пра Антона, чаму ён адмовіўся быць царкоўным старастам...

— Ну, што ж,— залепятаў Ігнат,— як возьмем у арэнду царкву, мо', Антон, зноў згодзішся быць царкоўным старастам, мо' зноў станеш прадаваць свечкі?..

— Мо' хіба ты са сваім доўгім языком,— агрызнуўся Антон і пачаў смактаць люльку...

— Ха-ха-ха! Бач ты яго,— зарагатаўшы, пачаў Ігнат,— раней першым уваходзіў у царкву і апошнім

выходзіў, а цяпер і калом туды яго не загоніш... Тут нешта нядобрае...

— Ты, Ігнат, брэшаш, як той Лыска Марцінаў,— пачаў цененькім галаском гаманіць Сцяпан,— а аб справе ні слова. Нам вось цікава было б ведаць, як Антон глядзіць на гэта: браць нам у арэнду царкву ці не. Усё ж такі ён доўга служыў там і ведае, ці выгадна гэта нам, ці не?..

Усе нейкі час маўчалі.

Антон, паправіўшы шапку і выняўшы з зубоў люльку, загаманіў:

— Аб гэтым вы падумайце самі...

— Але ж ты такі бліжэй быў,— перабіў яго Сцяпан,— табе больш вядомы прыбыткі і страты, ды ўсё такое... дык і скажы.

— Я скажу,— пачаў Антон,— што з царквы столькі прыбыткаў, колькі і з казла: ні воўны, ні малака... Калі хто з вас верыць у бога, дык бяры царкву ў арэнду, хадзі, маліся, купляй свечкі, кармі папа, бі лоб...

— Ну, а ты?..— запыталі яго некалькі галасоў разам.

— Я не веру, што ёсць бог...

— А-а-а!..— разявіўшы рот, загаманілі ўсе сяляне і здзіўлена пазіралі на Антона...

У гэты самы час з царквы выйшаў сярэдняга росту чалавек у акулярах. На шапцы яго, як падышоў бліжэй, былі прыметны дзве дзюрачкі, дзе калісь сядзелі кукарды...

Гэта быў вясковы настаўнік.

— Добры дзень! — сказаў ён, падыходзячы да грамады...

Шмат хто з сялян знялі шапкі і пакланіліся...

— Што, на сход прыйшлі? — загаварыў ён.— Чаму ж у царкву не заходзіце...

— А што, там ужо сход пачаўся? — перабіў яго Ігнат.

— Не сход, а абедня...

Пры гэтым настаўнік абвёў усіх поглядам і супыніўся на Антону...

— Што ж ты, Антон, не прыходзіш да мяне пагаманіць, як раней, ці ўжо забыўся пра мяне?

— Не маю аб чым гаманіць з вамі, пане настаўнік, не здавальняе мяне ваша гутарка... У адну руку вы з бацюшкам, ну, а той вядома...

— Эх ты, Антон! Як не сорам,— пачырванеўшы, загаманіў настаўнік,— час цябе пакалечыў, зусім інакшым быў даўней. Хіба не памятаеш, як «Жыццё святых» я табе чытаў? Ну, а цяпер ты, пэўна, чытаеш нешта іншае... Вось не чакаў.

Тым часам ніхто не бачыў, як і адкуль у грамадзе з'явіўся стары валасны пісар, ад якога здалёку запахла самагонкаю...

— Ну што, гаспадзін настаўнік, аб высокай матэрыі з мужыкамі гутарыце?.. Даказваеце існаванне бога, вялікай праўды?.. Са святам вас вітаю...

Пры гэтым пісар падаў настаўніку руку і моцна пацалаваўся.

— Аднаго поля ягады,— буркнуў пад нос Антон і адышоў убок. Усе пазіралі на гэты малюнак і моўчкі ўсміхаліся.

— Я таксама на сход,— гаварыў пісар, павярнуўшыся да сялян, — трэба ратаваць царкву, трэба... Хаця, што мне да царквы? Я там ніколі не бываю, вось толькі айцец Пётра — з ім мы часта, значыцца, у праферансік таго...

Сяляне пераглянуліся.

У гэты час у царкве зноў зазванілі.

Пісар зняў капялюш, хацеў перахрысціцца, але пасля махнуў рукою і зноў надзеў.

— Не трэба, не трэба хрысціцца... Мяне і так айцец Пётра баіцца, бо я заўсёды на чырвенную даму выйграю... на матушку, значыць...

Сонца зайшло за хмару. Але нейкая духата прымусіла шмат каго распрануцца... Сяляне паселі каля плота, іншыя прымайстраваліся на бярвенні, якое ляжала непадалёку... Толькі пісар і настаўнік аб нечым увесь час гаманілі... Зрэдку далятаді асобныя словы пісара...

— Паслухаюць!.. Згодзяцца!

Хутка пачалі выходзіць з царквы.

— Мала, мала грэшных,— загаманілі мужчыны.

Антон не змаўчаў.

— На вайне дурняў пабілі, а разумным царква не патрэбна.

— А ты што? — падхапіў Ігнат.— Таксама дурны быў, што нават служыў у царкве?

— Выбралі, дык і служыў, а па-другому — быў дурань, цяпер паразумнеў...

— Бацюшка, бацюшка... Ціха!

Бацюшка ведаў, што каля царквы сёння сход, а дзеля гэтага, не падлічваўшы ўсіх прыбыткаў, выйшаў услед за народам.

Пісар і настаўнік пайшлі насустрач.

Сяляне паўставалі.

— Ну, што ж вы надумалі? — запытаў іх бацюшка пасля прывітання.

— Нічога не надумалі,— пачаў Ігнат Шпілька,— сабраліся, каб падумаць... Шмат хто, бацюшка, адмаўляецца плаціць арэнду за царкву...

— Ну, а ты як?

— Я? Ды я што,— як усе, так і я.

— А ты, Сцяпан, таксама адмовіўся?

— Я, бацюшка, ні тое, ні сёе; як усе, гэтак і я.

— Ну, а ўсе як? — гаварыў бацюшка, акідваючы грамаду поглядам.

К гэтаму часу сабралася шмат хлапцоў і дзяўчат.

— Не трэба нам царквы,— гукнуў нехта ззаду,— школа патрэбна.

Усе азірнуліся назад і пачалі шаптацца.

Пісар, стоячы побач з бацюшкам, закрычаў:

— Ціха! Хто гэта там? Не звяртайце, бацюшка, увагі. Гэта нехта з хлапцоў.

— Я, бацюшка, два разы сход склікаў па гэтай справе,— пачаў старшыня савета,— абодва разы большасць была за тое, каб не браць царквы ў арэнду... Ну, а цяпер няхай тут мужчыны з вамі вырашаць — браць ці не.

— Я, дарагія прыхаджане, яшчэ раз пытаю,— пачаў густым басам бацюшка сваю прамову,— трэба вам дзяцей хрысціць?

Усе маўчалі. Пісар, пазіраючы на грамаду, адказаў:

— Трэба!

— Вянчацца ў царкве трэба? — пытаў бацюшка.

Пісар зноў адказаў:

— Трэба!

— Пакойнікаў адпяваць трэба?

— Трэба! — злосна закрычаў пісар і звярнуўся

да грамады: — Вы што, мужчыны, глухія? Ці ж нам гэта ўсё не трэба, аб чым пытае айцец Пётра? Асталопы вы, каб вас чорт узяў!

— Не трэба лаяцца,— усцішаў яго настаўнік,— усё вырашым паціху...

— А калі вам усё гэта трэба,— гучней загаманіў бацюшка,— то патрэбен і я вам. Ну, а калі я прымушан буду вам служыць, то, вядома, не дарам...

— То ж пісар за ўсіх гаварыў,— абазваўся Антон,— мо' вы яму і патрэбны, а сяляне маўчаць: яны сваё слова скажуць.

— Ну, а як ты, Антон, наконта гэтай самай арэнды? — пыталі сяляне.

— Я,— пачаў ён,— не дам і фунта, а вы як хочаце.

— Во маладзец Антон,— загукалі хлапцы і дзяўчаты маладыя...

— Ціха вы там, жэўжыкі! Супакойцеся! — гукнуў на іх пісар.

— Дык як жа, мужчыны,— пачаў казаць Хведар Дрозд,— усё гэта, што казаў бацюшка, трэба,— не будзем жа мы жыць нехрысцямі альбо паміраць без малітвы; толькі вось, каб невялікая арэнда... У бацюшкі зямля ёсць...

Бацюшка не змоўчаў.

— Зямля ёсць, але яе воласць хоча адабраць... Апрача таго, сам жа я не магу працаваць на ёй, спаўняючы ўсе абавязкі па царкве. Вось вырашайце самі.

Грамада пачала шаптацца. Бабы голасна пачалі гаманіць, каб плаціць бацюшку, абы ён толькі не кідаў царкву.

Настаўнік і пісар, пагаманіўшы з бацюшкам, пачалі ўгаворваць, каб яны згадзіліся засяваць зямлю бацюшкаву, ну і невялічкую плацілі арэнду. Але Антон паставіў на сваім. Ён, не крывячы душою, пачаў апавядаць сялянам, за што ён кінуў царкву і перастаў верыць у бога. Расказаў, як бацюшка дзяліў грошы не па-божаму, як ён усе вечары ў карты гуляе і п'янствуе з пісарам ды настаўнікам, ды як нават часта за алтаром дзвюма бутэлькамі палошча чашу пасля святога прычасця.

Тут сяляне і загаманілі... А бацюшка пачаў спрачацца з Антонам, абзываючы яго бязбожнікам і гультаём.

— Маўчыце лепш, бацюшка,— казаў яму паважна Антон,— а то я калі ўсё раскажу, дык не гэтак здзівіцца той, хто лічыў і мо' цяпер лічыць вас за святога.

— Эх, Антон, Антон! — пакачаў галавою бацюшка і адышоў далей.

Грамада што раз усё расла і шырылася. Сонца зноў выпаўзла з-за хмары і пачало заганяць усіх у цянёк пад старыя ліпы. Бацюшка сеў на камені пад ліпаю і пачаў курыць папяросу.

— Сорам і грэх,— казаў ён,— ці я дрэнна малюся? Ці адмовіўся прыехаць да вас, калі ў вас былі хрысціны ці хаўтуры? Альбо шмат я з вас браў за ўсё?

— Аб гэтым што і сказаць,— загаманіў Ігнат,— усё рабілася ў меру. Але цяпер, бачыце, свет перавярнуўся, калі, як кажуць, і без гэтага ўсяго можна пражыць... Асабліва маладыя — яны ні ў вошта не вераць...

А маладыя хлапцы ва ўсю распіналіся, каб не браць царкву. Бацюшка пазіраў на іх скоса, а яны хоць бы што.

Доўга не змаўкала гамонка. Ішлі спрэчкі: браць ці не? Нарэшце, мужчыны пачалі гаварыць, што трэба яшчэ пачакаць...

— Чаго чакаць?! Чаго чакаць?! — гукалі пісар і настаўнік,— зараз можам напісаць пастанову, усе падпішаце і баста.

— Вы што гэта? — загаманіў за іх Антон.— Барышу хочаце мець, што гэтак за бацюшку цягнеце?..

Пісар і настаўнік пераглянуліся паміж сабою і змоўклі.

Бацюшка ўстаў і сказаў:

— Ну, мужчыны, калі вы ні да чога не дагаворыцеся, то я вам скажу: больш я абедню не служу і да вас не паеду ні хаваць, ні хрысціць, ні вянчаць... А вось калі вы возьмеце ў арэнду царкву, то тады што іншае будзе...

— Ды як жа, бацюшка, ці ж можна вам з-за таго, што мы не парашылі, як і што, ды царкву зачыняць?.. Не маліцца богу?.. У царкву ж прыходзяць. Ці ж можна вам...

— Калі можна вам, то можна і мне,— злосна сказаў бацюшка і пайшоў дахаты.

Пісар і настаўнік пайшлі ўслед за ім.

Сяляне не ведалі, што рабіць, не ведалі, як быць...

— Вось бачыце,— казаў Антон,— бачыце, за вошта і дзеля чаго ён моліцца. Зусім не дзеля таго, каб душа ў рай папала, а каб плацілі, каб жывот яго рос роўна з носам. І напэўна не пойдзе ў царкву, пакуль не дасцё яму арэнду... Ну, а тады ён будзе за вас маліцца... Як жа — вам лягчэй будзе... Ды плюньце вы, мужчыны,— час ісці абедаць.

Усе пачалі расходзіцца.

Бацюшка пазіраў праз акно і думаў, што яму рабіць.

Матушка Агрыпіна паставіла на стол страву і пачала яго клікаць.

— Ну, што ж яны?

— Хто?

— Мужыкі.

— Не хочуць думаць аб душы... Пачалі больш аб целе клапаціцца... паразумнелі,— казаў бацюшка, садзячыся за стол. — Шкода, што пісар і настаўнік не зайшлі...

— Ты і без іх... Там віно чырвонае.

Бацюшка выпіў залпам шклянку віна і пачаў закусваць.

— Успамінаю я гады свае бурсацкія,— казаў ён Агрыпіне,— калі і сам гаварыў бы тое, што яны цяпер гавораць... Не думаў я таму людзей вучыць, чаму і сам не веру. Але жыццё... Жыццё на хвалях сваіх можа занесці чалавека ў тую краіну, якая яму і не снілася... Вось і я: апынуўся цяпер і сам не ведаю дзе — ні з богам, у якога я сам сябе прымушаў верыць, ні з людзьмі, якім я доўгі час казаў няпраўду і ашукваў. Не ведаюць яны, сяляне, што ім рабіць, а я і два разы не ведаю, што мне рабіць?

— Вось еш, а не гамані... Пасля аб гэтым... А мне што? Не цяжка апынуцца ў тым палажэнні, у якім я жыла, пакуль ты не ўзяў мяне...

— Але, я падумаю пасля... Я падумаю... Вось сына няма... Не хоча да бацькоў ехаць: гаварыць няма аб чым, піша ў пісьме, пра бога, кажа, гаварыць не магу, бо не веру ў яго, ну аб чым іншым, кажа, ты са мной не захочаш гаманіць... А таксама бурсу прайшоў... А цяпер?!

— Камуністы,— прашаптала матушка і пачала падліваць яму ў талерку...

— Так... так... камуністы... А мне такі трэба падумаць, як і што быць... З голаду памерці прыйдзецца... Ох, як сённяшняе не падобна да таго, што было ўчора... Не па-до-о-бна!.. Трэба падумаць...

А сонца праз акно сваімі праменнямі, нібы лапамі, шчыкатала гэтага чалавека, які сядзеў у вялікай і глыбокай задумёнасці,— яно хацела развесяліць яго і заманіць туды, дзе прастора, дзе замест кадзільнага дыму ён бы ўдыхаў пах кветак на палях і сенажаці.

Сонца маніла яго з вечнай дамавіны к жыццю.

Ён пачуў магутную сілу праменняў... На яго твары з'явілася раптам вясёлая ўхмылка... Ён пачынаў жыць...

## II

Дні пабеглі за днямі. Усё ішло як і трэба.

Толькі вось званы ні ў свята, ні ў прысвяткі не заклікалі ў царкву людзей.

Дзівіліся людзі, чаму гэта бацюшка перастаў служыць імшу? Пачалі хадзіць па вёсцы гутаркі, каб усё ж такі ўзяць царкву ў арэнду... А другія казалі склікаць прадстаўнікоў са ўсёй парафіі і вырашыць, як быць і што рабіць...

Тым часам прыйшло вялікае свята для вёскі — св. Пятра і Паўла.

У гэты кірмашовы дзень бацюшка калісь, адслужыўшы імшу, хадзіў па вёсцы з вобразам з двара на двор, сабіраў буханкі хлеба, апаражняў рашоты з жытам ды ячменем, а дзяк набіваў кішэні медзянымі пятакамі.

Сягоння бацюшка прачнуўся раней, чым кожны дзень. Доўга ён хадзіў па хаце, нешта гаманіў сабе пад нос, а пасля сказаў, каб паклікалі вартаўніка царквы.

Стары, сівенькі вартаўнік Тамаш ішоў ужо і сам.

— Ты ведаеш што, Тамаш,— сказаў яму бацюшка,— ідзі вазьмі ключы ў царкоўнага старасты, адамкні царкву і пазвані... Толькі не ў адзін звон, як гэта ты раней рабіў, а ва ўсе разам... Гэтак пазвані, як ты звоніш на «многая лета»...

— Я такі ведаў, бацюшка, што ў гэткі вялікі дзень як жа без імшы... Ды сяляне самі, я чуў, хацелі сённека прыйсці да бацюшкі...

— Ну дык вось ідзі звані,— перабіў яго бацюшка,— звані гэтак моцна, каб чула не толькі наша вёска, але ўся парафія...

Тамаш бягом пабег выпаўніць загад бацюшкі.

Прайшло з паўгадзіны, і званы сваім гулам залівалі абшар у некалькі вёрст... Яны не званілі — яны плакалі, лементавалі, як бы прасілі ратаваць каго-небудзь...

Вёска перапужалася. Даўно яна чула гэты спеў, і цяпер для ўсіх гэта святая музыка здавалася нечым надзвычайным... Сяляне не маглі доўга зразумець, што гэта значыць.

— А што, вось і без арэнды памоліцца,— казалі адны,— сённяшні дзень яму добра ў памяці... Вось і думае, што прыбытак не малы будзе за ўсю турбацыю...

— А мне здаецца,— казаў Ігнат Шпілька, які першы сабраўся да царквы,— што сёння бацюшка імяніннік... Ну і захацеў імшу адслужыць... Бачыце, зразу з вясёлага звону пачаў — не гэтак, як заўсёды.

І ўся вёска пацягнулася ў царкву. Нават той, хто даўно не хадзіў, каго мо' толькі сабакі альбо дождж у царкву заганялі,— і той сёння ішоў пачуць казань, у якой, напэўна, думалі, бацюшка будзе лаяць сялян, што гэтак зневажаюць царкву, што яго не слухаюць і бога не баяцца. А шмат хто ішоў проста з той прычыны, каб пабачыць бацюшку, які ўжо даўно нідзе не паказваўся.

Бацюшка ўвайшоў у царкву першым. Ён загадаў царкоўнаму старасту, каб былі запалены ўсе лампадкі, каб ва ўсіх падсвечніках і вісячых жырандолях гарэлі свечкі.

Бесперарыўны плач звону вельмі хутка наклікаў поўную царкву людзей.

Кабеты і старыя мужчыны білі паклоны, хрысціліся і пaціху шапталі пацеры. Моладзь жа, якая прыйшла з-за цікавасці, а не з-за рэлігійнага пачуцця, паціху гаманіла паміж сабою і чакала, калі пакажацца бацюшка.

Дзяк кожную хвіліну бегаў з кліраса за алтар і ніяк не мог уцяміць, што гэта такое дзеецца.

А бацюшка за алтаром зусім не сабіраўся служыць імшу. Ён чакаў, каб чым больш прыйшло людзей.

У гаршчочак з вугаллямі, які стаяў за алтаром для распалкі кадзіла, бацюшка ўсыпаў некалькі жмень ла-

дану. Дым сіняю хмараю паваліў з алтара на царкву. Усе думалі, што вось-вось пачнецца ўрачыстая служба.

Святло рознакаляровых лампадак і свечак, якія зоркамі мігацелі ў воблаках дыму, далятаючыя гукі звону пераносілі ў нейкае таемнае царства. Усе былі ахоплены нейкім святым настроем, усім здавалася, што перажываюць лепшыя хвіліны свайго жыцця...

Раптам зашуршэла чырвоная заслона, адчыніліся сярэднія дзверы і... выйшаў бацюшка.

Уся грамада схіліла галовы, а пасля зірнула ўпярод і ахнула...

Перад імі стаяў не той бацюшка ў пазалочанай рызе, з камілаўкаю на галаве і кадзільніцаю ў руках.

Яны ўбачылі перад сабою чалавека ў звычайным адзенні, у адзенні, якое было на ўсіх парафіянах, што прыйшлі маліцца.

Але, гэта быў бацюшка, той самы бацюшка, які даўней выходзіў у пазалочаным адзенні. Цяпер гэты самы бацюшка перамяніў не толькі адзенне цела, але і адзенне душы сваёй.

Дзяк гэтак спалохаўся, што прысеў за аналой, на якім ляжалі кніжкі, і пазіраў на дзверы, ці ўцякаюць людзі.

Грамада пачала шушукацца і пераглядацца.

— Браты і сёстры, — сказаў моцным голасам бацюшка,— вы цяпер бачыце перад сабою такога самага чалавека, як і самі... Я болей не буду за вас маліцца, я з гэтага часу больш не бацюшка, а звычайны селянін вёскі...

— Я служыў вам, я выпаўняў вам усе царкоўныя патрэбы, і я з гэтага жыў... Цяпер я хачу жыць з таго, з чаго жывяце вы ўсе,— я буду працаваць на той паўвалоцы зямлі, якую і буду вас прасіць пакінуць за мною...

Усе маўчалі гэтак, што было чуваць, як пралятала муха...

— А як жа мы? — вырваўся з грамады здаўлены зык голасу...

— Вы,— пачаў казаць бацюшка, падыходзячы бліжэй да грамады,— калі хочаце, каб за вас, як і раней, хто-небудзь маліўся, служыў імшу, хрысціў дзяцей, вян-

чаў і адпяваў пакойнікаў, то наймеце сабе новага бацюшку. Я больш вам не слуга... Я сёння ж перадам сельсавету ўсё багацце царквы і больш сюды нагою не ступлю...

— А бог,— раздаліся галасы грамады,— бог, якому мы ўсе маліліся, якому ахвяры прыносілі. Ён пакарае нас... Мы царкву возьмем у арэнду... Мы хочам, каб званы кожнае свята пелі нам гэтую самую песню, якую спяваюць цяпер... Не кідайце, бацюшка, вам грэх будзе, вялікі грэх!.. Мы просім...

— Свайму богу я больш маліцца не буду... Не буду маліцца і за вас... Можа толькі памалюся тады, калі знайду свайго новага бога, які не пакарае гэтак, як караў мяне апошнія дні той бог, якому я ўсё жыццё маліўся... Я іду да вас. Я буду заўсёды з вамі, калі вы дазволіце жыць у вашай вёсцы...

Кабеты пачалі плакаць... А праз некалькі часу пайшлі гутаркі на самыя жыццёвыя тэмы.

Усе абступілі бацюшку і засыпалі яго пытаннямі... Хведар Дрозд, самы набожны селянін вёскі, да таго загаманіўся, што выняў люльку і хацеў закурыць, але зараз жа спахваціўся і тройчы перажагнаўся...

Званы замоўклі.

Народ высыпаў з царквы радасны як ніколі.

У гэты самы вечар да бацюшкі сабралася шмат сялян... Бацюшка спраўляў імяніны.

— Табе, бацюшка,— гукалі падвыпіўшыя мужыкі,— мы не толькі тваю зямлю пакінем, а яшчэ сваёй прырэжам кавалак, толькі з вёскі нашай — ні кроку!

— Мы табе, бацюшка, паможам і пакасіць і памалаціць,— казаў той самы Хведар, які шчыра маліўся ў царкве і пры спатканні цалаваў руку бацюшку,— бо яно спачатку, пакуль прызвычаішся, трохі цяжкавата...

— Не тое, што кадзільніцаю махаць,— падказаў Ігнат Шпілька, якому ўваччу ад самагону зрабілася цёмна і язык чапляўся за зубы.

Пісар і настаўнік сядзелі п'яныя, як тузы. Яны ўвесь час ківалі галовамі і за кожнаю чаркаю, перад тым, як закусіць, у адзін голас гаварылі:

— Эх, бацюшка, бацюшка!..

А бацюшка ўжо абгаворваў з сялянамі планы — дзе і што ён будзе засяваць і ў якім месцы ўзяць сенажаці, каб хоць колькі вазоў накасіць сена на зіму.

Але хутка самагон узяў сваё. Адны пачалі расходзіцца, а другія прымайстраваліся спаць на кухні. А бацюшка снопам паваліўся на ложак.

Гэтым кірмаш і скончыўся.

Назаўтра ж аб тым, што бацюшка больш не захацеў быць бацюшкам, ведала ўся аколіца. Доўга не верылі гэтаму здарэнню, а думалі, што гэта брахня. Шмат хто сумысля прыязджаў у вёску, дзе жыў бацюшка, каб упэўніцца, ці праўда гэта.

А для бацюшкі пачалося новае жыццё.

У адну прыгожую ліпнёвую раніцу бацюшка разам з усімі сялянамі быў на сенажаці. Пракос у пракос ішоў ён з другімі касцамі.

Каплі буйной расы, як слёзы, ліліся на зямлю, калі бацюшка свістаў касою па зялёнашаўкавістай густой траве.

— Што, цяжка, бацюшка? — усміхаючыся, пыталі суседзі.

— Нічагуткі, прывыкну... Вось толькі пара перастаць клікаць мяне бацюшкам... Завеце проста — Пётра...

— Няхай не гневаецца бацюшка, а Пятром клікаць ніяк не прызвычаімся... Столькі гадоў...

— Ну, ну! — смяяўся бацюшка.— А які ж я бацюшка, калі ўжо паперы паслаў да начальства свайго, каб выкасавалі з ліку царкоўнаслужнікаў... Пятром застануся назаўсёды...

— А зваць будзем бацюшкам.

У гэты час з-за кустоў высунулася, як здань, фігура Андрэя Краўчонка.

— Памажы божа,— сказаў ён да касцоў...

— Ты што гэта, Андрэй, траву топчаш, а не ідзеш касіць!

Андрэй з пахмурнелым тварам падышоў да бацюшкі, як бы нічога не чуючы.

— Я да вас, бацюшка.

— А што?

— Хлопчык мой памёр... Ну, як жа без бацюшкі... Хоць зямліцу пасвянціць...

— Ды што ты, Андрэй, я даўно не бацюшка — ты гэта ведаеш. Я і правоў не маю гэта рабіць...

— Я пакашу за бацюшку,— так, проста па-суседску...

Мужыкі зарагаталі.

— Чудак ты, Андрэй, як гэта «па-суседску»?..— пыталі мужыкі.

А бацюшка параіў з'ездзіць у другі прыход, калі хоча, каб хлопчык з адпяваннем быў пахован. Сам жа наадрэз адмовіўся, што ў гэтай справе ён дапамагчы не можа.

— Ну, значыцца, адным бацюшкам менш будзе,— шапталіся паміж сабою мужчыны,— не на жарты, а напраўду адмовіўся ад царквы наш бацюшка... Зусім хутка звычайным мужыком стане...

... І пачала зарастаць дарожка да царквы. Белая, размалёваная крыжамі і вобразамі святых, стаяла яна пасярод вёскі, як бы здань мінулага... На цвінтары вілася густая, высокая трава з канюшынаю. Старыя ліпы і бярозы, якія, нібы верныя вартаўнікі, стаялі наўкола жалезнай агарожы. Калі павяваў вецер — яны не шумелі, а стагналі, прыхіляючыся адна да другой сваім густым галлём.

— Што рабіць, бацюшка, з царквою? — пыталіся час-ад-часу сяляне,— усё ж такі не старая будыніна... Шмат працы паклалі на пабудову яе... Царквы, напэўна, больш не будзе,— адвыклі ўсе, дык і не цягне. А хто яшчэ хоча маліцца, дык няхай едзе ў суседнюю парафію...

— А вы самі абгаварыце ўсёю, значыцца, парафіяй, як і што з ёю зрабіць...

А ўся вёска пастанавіла, каб царкоўным звонам склікаць сялян на сход...

Вось адзін раз увечары стары Тамаш і забарабаніў на ўсе званы...

На сходзе за бацюшку галасавалі, каб ён увайшоў у камісію па падліку і раскладцы падатку...

— Што вы, мужчыны,— гукаў ён,— я ў гэтым яшчэ мала разумею... Вось хіба сын мой хутка прыедзе,— ён мяне хоць трохі адукуе...

— Нічога, бацюшка,— жартавалі хлопцы,— гэта не цяжэй, чым імшу служыць ці дзяцей хрысціць... Бацюшку просім, бацюшку!..

А калі пасля сходу пачалі пяяць «Інтэрнацыянал», то бацюшка, стоячы каля вушулы, гучней за ўсіх цягнуў басам:

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
У злучнасці братняй
Паўстане людскі род.

## ПАСЛЯ БУРЫ...

*(Сказ старога дзядулі)*

Схлупіліся хмары ў паветры...

Стала душна...

Вось-вось, думаем, пачнецца бура... Гэтак і сталася...

За тры дні да адступу палякаў амаль уся наша вёска са ўсёю жывёлаю перабралася ў лес, на палянку балота, і там дажывала апошнія дні польскага панавання...

У вёсцы асталіся толькі старыя ды малыя дзеці, якія раз-по-раз насілі весткі, а таксама і яду тым, хто пахаваўся...

Па вуліцах гайсалі на конях польскія афіцэры... Жаўнеры шарылі па хлявах і хатах, лавілі курэй, малых парасят, тут жа, на дварэ або на вуліцы, раскладалі вогнішча і варылі нарабаваную жывёлу...

Раптам перапалох...

На дарозе каля суседняй вёскі, вёрст за пяць, афіцэр убачыў цэлую грамаду людзей, якія, несучыся на конях, паднялі чорную хмару пылу...

— Бальшавікі! Бальшавікі! — закрычаў ён нечалавечым голасам, і ўсе жаўнеры, як адзін, хапіліся за стрэльбы...

Пачалася страляніна... Жаўнеры стралялі, хто куды папала, не ведаючы, дзе і з якога боку падыходзяць бальшавікі...

Гэта нас толькі радавала. Стралянінаю нас не напужаеш... Праз нашу вёску не раз ужо за часы гэтай калатніны лятаці кулі ды бомбы...

А вось што ідуць нашы — гэта зусім добра... Я ўскочыў у сваю хату...

— Баба! а, баба! — загукаў я на жонку: — Пячы бліны... госці ідуць...

— Ці ж можа быць? А божа літасцівы, дай жа ім сілы і адвагі, каб хутчэй гэтую погань пагналі ад нас!..

Але хутка ўсё зацiхла, і пранесліся чуткі, што гэта не бальшавікі былі, а хлопцы на начлег ехалі ці з коньмі ў лес ад паноў уцякалі...

А назаўтра а гадзіне дзесятай раніцы і сапраўды пачалі паны даваць лататы, бо бальшавікі наступалі з усіх бакоў... А тут яшчэ нашы хлопцы нямаведама скуль падаставалі стрэльбы і давай жарыць панам: хто з лесу, хто з жыта, а хто і ў адкрытую...

Наўкола, як можна было акінуць вокам, відаць быў толькі дым ды агонь...

Гэта гарэлі вёскі і масты, падпаленыя панамі, каб, напэўна, затрымаць наступ Чырвонай Арміі.

Пазіраем мы з-за вуглоў на вуліцу, ажно — на табе ліха!.. У польскай вопратцы бягуць па вуліцы нашы хлопцы... Мы ўсе ўголас...

— Ды што вы, пашалелі,— гукаем ім,— прадаліся... На свайго брата пайшлі...

— Не бойцеся,— крычаць яны рагочучы,— гэта мы панам даём па пятах...

— Гэта паўстанцы,— чуліся галасы.

Мы смялей пачалі вылязаць адусюль.

Страляніна, гоман і грукатня пачалі аддаляцца... Прайшло паўгадзіны поўнага зацішша...

— Урр-ра! — пранесліся ў канцы вёскі галасы...

Мы ўсе на вуліцы...

— Нашы! Нашы!..

Загарэлыя, запыленыя, але бадзёрыя і вясёлыя, як адзін, праходзілі чырвонаармейцы...

Апошняе пачалі мы выносіць, каб падмацаваць сілы нашых збавіцеляў... Выносім сала, хлеб, страву... Не бяруць чырвонаармейцы.

— Нам забаронена дарма браць — плаціць павінны...

Мы проста прасілі іх, каб яны хоць трохі пажывіліся чым-колечы.

— Зусім інакшымі сталі,— кажу я сваёй бабе, якая

напякла міску бліноў і выйшла частаваць гасцей,— памятаеш, апошні раз як былі перад польскім панаваннем і сілком калі-ні-калі бралі... А цяпер...

Было ўжо поўдня.

Цэлы абоз нашых уцекачоў цягнуўся ў вёску з лесу... Гналі кароў, авец, свіней...

Вечарам чырвонаармейцы склікалі мітынг.

Толькі позняя ноч улажыла ўсіх спаць...

Адно вартаўнікі хадзілі па вуліцы ды беспёрастанна трашчалі трашчоткамі... Па канцах жа вёскі стаялі каравульныя чырвонаармейцы.



Вось і жывём мы цяпер па-новаму ды па-вольнаму.

Успомніш мінулае — проста не верыцца. Нібы то сон, а не праўда была. Хто толькі не павандраваў па нашай зямліцы, хто крыві не пасмактаў нашай...

Чаго не прыйшлося перанесці і маёй старой спіне...

Закрыеш вочы ды зірнеш у мінулае, перанясешся на некалькі гадоў назад... Уся жыццёвая бура, як на далоні...

І што першым заўсёды кідаецца ў вочы — гэта шапка з чырвонаю звяздою... Каб не гэта шапка, здаецца, так бы і віселі вечныя хмары над нашымі загонамі, так бы і жылі мы ў духаце, якая не сёння, дык заўтра атруціла б усё паветра...

Часам і цяжка бывае... Няма таго, няма сяго. Але чуеш сябе гэтак вольна і бадзёра, што каб пад маё старое цела ды хто падставіў новыя, здаровыя ногі, сам бы ўзяў стрэльбу, адзеў бы шапку з чырвонаю звяздою, ды туды, на захад, дзе гэтак густа сабраліся хмары... Хочацца, каб там гэта бура пранеслася...

Мне думаецца, што хутка і там з'явіцца гэта чароўная шапка з чырвонаю звяздою. Нешта хмурна заўсёды ў тым баку, куды кожны дзень сонца заплывае...

Мне вось, часам, здаецца, калі я думкамі аблятаю ўвесь свет, што нават сонца, вось гэта самае, што ў нас гарыць і свеціць, як толькі туды, на тыя абшары спаўзае, зараз жа перастае блішчаць... Не можа яно там сеяць свае залатыя праменні...

А без сонечнага цяпла і свету няма жыцця...



Яго старыя прышчураныя вочы з-пад сівых густых броваў пазіралі ўдаль на захад... Здавалася, што ён хоча рынуцца туды, адзеўшы на сваю белую галаву шапку з чырвонаю звяздою...

Успаміны буры, здавалася, маладзілі яго на шмат гадоў і ўздымалі ў ім дух нейкага несвядомага пратэсту...

На твары гэтага старэнькага дзеда з'явілася ніколі не бачаная мною ўсмешка...

— Крылляў! Крылляў яму! — хацелася мне закрычаць моцным голасам...

Я быў нібы зачараваны і не мог свайго поглядуададарваць ад гэтага старога целам, але маладога духам героя-дзядулі...

## САМАЛЁТ

Вёска Венцяры была тым глухім кутком, які толькі можа спаткацца паміж абшараў беларускіх лясоў ды балот.

Венцяроўцы жылі ціха і супакойна праз шмат дзесяткаў гадоў... Ніщто не парушала іх ідылію... Ды што магло парушыць іх жыццё, калі вёска была недаступнай ні для нагі, ні для вока чалавечага.

Вёска стаяла паміж балота, паросшага густою лазою і алешнікам. Паводдаль жа, як нарачна, яе абвівала рэчка Пціч... Хаты з саламянымі і чаротавымі стрэхамі сталі на расцярэбленай палянцы, як на востраве... Гэтай палянкі зусім даволі было, каб засеяць збожжа ды бульбы і гэтым пракарміцца да новага ўраджаю.

Апрача таго, венцяроўцы лавілі шмат рыбы, білі розную звярыну, птушак і жылі прыпяваючы...

Мінула вайна, адбылася рэвалюцыя, а венцяроўцы жывуць, як і даўней... Ні за час вайны, ні за час рэвалюцыйнай барацьбы ні адна вайсковая часць не прайшла праз іх вёску... Вось толькі, як скінулі цара, то з воласці прыехаў нейкі чалавек і загадаў усім зніштожыць царскія партрэты... Але ніводнага партрэта ў вёсцы не было, так што сяляне доўга не маглі вырашыць, як ім выпаўніць гэты загад. А далей зноў пайшло, як і раней.

Летам ніхто не заглядваў у гэты глухі куток... Ды як жа можна папасці ў Венцяры? Або на лодцы пераехаць, а пасля мясіць па гразі, або пешкам прайсці старою грэб-

ляю, якую штогод у вясновае разводдзе гэтак размывала, што сяляне перасталі больш і папраўляць яе.

Не любілі венцяроўцы зімы. Тады шмат часцей да іх даведваліся чужыя людзі. Едучы па сена ці па дровы, суседняй вёскі мужыкі заязджаюць у Венцяры, каб купіць сухой рыбы або лапцей лазовых...

Але з'явіліся новыя грошы, і ўсякія гандлёвыя зносіны з суседнімі вёскамі спыніліся. Венцяроўцы адмовіліся іх браць... Можна было толькі абменным спосабам што-небудзь у іх выманіць.

Мала ішло венцяроўцаў і ў войска як пры цару, таксама і ў часе свабоды. Раней яны былі ў валасці на ўчоце, а пасля, як у час жыццёвай завірухі ў валасці пагарэлі паперы, дык ніхто ў другі раз не ішоў запісвацца... Нават і навароджаных сяляне не пісалі ў пасямейныя спісы...

Усё роўна згінуць паперы... Дык навошта іх псаваць запісамі... Ды, не запісаўшыся, ніхто і ведаць аб табе не будзе, а гэта і найлепей,— разважалі венцяроўцы і ўсё глыбей і далей залазілі ў лазу ды балота.

Валасць шмат разоў прабавала прысылаць той ці іншы загад, але венцяроўцы былі няграматныя і загадаў ніколі не чыталі. А калі аднаго разу ў асеннія замаразкі з валасці прыехала некалькі чалавек, то ўсе жыхары разбегліся па балоце, асталіся толькі дзеці ды старыя кабеты. Пасля гэтага валасць махнула на ўсё рукою і больш да іх не прыязджала...

Але вось аднаго разу негадана-нечакана бяда здарылася, ды такая, якой самы старэйшы селянін вёскі не памятае.

Быў цёплы летні дзень... Венцяроўцы працавалі — хто на полі, хто на сенажаці, а хто проста каля хаты. Невядома што быў за дзень: панядзелак ці пятніца, свята ці будні, бо венцяроўцы днёў не лічылі і святкавалі тады, як не было працы...

Дык вось у гэты самы дзень здарылася тое, што заварушыла балота і раз назаўсёды жыццё венцяроўцаў зрабіла неспакойным...

Было ўжо крыху за поўдня, але сонца смаліла нібы лучынкаю... Наўкола была такая ціша, што пляскание рыбы ў рэчцы было чуваць за некалькі гоней.

Раптам да вёскі пачалі далятаць нейкія нячутныя дагэтуль гукі, — ні то гудзенне жука, ні то малатарні... Але гэта не быў шум лесу, які гэтак часта напяваў свае нудныя спевы венцяроўцам.

Мужчыны і кабеты, дзе хто ні быў, пачалі азірацца і паглядаць угору... На іх тварах быў прымецен нейкі перапалох...

Шум чагось невядомага ўсё гучней і гучней далятаў да іх вушэй...

Прайшло некалькі хвілін, і венцяроўцы ўбачылі, што далёка-далёка ў блакітнай высі плыве да іх нешта бліскучае, вельмі пахожае на птушку-стрыжа, якая палошча паветра перад дажджом...

Гэта птушка ўсё бліжэй і бліжэй ляцела да іх паляны... Венцяроўцы пачалі сходзіцца ў адну грамаду. Над іх вёскай першы раз пралятае гэта няведамае страшыдла, маючае сілу ўзняцца да нябёс...

Сяляне маўчалі і з заміраннем сэрца сачылі за птушкай, чакаючы, што вось-вось яна апусціцца на іх загоны...

— Нічога страшнага,— казаў малады хлапец Хведар, які год таму назад вярнуўся дамоў, адзін за ўсю вёску адслужыўшы вайсковую службу,— гэта самалёт, такі струмант, што сам лятае, а ў ім сядзяць людзі...

Усіх ахапіла цікавасць... Хацелася бліжэй пабачыць гэту нябачаную штуку-самалёт.

Зусім ужо нізка кружыцца самалёт, гудзе, рэжа крыллямі паветра і проста мерыцца апусціцца на грамаду, якая сабралася на прасторным папары за вёскаю.

— Ён падае на зямлю! — крычалі малыя хлопцы.— Можа, сапсаваўся, а можа, вестку цікавую прывёз да нас.

— А можа, хоча каго-небудзь ухапіць,— сказаў другі хлапец, азіраючы на дзяўчат,— уцякайма, пакуль яшчэ кружыцца ўгары...

— Кіньце жартаваць, падшыванцы,— крыкнуў стары Пракоп ды, скінуўшы шапку і выняўшы з зубоў люльку, стаў пазіраць на самалёт, які то апускаўся аж да комінаў хат, то зноў уздымаўся высока-высока...

Грамада ўвесь час спрачалася паміж сабою, тлумачачы на ўсе лады, што ўсё гэта значыць... Перапалох пачаў праходзіць.

Раптам самалёт з непамернай вышыні вопрамеццю пачаў падаць на зямлю, робячы розныя выкрутасы то ўлева, то ўправа...

Некалькі чалавек кінулася ўцякаць у вёску... Уся грамада разбеглася... Маладыя хлапчукі прыляглі пад мяжою і, як зайцы, баяліся выткнуць вушы.

Самалёт апусціўся на чыстай і гладкай угарцованай авечкамі палосцы, непадалёку, дзе толькі што стаяла грамада.

Два чалавекі вылезлі з самалёта і махалі на сялян шапкамі, каб ішлі да іх...

Ніхто першым не адважваўся...

— Ды што яны — звяры, што мы іх баімся,— гаварылі сяляне, збіраючыся зноў у грамаду.— Гэй вы, моладзь, пабяжыце да гэтых летуноў, можа, ім дапамагчы што-небудзь патрэбна!..

— Хто са мною? Я першы,— крычаў Хведар да хлапцоў.— Эх вы, як жа на пазіцыі, калі гэты самы самалёт зверху яшчэ бонбы кідае... А тут жа не пазіцыя... Гэта нашы летуны прыляцелі...

— Добра... нашы,— развindependent старыя,— але чаго ж прыляцелі сюды, у гэта нетра-балота... Тут, пэўна, нешта не зусім чыстае...

Першым да самалёта пайшоў Хведар, а за ім нясмела, ззаду, дыбала яшчэ некалькі смялейшых хлапцоў...

Летуны ж не рушыліся з месца, а ўвесь час махалі шапкамі і нешта крычалі...

Прайшло колькі хвілін, і самалёт быў акружан грамадою сялян, якія адважыліся рушыцца толькі пасля таго, як туды зайшлі свае хлопцы і паклікалі іх...

Як старыя, гэтак і моладзь спачатку пужліва падыходзілі да самалёта і аглядалі яго з усіх бакоў...

— Вось дык штука,— казаў зухаваты хлапец Мікітка,— каб нам такую самалётку, хоць бы ў воласць зляталі, а то наўкол гэткае балота, што ні пехтурой, ні на кані не вылезеш з вёскі...

Летуны тут жа тлумачылі сялянам, як і чаму ён лятае ў паветры, якая карысць можа быць ад самалёта. Хацелі даць хлопцам кніжак і ліसткоў, але зразу некалькі галасоў адказала, што ў вёсцы няма ніводнага граматнага чалавека.

Летуны пацiскалi плячыма, паглядзелi адзiн на другога i пачалi ўгаворваць сялян, каб зрабiлi дарогу да воласцi, што гэтак толькi звяры могуць жыць, а не людзi...

— Майстравалi грэблю праз шмат гадоў,— пачаў гаманiць адзiн сiвабароды дзед,— але кожны год рэчка змывае вясною, i зноў трэба яе ладзiць... Ну вось i плюнулi на гэту справу... Жывём адны, i мы да нiкога, i да нас нiхто не прыязджае...

Летуны, пачуўшы гэткую гутарку i пазнаёмiўшыся з жыхарамi вёскi, доўга не маглi ўцямiць, куды гэта яны папалi... Нi вачам, нi вушам не хацелi верыць, што ў вольнай краiне ёсць гэткiя месцы, дзе нi кроплi не вiдаць усяго таго, чым сотнi гадоў жыве культурнае чалавецтва...

Сонца бязлiтасна прыпякала. Абодва летуны былi аблiты потам, але не пераставалi гаварыць аб усiм тым, што дзеецца на свеце... Бадай што ўся вёска ад старога да малога абступiла летуноў i, не зводзячы з iх погляду, лавiла кожнае слова.

Уся грамада маўчала, толькi гучныя словы прамоўцы разляталiся па прасторы гэтага балотнага вострава...

Моладзь была захоплена словамi той нiбыта дзiўнай казкi, якую апавядалi нямаведама адкуль прыляцеўшыя людзi.

— I першая праца, за якую вы зараз жа павiнны ўзяцца,— канчаў адзiн з летуноў, — гэта пабудаваць добрую дарогу праз балота, каб вам можна было ездзiць у воласць i каб да вас была магчымасць дабрацца жывому чалавеку...

— А каб нам вось гэтую самую штуку прыдбаць,— сказаў Мiкiта,— на ёй толькi страшна, а то так i хутчэй i спрытней ездзiць куды-небудзь...

Летуны ўсмiхнулiся... Уся грамада залiлася моцным рогатам.

— Чаму не,— казаў лятун,— можна i гэткую штуку прыдбаць... Будзе хутка час, калi будзеце i на самалёце лятаць, але пакуль што павiнны пралажыць дарогу, каб хоць на конях можна было выехаць з гэтага балота ды пабачыць свет...

— А цi не грэх на гэтым самалёце ўздымацца пад нябёсы? — запытаў кароценькi, худзенькi селянiн, якi

ўвесь час, скінуўшы шапку, стаяў збоку і лавіў слова за словам...

Грамада зноў зарагатала.

Венцяроўцы, асабліва маладыя хлопцы і дзяўчаты, былі на сёмым небе ад радасці, пачуўшы ўвесь той сказ, які апавядалі летуны...

Усе пачалі прасіць летуноў у госці, але тыя адмовіліся за недахватам часу,— трэ' было яшчэ шмат аблятаць месцаў, дзе таксама прыйдзецца шмат гутарыць... Летуны абяцалі ў другі раз прыехаць да венцяроўцаў і астанавіцца ў іх на больш даўжэйшы час...

Залапатала нешта ў самалёце, завярцеліся калёсы, пабеглі па прыплясканай зямлі... Замітульгалі крыллі... Самалёт пачаў уздымацца...

Венцяроўцы з крыкам віталі іх на прашчанне і беглі ў бок за самалётам...

Вышэй і вышэй уздымалася гэта дзіўная птушка і бліскучымі крыллямі мітусілася ў сонцам залітай высі...

Грамада доўга не магла разысціся... Пазірала ў бяздонную сінь і махала летунам шапкамі...

Гукі самалёта пачалі аддаляцца... Грамада стала расходзіцца, зачараваная дзіўным сном-казкаю незнаёмых людзей.

— А якія яны прыгожыя, гэтыя летуны, зусім не падобны да нашых распапузлых хлапцоў,— гаманілі паміж сабою дзяўчаты,— іх пекны белы твар і поўныя агню вочы доўга будуць бачыцца нам у сне...

— Я з імі не спалохалася б не толькі балота праляцець,— дадала другая прыгожанькая дзяўчына,— а ўзнялася б за самыя хмары, паляцела б, куды яны толькі захацелі.

І зноў пачалі бегчы дні за днямі... Але гэтыя дні не былі падобны да мінулых дзён.

Самалёт парушыў спакойнае жыццё венцяроўцаў. Як бы залом хто заламаў над іх адвеку спячым востравам з таго дня, калі ў іх былі людзі-летуны.

Загарэлася праца. Пачалі будаваць дарогу праз балота. Старыя праціўіліся, але моладзь не ўтаймавалася, пакуль не ўзяла верх... Яна, не пакладаючы рук, майстравала грэблю, каб як найхутчэй па гэтай дарозе дайшло

да іх тое новае прыгожае жыццё, аб якім апавядалі людзі-летуны.

У галаве венцяроўцаў зрабіўся нейкі пераварот... Яны пачалі адчуваць сябе інакш, як раней. Яны адчувалі нейкае нездавальненне жыццём, але не ведалі, чым і як яго палепшыць...

Пачалася несупынная ўпартая барацьба моладзі са старымі, якія, гледзячы на ўсё, што рабіла моладзь, уздыхалі і гаварылі:

— Чуем, што напаўзае на нашу вёску цёмная хмара... Быць неспакою... Не ў добры час праляцела птушка-самалёт над нашымі сялібамі... Хутка ў гняздо наша ястраб прыляціць і не жыць больш венцяроўцам тым жыццём, якім дзяды ды прадзеды жылі... А моладзь не дрэмле. Новы дзень — і што-небудзь новае прыносіць венцяроўцам...

Штоноч сніцца венцяроўцам самалёт... Здаецца, не ходзяць яны па размытай грэблі ды балоце, а на самалёце птушкай крылатай носяцца.

А позні́м летнім вечарам, калі ў высі зоркі, як тыя балотныя светлячкі, пачынаюць гарэць над вёскай, хлопцы і дзяўчаты збіраюцца каля хат на лавачку, каб супачыць ад працы і пагаманіць аб птушцы-самалётцы... Згаснуць зоркі, схаваецца месячык за хмару, а моладзь не можа нагаварыцца...

Часта і цяпер у цішы ночы звонкім адгалосам разлягаюцца па балоце гукі гармоніка і складзенай самімі венцяроўцамі песні:

Грай, гармонік, грай, гармонік,
На ўсе тоны-галасы,
Хай закружацца над вёскай
Самалёта калясы.

Не люблю цябе, мой мілы,
Калі едзеш на кабыле,
Сядзь хутчэй на самалёт —
Паляту з табой ў палёт.

Сёння бачыла у сне
Прыгожага хлопчыка,
Пэўна — замуж выйсці мне
Ды за самалётчыка...

## КІРМАШ

У мінулыя гады дзень «святога Макавея» вёска Ліпнёўка святкавала вельмі шчыра і ўрачыста.

Гэта быў кірмашовы дзень.

З усходам сонца ліпнёўцы былі на нагах. Чыста прыбраныя бабы і мужыкі хадзілі адны да другіх частавацца.

Моладзь жа, хлопцы і дзяўчаты, ішлі за пяць вёрст у царкву на абедню, а пасля абедні бралі абразы, крыж, пратэсы і неслі ў сваю вёску.

Бацюшка з дзякам прыязджаў крыху пазней, і пачыналася хаджэнне з вобразам па вёсцы.

— «Святы ўгоднікча, Макавею, малі бога а нас»,— цягнуў хрыплым, але досыць гучным голасам айцец Парфіры. Дзячок тэнарком спрытна паўтараў...

— «Слава айцу і сыну і святому духу»,— яшчэ гучней гукаў бацюшка.

— «І ныне і прысна і ва векі вякоў», — падхватваў дзяк і цягнуў так доўга, каб можна было дайсці да суседняга двара.

І гэтак з двара ў двор, ад адной хаты да другой ішла працэсія, а за ёю вялікая грамада людзей, амаль усе ліпнёўцы ды яшчэ прыехаўшыя на кірмаш з суседніх вёсак.

Бацюшка, узышоўшы на двор, адчытваў спачатку малітвы, палажыўшы евангелле на дзяжы, засланай чыстым абрусом і пакрыўшы епітрахіллю галовы гаспадара і гаспадыні, пасля ішоў пасвянцаць святою вадою хату, хлявы і іншыя будынкі.

У гэты час стараста забіраў са стала, які таксама павінен стаяць на дварэ, булку хлеба, рэшата або шасnastку жыта ці ячменю, кусок сала, некалькі яец і нёс на вазы, якія ехалі ўслед за вобразам.

Дзяк жа, як толькі канчалася цырымонія, хутчэй за ўсіх хватаў са стала дзесятку або грыўню, каб яна не папала каму іншаму ў кішэню, ведаючы, што грошы кладуцца спецыяльна для яго.

Як канчалі абыходзіць усе хаты, у канцы вёскі прыладжвалі высока на жэрдках вобраз «божай мацеры» і прыганялі ўсю жывёліну з поля. Поп жа стаяў збоку і крапілам крапіў, шэпчучы сабе пад нос нейкія малітвы...

Гэтым канчалася адна частка кірмашу.

Другая частка — гэта было пагалоўнае п'янства, бойка, гульні і інш.

Бацюшка, звычайна «папрацаваўшы» цяжка, заходзіў ці да старасты, ці па чарзе да аднаго з багацейшых сялян вёскі і там гэтак напіваўся, што яго клалі з мяшкамі жыта і везлі дахаты, а там на руках здымалі і аддавалі «матушцы», якая даўно прырыхтавалася спаткаць яго не цверазейшым.

Бывала, пападалі добрыя правражатыя бацюшку, то яны, напаіўшы як след царкоўнага старасту, які павінен быў сачыць за ўсім сабраным скарбам, не праміналі некалькі мяшкоў скінуць па дарозе ў авёс, а назад едучы забраць іх ды прапіць.

А дзяк, то той гэтак напіваўся, што аставаўся заўсёды начаваць дзе-небудзь у садку або ў агародзе, і яму вобчаства назаўтра давала фурманку...

Ліпнёўцы ж гэтак напіваліся к вечару, што кірмаш заўсёды канчаўся бойкаю, а чаго добрага і пажарам...

— Ліпнякі гуляюць,— казалі суседнія вёскі, калі раптам уночы Ліпнёўка асвечвалася чырвонымі языкамі агню...

А назаўтра часамі «ліпнякі» патыліцу чухалі ды гутарылі адзін да другога:

— Кажуць, калі на Макавея дождж ідзе, то пажару не будзе, а тут, на табе, дождж прайшоў, і на таго ж самага Макавея, бадай на яго ліха, гэткае няшчасце...

— А ўсё гарэлка нарабіла!..

— Так, яна, — паўтаралі, як адзін, сяляне і пазіралі на абгарэлае бярвенне спаленых будынкаў...

Гэтак было даўней...

Але пачалася вайна, пасля рэвалюцыя, зноў пайшлі войны не з тым, дык з тым, і Ліпнёўка забылася пра кірмашы. Моладзь на вайне, старыя занятыя працаю, а галоўнае — няма гарэлкі,— усё неяк не выпадала зрабіць кірмашу...

— Хіба жыццё крыху наладзіцца,— гаманілі ліпнёўцы,— тады закірмашуем...

Дык вось не гэтак даўно нашы ліпнякі і закірмашавалі...

* * *

За некалькі дзён да Макавея старыя ліпнёўцы пачалі рыхтавацца да кірмашу.

То сям, то там пачалі паказвацца дымкі на імшарыне. Гэта працавалі самагоначныя заводы.

— Ну што за кірмаш без самагону? Няма гарэлкі пры савецкай уладзе, то трэба хоць свайго... самагону «выціснуць».

Ну і пачалі «ціснуць»...

А раптам міліцыя ў лясок ды гэтак націснула, што шмат хто адчураўся і бражкі, і пасуды ды задаў лататы, куды вочы глядзяць.

— Нічога,— смяяліся мужчыны пасля гэтакай навальніцы,— не ўсё забралі, для кірмашу і нам пакінулі...

Назаўтра і Макавей.

— Як жа з папом будзе,— гаварыў стары Ахрэм у грамадзе мужчын, якія сабраліся каля варот сельсавета.

— Вы ўжо самі, мужчыны, вырашайце гэту справу,— падхапіў старшыня сельсавета,— я чалавек савецкі, мне не можна гэтымі «святымі» справамі займацца. Бачыце, цяпер і царква, і папы зусім не тое, што раней...

— Але, гэтак,— загаманіў малады хлапец у чырвонаармейскай шапцы з «пікаю»,— папы нашай улады не памінаюць, затое мы іх памінаем...

— Ды якім яшчэ добрым словам,— рагатаў другі хлапец, узабраўшыся на вароты...

Мужчыны пераглянуліся.

— Бадай што і без папа і на гэты раз абыдзецца... Ці ж знойдзеш тую моладзь, якая даўней за вобразам хадзіла,— бубніў пад нос Рыгор Вушыла,— наша моладзь хутчэй на «шпяктаклі» нейкія рынецца, чым у царкву за пратэсамі...

Маладыя хлопцы і дзяўчаты ажно лопалі з рогату.

— Што, хочаце папа прывесці паказаць? — гукалі яны.— Ды яно не пашкодзіла б глянуць на яго... даўно бачылі...

— Касіць, хлопцы, касіць, а не кірмашы спраўляць,— казаў Мікіта Рыла,—на пагодзе стала, трэба паспяшацца...

Пачало ўжо цямнець. Дзе-ні-дзе ў вокнах блішчалі агні... Усе пачалі расходзіцца...

— Шкада,— казаў уздыхаючы Габрусь Канцавенька, які быў у добрых адносінах з папом,— а я, як на ліха, будучы ў нядзелю ў царкве, казаў бацюшку, што будзем спраўляць кірмаш, і нават гаманіў аб тым, каб як-небудзь вобраз панасіць па вёсцы... Шкада, шкада...

— Ты вось ляпей пайдзі заўтра панасі сена сваё з балота, а не вобраз,— адпаліў пятнаццацігадовы хлапчук-камсамолец,— а то пагніе ў балоце, дык зімою каровы падохнуць з голаду...

— Сам ты здохнеш хутчэй,— агрызнуўся злосна Габрусь,— прэч, несвянцоная костка, злы дух, паганы... Трэба прывесці папа ды вас, чарцей, пасвянціць, каб нячыстую сілу з вас павыганяць...

Хлапчук адбегся на некалькі крокаў, паўглядаўся на Габруся, пакуль той чытаў «літаню», а пасля гукнуў на ўсю вуліцу:

— Свянці ты свой нос, каб даўжэйшы рос!.. Папоў парабак! Вазіў папу дровы, ага!..

Мужчыны, якія ішлі з Габрусём, моцна зарагаталі. Адзін з іх сказаў Габрусю:

— Не лезь за жуком, а то замараешся.

* * *

Вось і кірмашовы дзень.

Уся моладзь працуе ў полі, на сенажаці... А старыя і самі не ведаюць, што рабіць... Брацца за працу ці не?

Да поўдня бадай усе святкавалі. Пасля палавіна

старых услед за моладдзю папхнулася ў поле. Асталіся кірмашаваць самыя набожныя, ды яшчэ той астаўся, хто паспеў «выціснуць» ды захаваць самагону.

Дзень удаўся пагодлівы. На небе ніводнай хмаркі.

Па дарозе, уздымаючы слуп пылу, коціць на кірмаш айцец Парфіры. Габрусь, прыбраны па-святочнаму, спаткаў яго першы...

— Вось добра,— кажа ён, цалуючы айца ў руку,— не забыліся аб нас...

Айцец Парфіры саскочыў з воза, абтрос запыленае паліто і капялюш і кажа да Габруся:

— Хіба Ліпнёўка пра мяне запамятала, а я то не... Ды ці можна вас запамятаць, асабліва ў кірмашовы дзень... Ох-хо-хо... Ох-хо! Было калісьці жыццё.

Тым часам на двор Габруся пачалі збірацца сяляне, бо вестка аб тым, што прыехаў бацюшка, стала вядома ўсёй вёсцы... Бацюшка, вітаючыся са сваімі парафіянамі, ківаў галавою і гаманіў:

— Як гэта даўней было прыемна з вобразам, пратэсамі і ўсё такое, як гэта належыць богабаязным хрысціянам... А цяпер што...

— Я і сёння... думаў, бацюшка, наконта вобраза,— гаманіў запінаючыся Габрусь,— але то ж то і бяда, што... баязні перад богам не маюць маладыя дзецюкі і дзяўчаты... Сёння працуюць у полі, а ўчора рагаталі, калі абазваўся, каб вобраз панасіць па вёсцы... Вось якая моладзь...

— Што моладзь, — перабіў яго айцец Парфіры, — і ў многіх старых дух збунтаваны... Так, так...

Пры гэтым пераджагнаўся і адзеў выпалены капялюш...

У гэты час на вуліцы праходзіў настаўнік ліпнёўскай школы.

Бацюшка не меў добрага вока на настаўніка за тое, што апошні трымаў школу ў непажаданым духу для бацюшкі. Але на гэты раз бацюшка першы зняў капялюш і кіўнуў галавою.

Настаўнік затрымаўся і, абапёршыся аб плот, запытаў:

— Што, айцец Парфіры, на кірмаш да нас... па старой знаёмасці?..

— Куды там... Цяпер не да кірмашу. Проста лічу за свой святы абавязак наведаць у гэты дзень сваіх пара-

фіян... Ну, а як вы жывеце, як жонка, дзеткі?.. Ці вялікі сынок?

— Дзякуй,— адказаў настаўнік,— нічога, так сабе... А сынок ужо ладны... Хутка ў камсамол запішацца...

— Так, так,— цадзіў праз зубы бацюшка, цярэбячы бараду,— калі думаць аб зямным існаванні, то гэта нічога, але не трэба забываць, што ніякі камсамол не можа даць чалавеку царства нябеснага...

Настаўнік усміхнуўся.

Бацюшка зрабіў міну нездавальнення, развітаўся і пайшоў у хату Габруся.

Там ужо за прыбранымі сталамі сядзела некалькі мужчын і кабет. Усе прыўсталі і прывіталіся з бацюшкам; на вуснах яго прабегла вясёлая ўхмылка, пабачыўшы на стале пірагі, парася ды бутэлькі...

— О, часы насталі,— загаманіў бацюшка,— гэтым калісь кірмаш канчалі, а цяпер пачынаць прыходзіцца.

— Гэта найлепей,— казаў Антось Лабанок, які ўжо паспеў хапіць добрую чарку,— якімі б дарогамі ні хадзілі, усё роўна пры гэтым стале ўсе сойдземся...

— Ды яно гэтак,— пацвердзіў бацюшка.— Ты, Антось, заўсёды мудрыя словы кажаш... Сакрушацца не павінны.

Пры гэтых словах бацюшка праціснуўся пазастоллю і сеў на самым покуце.

Усе пачалі займаць свае месцы, а Габрусь нёс з каморкі бутэльку чырвонай гарэлкі.

— Гэта, айцец Парфіры, крыху падфарбаваная бутэлечка, даўно вас чакала...

— Белай то можа б і не піў, а чырвоную то можна... Яна на віно царкоўнае пахожа, толькі на смак не ведаю...

Сказаўшы гэта, бацюшка сам падставіў чарку, і Габрусь наліў яе аж з каптуром...

— Каб у бацюшкі ў засеках поўна было,— прыгаворваў Габрусь, калі бацюшка нагінаўся сербануць з чаркі, каб не праліць «жывой вадзіцы»...

— Няма каму напаўняць засекі, не тыя часы,— адказаў бацюшка і гэтак лыкнуў спрытна чарку, што аж Антось Лабанок пазавідаваў.

— Вось гэта я разумею,— сказаў Антось і пачаў наліваць сабе белай.

Гэтым кірмаш і распачаўся...

Надыходзіў вечар.

На небе пачалі то там, то сям з'яўляцца хмары... У паветры была страшэнная духата — нібыта збіралася на дождж...

Выпражаны конь айца Парфірыя хадзіў па градах на Габрусёвым агародзе і «церабіў» маладую капусту.

Для яго таксама быў кірмаш. Але на гэта ніхто не зважаў увагі.

Кірмашнікі гулялі ва-ўсю. Толькі час-ад-часу з расчыненых акон хаты несліся па вёсцы гукі звонкага рогату або вясёлай песні-дрындушкі.

— А ну, айцец Парфіры, навядзі струны леры ды зайграй нам сваім кракадзілавым голасам «святы ўгоднічa Мака-ка-вей»,— гукаў Антось Лабанок, падсеўшы бліжэй да бацюшкі і чокаючыся з ім чаркамі...

Габрусь, які яшчэ мацней усіх трымаўся на нагах, узяў Антося за плячо і папрасіў, каб ён супакоіўся. Але Антось і слухаць не хацеў. Ён вылез з-за стала, перайшоў на другі бок, падсеў бліжэй да бацюшкі і пачаў гаманіць:

— Ты, бацюшка, тут не бацюшка, а такі самы, як і мы ўсе: як Антось, Габрусь, Гіляры, Купрыян, і наогул як усе, хто тут выпівае і закусвае... Мы ў царкве табе руку цалуем, а тут?!. Жартуеш, брат... Я не пацалую табе... Праўда, ёсць і тут дурні, якія таксама цалавалі... але я?! Антось Лабанок?! О! Ніколі!..

— Буруздзіш ты, Антось,—сказаў бацюшка, нюхаючы кавалак пірага пасля толькі што выпітай чаркі,— майго звання ніхто нідзе не адбярэ... Я быў бацюшка, ёсць бацюшка і буду ба-цюшка... Званне мне не ад людзей, а ад бога дадзена.

— Але я цябе не баюся,— сказаў Антось, зноў падстаўляючы сваю чарку, каб чокнуцца...

— Не мяне, а бо-о-га трэба баяцца,— загаманіў бацюшка, узвёўшы вочы ўгару і ікнуўшы на слове «бога»...

Антось паўзіраўся на бацюшку, які з чаркаю самагону ў руках, нібы з чашаю «святога прычасця», «узвёў вочы к небу» ды выпаліў, як з бярданкі:

— Пацалуй богу ў с...

— Але Габрусь, які падстаўляў смажанае парася да бацюшкі, закрыў рукою рот Антосю.

Антось абвёў усіх вачыма і зноў сеў...

— Не тое грэх, што ў вусны, а тое, што з вуснаў,— сказаў бацюшка, выпіўшы чарку.— Ты, Антось, глупства сказаў, але я не магу на цябе абразіцца дзеля таго, што богу я магу куды хочаш пацалаваць... Бог ёсць дух...

А на другім канцы стала ў гэты час жонка Антося схапілася грызціся з Купрыяніхаю, якая ўвесь час сачыла за гутаркаю Антося і ўпікала, што яе муж трымае сябе вельмі брыдка і зусім не паважае бацюшку... Антось гаркнуў цераз стол на жонку, і бабская лаянка спынілася... Зноў усе пілі па чарзе і віталі сусед суседа з кірмашом...

У хаце была гарачыня. Пот цурком ліўся па тварах. Кампанія з кожнай хвілінай станавілася весялей і весялей...

Самагонка сваё ўзяла. Спачатку айца Парфірыя прымусілі пець ухвальныя песні «ўгодніку Макавею», а пасля бабы пачалі вытылінгаваць гэткія прыпеўкі, што бацюшка, набраўшыся зуху, перамяніў свой рэпертуар... Ён вылез з-за стала, стаў супроць прыгожай і дзябёлай бабы Купрыяніхі ды, прытоптваючы нагамі, заспяваў:

Ты ж мая, ты ж мая,
Ты ж не чужая.
За то цябе спадабаў,
Што ты маладая.

Купрыяніха ад радасці, што каля яе пачаў «хадзіць певуном» бацюшка, ажно распаўзлася...

Ты вясёлы і прыгожы,
Толькі вось кудлаты,
Як палягуць усе спаць —
Жду к сабе дахаты, —

адпела Купрыяніха да бацюшкі. Але бацюшка не крыўдзіўся за слова кудлаты, а толькі мацней аблапіў Купрыяніху і пусціўся ў скокі. Услед жа за бацюшкам Габрусь і Гіляры таксама хапілі па кабеце і пачалі шпарка круціць мяцеліцу.

Аднавокі музыкант Савоська, які быў спецыяльна запрошан Габрусём для кірмашу, спрытна хадзіў кручкамі па цымбалах і шырока разяўляў рот ад смеху, калі ба-

цюшка прысядаў, падаткнуўшы крысы сваёй доўгай вопраткі, або цалаваў знянацку Купрыяніху...

А Купрыяніха, расчырванеўшыся як мак, бліжэй прыціскалася да свайго танцора і прыпявала.

Гадзіны паўтары Савоська не пераставаў сячы на цымбалах, а п'яныя кірмашнікі давалі адно другому дыхту...

Гарачыня прымусіла расчыніць вокны і дзверы. Пад вокнамі хаты сабралася шмат малых дзяцей. Але ніхто не звярачваў увагі... Дзеці ажно качаліся ад рогату, пабачыўшы, як танцуе падгуляўшы бацюшка. А бацюшка да таго разышоўся, што калі нават перастаў іграць музыка і спыніліся ўсе скакаць, ён яшчэ ўсё выробляў нагамі розныя выкрутасы і, прыхіліўшыся лагадней да Купрыяніхі, спяваў ёй на вуха:

Прасіў, прасіў — не выпрасіў,<br>Бадай табе чорт выкусіў...

Тым часам надышоў змрок.

Дажджу не было, але неба ўхутана было хмарамі, і ва ўсіх баках пагрымліваў гром і мільгацела маланка.

Моладзь і частка старых, якія не захацелі кірмашаваць, вярталіся з працы... Кожны, праходзячы каля Габрусёвай хаты, затрымоўваўся, каб падзівіцца на кірмашнікаў,якія ўжо блыталіся і на двары, і на прыгуменні...

— Нябось, кірмаш, відаць, нядрэнны быў, калі нават ногі адмаўляюцца слухаць,— казалі праходзячыя сяляне...

А дзеці рагаталі і ўсім расказвалі, як з Купрыяніхаю скакаў бацюшка...

Раптам на прыгуменні пачуліся крыкі і лаянка... Гэта, на чым свет стаіць, лаяўся Купрыян на бацюшку, які гушкаў Купрыяніху на пасавым калясе ад малатарні ў маняжы за акалотам... Купрыян хацеў ушчэрэпіцца бацюшку ў валасы, але быў да таго п'яны, што жонка як турнула рукою, то ён задраў ногі тройчы і перакуліўся... Пабачыўшы, што фізічнай сілай не можна даць рады, Купрыян пачаў лаяцца самымі апошнімі словамі...

Невядома, чым бы гэты «кірмаш» скончыўся, каб не разнеслася чутка, што едзе міліцыя. Усе да таго пера-

палохаліся, што, як дым у паветры, нямаведама куды пахаваліся...

Толькі бацюшка бегаў каля сваёй драбінкі і прасіў, каб яму запрэглі каня. Габрусь супакойваў бацюшку:

— Мала хто едзе,— казаў ён, надзеючы хамут на каня,—бацюшка няхай не палохаецца... А лепш было б, каб, айцец Парфіры, паслухалі мяне ды асталіся начаваць. Паглядзіце, як хмары аблажылі ўсё неба, цёмна, хоць у вока стрэль, дождж можа пайсці, а ехаць пяць вёрст...

— Не магу, не магу, Габруська! Абяцаў матушцы быць сёння... І так, ведаеш, лішняе дазволілі... А скажы Купрыяну, што дарэмна ён да мяне чапляўся... А жонка яго... з агнём кабета, як па-твойму?

— Ды яно ж так... Але нашто было, каб ён бачыў... Прайшліся б дзе-небудзь за гумнішча... Ды нічога, праспіцца, то на ўсё забудзецца.

— Хто? Купрыян?

— Але,— адказаў Габрусь і зірнуў на бацюшку.

Бацюшка ўсміхнуўся і сцебануў каня пугаю...

Перад тым, як пасадзіць бацюшку на воз, Габрусь завёў яго ў варыўню і даў некалькі разоў пацягнуць з біклажачкі... Бацюшка гэтак пацягнуў, што ледзьве-ледзьве ўзабраўся на каламажку. Габрусь даў яму ў рукі лейцы і пугу, вывеў каня за вароты і развітаўся, яшчэ раз гаворачы аб тым, што лепш было б не ехаць.

Конь па вуліцы пайшоў паціху, а бацюшка зразу стаў «клявацъ» носам.

Вясковыя хлапчукі-падшывальцы грамадою ішлі за бацюшкам, напамінаючы яму, як ён спяваў і скакаў з Купрыяніхаю і як яго чуць Купрыян не адпаласаваў на прыгуменні...

Але бацюшку «змарыў» сон, і ён нічога не чуў, што навокал яго дзеялася.

Адзін з хлапчукоў, той самы, якому ў мінулым годзе бацюшкаў сын у школе рассек спражкаю пераносіцу, захацеў чым-небудзь дапячы бацюшку.

Ён, падбегшы бліжэй да каламажкі і ўпэўніўшыся, што бацюшка заснуў, узяў разляйцаў каня і прывязаў лейцы за гужы.

Усе хлопцы ішлі і рагаталі, чакаючы, што будзе, калі бацюшка захоча павярнуць у які-небудзь бок...

Выехаўшы за вёску, конь прайшоў некалькі крокаў ды зразу павярнуў у авёс, які рос паўз дарогі... Каламажка астанавілася, і бацюшка, рэзнуўшыся носам аб біла, прачнуўся...

— Ну, каб цябе ваўкі,— шмаргаючы за лейцы, крычаў хрыплым басам бацюшка... Але конь і не думаў адрывацца ад аўса, бо лейцы былі прывязаны за гужы і яго зусім не трывожылі...

Бачыць бацюшка, што конь яго не слухае, пралупіў вочы і пачаў сцябаць пугаю... Конь павярнуў з аднаго боку і зараз жа перайшоў на другі бок дарогі, пачаўшы ганашыць авёс...

А гэткая была цемра, што нібы завязанымі вачыма пазіраеш наўкола. Толькі бляск маланкі час-ад-часу асвячаў усю акругу.

Пачынаў пырскаць дожджык... Бацюшка, крыху агалуздаўшыся, ніяк не мог уцяміць, дзе ён і што... Ён пачаў нешта мычэць сабе пад нос, клясці каня, але не рушыўся з месца...

Хлопцы, прысядаючы на мяжы ў аўсе, усё гэта бачылі і рагаталі, затыкаючы рот далонню, каб не выдаць сябе.

Бацюшка доўга валэндаўся, а пасля супакоіўся і перастаў нукаць на каня. Хлопцы думалі, што бацюшка заснуў.

— Нецікавым можа кончыцца кірмаш для бацюшкі,— гаманілі паціху паміж сабою хлопцы,— конь пад'есць аўса, бацюшка тым часам выспіцца і паедзе дахаты... К таму часу можа і сонца ўзысці...

— Давай лепш падыдзем да яго,— сказаў той самы хлапец, які ўстроіў штуку з лейцамі...

Некалькі смельчакоў падышлі да каламажкі і пачалі моцна гаманіць. Бацюшка пачаў шавяліцца.

— Гэта хто тут пасе каня? — гукнуў празрыстым голасам адзін з хлопцаў.

— Гэта я,— адказаў, чуць паварочваючы язык, бацюшка.

— Хто ты?

— Ну, я... бацюшка... А вы хто такія?..

— Мы?.. Хлопцы!..

— Адкуль вы, хлопцы?

— З Ліпнёўкі...

— Ага, з Ліпнёўкі... А скажыце мне, хлопцы, куды я еду?

— Нікуды вы не едзеце, а стаіце на месцы ды каня ў чужым аўсе папасваеце...

— Цяпер няма чужога...і ўласнага няма... усім раўнапраўе пры савецкай уладзе... вось што... Але скажыце, хлопцы, куды ўсё ж такі я еду і... дзе я еду...

— Мы ж кажам, што на месцы стаіце...

— Ага, на месцы,— паўтарыў бацюшка, нібы толькі прачнуўшыся,— ну, а куды я паеду, калі паганю каня? Куды мой конь стаіць перадам, а куды задам, скажыце мне, хлопцы?

— Ці ж вы не бачыце?

— Не бачу, бо нешта ў ваччу цёмна...

Хлопцы зарагаталі, пашушукаліся, а далей адзін і кажа:

— Перадам стаіць да Ліпнёўкі, а задам да вашага капелюша....

— Ну, то і добра, што да Ліпнёўкі. Цяпер сядайце, хлопцы, на воз і завязіце мяне ў Ліпнёўку да Габруся... Ведаеце, што на канцы жыве... бо дамоў гэткай цемраю, пэўна ж, не заеду...

— Добра, добра,—адказалі хлопцы, і, заляйцаўшы каня як трэба, трое з хлопцаў ускочылі на каламажку, узялі з рук у бацюшкі лейцы і пугу, пасакаталі проста па дарозе...

Бацюшку пачало трэсці, і ён стаў прыходзіць у сябе...

— Вы закон божы вучыце ў школе? — запытаў бацюшка...

— Не,— адказалі ўсе трое ў адзін голас.

— А чаму? Ці ж вам, сукіны дзеці, спасенне душы не патрэбна? Га? Ці вы, можа, у гэтым самым ка... камусамоле?

Хлопцы захіхікалі.

— Але, бацюшка, у «камусамоле», а там закону божаму не вучаць...

— А чаму ж вас там вучаць? На сабак брахаць ды бацькоў не слухаць!.. Біць вас трэба, сукіны дзеці, што ў царкву не ходзіце, богу не моліцеся ды старшых не паважаеце...

Хлопцы ва ўсім супярэчылі бацюшку, а бацюшка «настаўляў іх на пуць ісціны» і лаяўся апошнімі словамі...

— Вось і прыехалі,— сказаў адзін з хлопцаў, і ўсе трое саскочылі з каламажкі...

— Стой, хто гэта? — пачуўся голас упоцемку...

— А, гэта ты, Габрусь,—загаманіў весялей бацюшка, паварочваючы галаву да голасу...

— Не Габрусь, а Ігнась, тутэйшы міліцыянер...

— Мі-мі-лі...— хацеў паўтарыць бацюшка, але з пераляку язык не мог павярнуцца...

— Гэта ж мы злавілі бацюшку,— гаварыў адзін хлопец да міліцыянера,— ён каня пасвіў у нашых аўсах...

— А, бацюшку,— цішэй загаманіў міліцыянер,— то, выбачайце, бацюшка, я зараз пашлю за старшым, а пакуль што вы злезьце, зайдзіце ў каравульную, а каня я скажу ў хлеў паставіць, бо дождж пачынае ісці...

— Ды ён сам не злезе, яго зняць трэба, бо ён «прычасце святое» ў нашага Габруся прыняў — загукалі хлопцы ўпоцемку і пабеглі дахаты...

Бацюшку вельмі паважна папрасілі цэлую ноч супачываць у каравульным пакоі пасля напісання пратакола...

Гэтым «салодкім» сном у міліцыі, вядома, не зусім скончыўся кірмаш для айца Парфірыя...

Хлапчукі ж, бегучы паўтары вярсты ад мястэчка, куды завезлі бацюшку на начлег, увесь час рагаталі і цікавіліся, як пасля гэтага бацюшка будзе служыць абедню ў царкве... Яны дагэтуль не верылі, што бацюшка можа гэтак напіцца і лаяцца брыдкімі словамі...

Не прайшоў так сабе кірмаш і для Габруся. У гэту самую ноч у яго патрэсла глячкі ды бутэлечкі міліцыя і таксама напісала пратакол...

Габрусь увесь час чухаў сябе за вухам і больш за ўсіх лаяў бацюшку...

— Казаў жа яму начаваць у мяне... Дык не, занесла яго нячыстая сіла ў міліцыю... Ну, буду доўга памятаць гэты кірмаш... Даўся ён мне ў знакі... Хаця б добра ўсё скончылася... Што пазабіралі самагонку — гэта дарма, але хаця б штраф невялікі налажылі... Ну і пакірмашавалі!.. Няма чаго сказаць...

А ўся вёска, як у бубен біла, гаварыла пра гэты кірмаш... Купрыяніха, што шуры-муры закруціла з папом, два тыдні на вуліцу не паказвалася і дала слова больш ніколі не хадзіць у царкву...

Пацешней усяго — гэта расказы хлопцаў, як яны, замест да Габруся, завезлі бацюшку на ўласным яго кані ў міліцыю...

Чуваць было пра гэты кірмаш і ў ваколічных вёсках.

— Ліпнякі зноў, кажуць, кірмаш спраўлялі,— гаварылі суседнія вёскі, ды дрэнны, кажуць, торг быў... шмат ім каштавала гэта гулянка... А поп, кажуць, у міліцыі п'яны спрасонку імшу служыў...

А моладзь ліпнёўская ад радасці была на сёмым небе. Хто б ні спаткаўся з Габрусём, пыталіся ў яго:

— Ну, што? Як кірмашаваў?!.

Габрусь нічога не адказваў, а кідаў злосны погляд і адыходзіў...

Дома ж штодня Габрусь лаяўся з жонкаю і, пазіраючы на вобраз св. Мікалая, гаманіў:

— Ах, Макавей, Макавей, нарабіў ты мне столькі клопату і непрыемнасці... Бадай на цябе ліха нашло, хоць ты і ўгоднік...

— Шэльма, што ж ты лаеш святога Мікалая... Прычым жа ён тут,— перабівала яго жонка...

— Ды ўсе яны роўныя, аднаго поля ягадкі... Не веру я ім... І Макавей, і Мікалай — усе яны аднаго варты, такія самыя, як поп, што ім моліцца... А глядзі ты, заблудзіўся ў міліцыю і столькі нарабіў нам страты!.. Тое самае і Макавей і Мікалай зрабілі б, каб маглі гэтак налізацца дарэмнай самагонкі... І ты такая самая «ўгодніца», ліханька на цябе, з карку майго не злазіш, усё грызеш за гэты кірмаш... А ці я вінават, што гэтак здарылася... Усё «ўгоднікі святыя» нарабілі... Цьфу!

Пры гэтым Габрусь запускаў слаўцо па адрасу ўсіх угоднікаў і «нягодніцы» жонкі, як ён часта называў яе, выбягаў, як апараны, з хаты, стукаючы моцна дзвярыма.

А жонка гэтым часам станавілася на калені прад св. Мікалаем і малілася, просячы, каб ён не зважаў на яе мужа, якому такі сапраўды святы ўгоднік Макавей зрабіў прыкрасць і вялікія страты...

## ЧАЛАВЕК, ЯКІ НЕ РАДЗІЎСЯ

Старшыня валаснога выканаўчага камітэта быў сёння нешта не ў духу. Увесь час сядзеў на мяккім крэсле, стукаў пальцамі па стале і ні з кім не гаварыў.

— Непарадкі вялікія на воласці... Сельсаветы не выпаўняюць усіх загадаў... А зверху каго цягнуць? Вядома, мяне, старшыню, які ні днём, ні ноччу не мае вольнай хвіліны,— вырвалася ўрэшце абурэнне старшыні ў крыклівых словах.

Пісар Хапунчык, той самы пісар, які нёс гэту пасаду ў воласці і ў старыя часы, злосна ўсміхнуўся, паглядзеў ва ўсе куткі канцылярыі і сказаў:

— А вось усё праз тое, што вы не адзін тут гаспадар, пане... гм-м... таварыш старшыня... Успомніце, даўней на ўсю воласць адзін старшыня і пісар — яго правая рука, а справа гэтак ішла, што куды там... А як старшыні баяліся вясковыя старасты! Ге-ге!.. Рабілі ўсё ад аднаго слова... Не тое, што цяпер: кіпу папер спішаш на загады, а яны і вухам не вядуць... Ну, а пасля гэтыя аддзелы, загадчыкі... Адным словам, пан... гм... гм... таварыш старшыня, дзе шмат нянек, там дзіця без носа...

— Годзе! — гаркнуў старшыня,— ты якім быў чортам, такім і астаўся... Мы — рабочыя і сяляне — павінны душыць усякую эксплуатацыю і буржуазію, а табе яшчэ царскаю гарэлкаю пахне!..

— Выбачайце, самагонам Нічыпаравым...

— Даволі! — больш рашучым голасам крыкнуў стар-

шыня і пачаў абнюхваць вопратку, ад якой сапраўды крыху пахла самагонам і самасейным тытунём...

Старшыні было не да жартаў... Яго мучыла думка, як выйсці чыстым ад рэвізійнай камісіі, якая на днях павінна з'явіцца ў воласць. А больш усяго яго непакоіла тое з'яўшча, што новы загадчык зямельнага аддзела які прыехаў з павета замест старога, зразу пачаў арганізоўваць пры воласці камуністычную ячэйку і агітаваць яго, старшыню, каб таксама запісаўся ў ячэйку...

Як быць і што рабіць? На гэта пытанне старшыня і шукаў у «нутры сваёй асобы» адказу.

Тым часам было каля дванаццатай гадзіны раніцы, і ў воласць пачынаў сходзіцца народ... Каму трэба, а каму і не трэба — кожны селянін лічыў за абавязак хадзіць у воласць, каб даведацца, што чуваць.

Раптам дзверы пакоя старшыні адчыніліся і нясмела выглянуў твар хлапца...

— Табе што трэба? — запытаў старшыня.

— Я да вас, таварыш старшыня,— ціха адказаў хлапец і ўвайшоў у пакой...

— Да мяне? А па якой справе?

— Ды як бы вам сказаць... Я жаніцца хачу...

— Ну дык што? Я табе не перашкаджаю... жаніся... А я тут прычым?.. Ідзі ў аддзел запісу...

— Я быў, таварыш старшыня, дык там без метрыкі не хочуць запісваць... Кажуць, каб метрыку дастаў...

— А то як жа?

— Дык, бачыце, метрыкі няма...

— Як няма? Што значыць няма? Кожны хрышчоны чалавек павінен мець метрыку... Ты што, згубіў яе? — запытаў старшыня.

— Не згубіў, а сама згубілася, як нашага прыходу царкву перабудоўвалі на школу...

— Бог, бог пакараў, — падхапіў пісар, які ўвесь час слухаў іх размову.

— Ды які чорт бог,— злосна агрызнуўся хлапец,— поп кніжкі пазабіраў ды неяк пагубляў, а можа, прадаў у крамку селядцы заварочваць, а ты вось круці галаву...

— Як няма метрыкі,— адказаў начальніцкім тонам старшыня,— значыцца, нічога не будзе... Запісацца няможна...

— Але ж у мяне дакументы ёсць,— упарта даказваў хлапец,— паслужны спіс, што быў у войску, а цяпер дэмабілізован...

— Што мне твае спісы ды распісы! — гукнуў злосна старшыня,— мне патрэбна папера, каб я бачыў, дзе ты радзіўся, калі ты радзіўся, хто цябе хрысціў і калі цябе хрысціў, як цябе хрысціў...

— Навошта ўсё гэта, таварыш старшыня?

— Як навошта? А можа, ты зусім не радзіўся? Ты яшчэ мяне вучыць уздумаў?..

— Як жа, таварыш старшыня, не радзіўся, калі я вось тут стаю ў вашым пакоі...

— А можа, ты — гэта не ты, а хто-небудзь іншы! Мала вас такіх прахвостаў ёсць...

— Дык мяне ж вёска ведае, чый я і калі радзіўся... Яна можа пасведчыць,— гаварыў хлапец, не разумеючы і сам, што казаць далей...

Старшыня ўсхапіўся з крэсла і крыкнуў:

— Хто ведае? Што ведае? Мала ведаць; трэба, каб на паперы было напісана і пячаць прыкладзена, што такі і такі грамадзянін сапраўды радзіўся, што подпісам і пячаткаю сцвярджаецца. Разумееш ты, пень дурны? Годзе час займаць... Дастань метрыку ды жаніся... Ідзі!..

Хлопец пацеляпаў ад здзіўлення і выйшаў...

Настуля з нецярплівасцю чакала Язэпа, каб даведацца, што яму сказалі ў воласці...

Язэп увайшоў да Настулі засмучоным.

— Ну што, Язэпка,— першая запытала Настуля,— хутка будзем жаніцца?..

— Раней трэба радзіцца, а пасля жаніцца...

— Што ты кажаш? Даволі жартаў, кажы праўду, бо чакаць сілы не маю...

— Ды якія там чорта жарты,— загаварыў Язэп,— няма метрык, дык старшыня даказаў, што я не радзіўся... і я нічым не мог яго ўпэўніць...

— Хіба яго зіркачы павылазілі... Ты ж перад ім сам стаяў...

— Мала гэтага... Ён кажа, можа ты — гэта не ты, а хто іншы... Не ажаню, кажа, пакуль метрыкі ад папа не прынясеш... А той, кудлаты чорт, згубіў, каб ён галаву

сваю згубіў... Як быць і што рабіць — розуму не знаходжу...

— Вось і жаніся ў нашы часы,— казала праз слёзы Настуля.— Даўней паехаў да папа: раз, два — і гатова... А цяпер і старым станеш, пакуль цябе гэтыя саветы ды камітэты ажэняць...

Не спалася ўсю гэту ноч ні хлопцу, ні дзяўчыне. Думу думалі, як ажаніцца...

А назаўтра раніцаю пачалі раіцца з бацькамі. Асталявіліся на тым, што трэба ісці да папа і дастаць метрыку, інакш нічога не выйдзе...

Язэп запрог кульгавую кабылу і гайда да бліжэйшага папа, каб зрабіць справу ды хутчэй ажаніцца...

Айцец Мікодым хадзіў па панадворку і ганяў індыкоў ад пшаніцы, якая сушылася на разасланых посцілках каля ганка...

Пабачыўшы незнаёмага хлапца, а. Мікодым гукнуў з кухні матушку, а сам падышоў да брамы...

— Нешта незнаёмы, чалавеча, майго прыходу ці не?

— Не, бацюшка, я Слупянскага прыходу...

— Ага, ведаю, ведаю... Там у вас царкву скасавалі... Дрэнна, дрэнна... але нічога... Да мяне шмат вашых прыязджае... Пойдзем жа да пакояў... або вось у садок, у бяседку... там лавачка, столік...

Пры гэтых словах бацюшка зірнуў на кішэню Язэпа, адкуль выглядала затычка бутэлькі з самагонам...

— Што скажаце добрага?

— Хачу, бацюшка, метрыку дастаць... інакш жаніцца не можна... Старую метрыку наш бацюшка згубіў.

— Гм... Як жа так... Гэта то няможна, бо выдаваць метрыкі мы можам толькі тым, хто ў нашай царкве хрысціўся, а іначай...

— Ці не можна, бацюшка, ну, так... Запісаць у кніжку, нібыта я тут хрышчоны, і выдаць метрыку?

— Гэта, мілы, супроць законаў царкоўных... На гэта я не згаджуся...

— А як жа быць?

— Трэба падумаць...

Бацюшка зірнуў на кішэню... Язэп зараз жа дагадаўся і выцягнуў бутэльку на стол. Айцец Мікодым шпар-

ка скакануў на кухню і вярнуўся адтуль з добрай закускай.

У часе выпіўкі бацюшка шмат гаманіў пра адносіны сялян да царквы і зневажанне, якое ён церпіць ад парафіян.

Язэпа непакоіла адно — хутчэй дастаць метрыку ды ехаць у валасць.

— Вось што,— сказаў падвыпіўшы бацюшка,— мы гэту справу ўладзім... Табе трэба яшчэ раз ахрысціцца...

— Як гэта ахрысціцца?

— Ды так, нібы ты не радзіўся... ну няхай і радзіўся, але быў дагэтуль нехрышчоным, а цяпер мы цябе ахрысцім...

— Я не разумею, бацюшка, як гэта зрабіць? Ды смешна неяк, што я не радзіўся, у той час, калі я тры гады ў Чырвонай Арміі ваяваў. А цяпер, значыць, зноў жыць спачатку. Але я не памаладзею?

Бацюшка пачаў рагатаць... Пасля выпіў чарку, закусіў агурком і сказаў.

— Не ўсё так страшна, як табе здаецца. Трэба паздаць кумоў, нават можна тых, якія раней цябе хрысцілі... Усадзім цябе ў халодную ваду, скінуўшы адзенне, памажам алеем, адчытаем малітвы, і ты чалавек...

— А цяпер я хто, па вашаму? — запытаў, насупіўшы бровы, Язэп, якому хмель таксама «стукнуў» у галаву...

— Цяпер ты таксама чалавек, але не маючы права называцца ім.

— Па праўдзе, бацюшка, я хацеў бы без усякіх гэтых штук атрымаць метрыку...

— Не,— перабіў а. Мікодым,— на гэта ні адзін бацюшка не згодзіцца, тым болей «хрысціць» не па закону дарослага, які заўтра зможа расказаць іншым і падарваць аўтарытэт царквы святой...

— Ну, добра! Я згодзен на ўсё, але каб гэта ўраз было зроблена...

— Гэта ў нас хутка... Толькі раней, як водзіцца, вам трэба ахрысціцца ў валасці, запісацца, значыцца, ну, а ў мяне астаноўкі не будзе.

— Зноў у валасць? — запытаў здзіўлена Язэп.

— Так, так, інакш мы царкоўных трэбаў не творым, тым больш над дарослымі...

Язэп, як апантаны, выскачыў з бясeдкі, адвязаў каня, сеў на воз і памчаўся дамоў.

Стары Супрон, бацька Язэпаў, ужо некалькі разоў рыхтаваўся да вяселля сына, але вяселле ніяк не клеілася... Усё наваранае і напечанае з'ядалі і пачыналі рыхтавацца зноў.

Супрон, адчыняючы сыну вароты, запытаў:

— Ну, што? Усё наладжана?

Язэп хацеў са злосці змоўчаць, а пасля, перадражніваючы бацьку, загаманіў:

— Нала-аджана! Нала-аджана! Няма мяне — вось і ўсё... А яшчэ бацька! На свет пусціць мог, а ахрысціць, як трэба, не мог... Вось праз тваю ласку езджу ад аднаго чорта да другога і нічога зрабіць не магу.

Супрон разявіў рот і лавіў кожнае слова, не ведаючы, у чым справа.

— Чаго ты пазіраеш, як кабыла на рэзгіны? — гукаў Язэп, седзячы на возе,— няма мяне! Разумееш, няма, я яшчэ не радзіўся...

У гэты самы вечар па просьбе Супрона, які лічыўся паважаным чалавекам на ўсю вёску, старшыня сельсавета склікаў сход, каб вынесці ўсім вобчаствам пастанову, што сын Супрона Дразда, Язэп Супронаў Дрозд, сапраўды радзіўся...

Першае слова на сходзе ўзяў Рыгор Канцавенька, які сказаў:

— Таварышы, грамадзяне і кабеты! Нам іншай улады не трэба, як толькі савецкую. Мы любім яе, яна нас бароніць. Мы самі ўлада, бо мы сяляне і рабочыя, значыцца, нам таксама трэба жаніцца, як усім сялянам і рабочым, але старшыня нашай воласці беракрат і ён гэтага не хоча. Хто не ведае нашага цяперашняга старшыню і хто не ведае Язэпа Дразда, які радзіўся і хоча жаніцца, а старшыня, гэты беракрат, кажа, што Язэп Драздоў не радзіўся, і не хоча, каб ён жаніўся... Я чуў некалькі дзён назад, як гэты самы Язэп даказваў старшыні, што ён радзіўся і тры гады праліваў кроў за нас у Чырвонай Арміі, а гэты беракрат, п'яніца казаў, што не. Я стаяў за дзвярыма ў воласці, і мне хацелася

вылаяць старшыню за гэту несправідловасць, якую ён наносіць Язэпу, а, значыцца, і ўсяму вобчаству і савецкай уладзе, за якую Язэп змагаўся... Ведаеце, мужчыны, што я сам піў гарэлку на хрэсьбінах Язэпа і помню, як цяпер, што, прыйшоўшы дамоў, моцна палаяў жонку.

— Правільна! Правільна! — чуліся галасы з грамады.

Пасля выступалі іншыя прамоўцы, і ўсе даказвалі аб несправядлівасці старшыні, што ён патрабуе ад Язэпа яшчэ раз радзіцца толькі дзеля таго, каб здабыць нейкую там метрыку, якая і ламанага гроша не варта.

У канцы сходу слова ўзяў старшыня сельсавета.

— У маім вобчастве няма такіх, якія не радзіліся,— гучна сказаў ён,— і тое, што старшыня воласці паклёп узводзіць на Язэпа Дразда, гэта ёсць правакацыя, якая караецца савецкімі законамі і міравым судом... Язэп Дрозд радзіўся, бо ён служыў у Чырвонай Арміі і, як дэмабілізаваны чырвонаармеец, мае права ўступіць у законны шлюб з Настуляю, якая таксама хоча выйсці за яго замуж.

Усё было занесена ў пратакол і падпісана ўсімі граматнымі грамадзянамі вёскі.

Пасля сходу Супрон пазваў лепшых прамоўцаў і пачаставаў іх нарыхтаваным ядзеннем на вяселле.

Назаўтра — ні свет ні зара — Язэп з пратаколам быў у воласці і чакаў старшыні. Пісар прачытаў пратакол, паглядзеў скоса на Язэпа і сказаў:

— Што гэта ты вёску бунтуеш? Ты ведаеш, што за гэта можа быць? Ці можна гэткую пастанову выносіць? Гэта ж супроць законаў Савецкай Канстытуцыі!

— Там нічога такога няма,— гаманіў дрыжачым голасам Язэп.— Калі воласць не верыць, што я радзіўся, то вось мая вёска аб гэтым на агульным сходзе пасведчае... Маны там няма.

— А метрыка дзе? — запытаў прыўстаўшы пісар.

— А навошта мне метрыка, калі цэлае вобчаства сведчыць, што я радзіўся, калі радзіўся, як радзіўся — чытайце самі.

— Царква, царква трэба каб пасведчыла... Тады ты паедзеш у горад ды ў натарыуса знімеш копію... Інакш напрасна парогі абіваеш...

— Мне бацюшка сказаў, што трэба нанова хрысціцца, каб атрымаць метрыку...

— Ага, так!.. Тады з гэтай справай прыедзеш заўтра да старшыні — ён у нас хрысціць, жэніць і хавае... даходная стацця, нікому ўступіць не хоча...

Цэлы тыдзень прыязджаў Язэп у воласць, але не мог злавіць старшыні ні дома, ні ў воласці.

Нарэшце Язэп спаткаў старшыню на вуліцы і пайшоў за ім у воласць.

— Ты што? Зноў жаніцца? — спытаў старшыня, апускаючыся ў крэсла.

— Куды там, раней хачу ахрысціцца, каб метрыку атрымаць; без яе ж вы не запісваеце. А вось пратакол вобчаства, што я сапраўды радзіўся, у чым вы тады сумняваліся.

Старшыня, не чытаючы, сунуў яго ў кучу папер на стале, пасля, паскробшы патыліцу, сказаў:

— А сведкі ў цябе ёсць? Кумы гэтыя самыя?

— Няма...

— То прыедзеш заўтра з кумамі ды не з парожнімі рукамі,— гэткі хрышчэннік павінен сам добра ведаць.

Язэп абрадаваны паехаў дамоў.

На другі дзень воласць была паўнютка напхана сялянамі. Чутка аб тым, што прыедзе хрысціцца дарослы чалавек-чырвонаармеец, разнеслася па ўсіх ваколічных вёсках. На нехрышчонага чалавека ехалі за шмат вёрст паглядзець, як на нейкі цуд.

Грамада таўкалася і чакала, калі прывядуць гэтага дзіўнага чалавека... Нехрышчоны даўно хадзіў паміж грамады і смяяўся, калі ў яго самога пыталі, ці хутка прыедзе хрысціцца гэты цікавы чалавек. Але, нікога не пабачыўшы і не дабіўшыся толку, грамада стала разыходзіцца...

У гэты самы час небывалае з'явішча адбывалася ў пакоі старшыні.

Калі, запаўняючы бланкі, старшыня спытаўся, калі навароджаны з'явіўся на свет, кумы пачалі пераглядацца, а Язэп сам адказаў:

— Дваццаць чатыры гады і тры месяцы і сем дзён таму назад, а пятай гадзіне ўвечары, калі гналі пастухі з поля...

Старшыня выпусціў з рук пяро і сказаў:

— Па закону належыць запісаць дзіцё ў працягу трох дзён, за ўсе прасрочаныя дні павінны заплаціць штраф... Гэй, пісар, вазьмі шчоты і падлічы, колькі штрафу трэба ўзяць з Супрона Дразда за тое, што так доўга не хрысціў сына:

— О, як вы законы добра ведаеце,— сярдзіта крыкнуў Язэп,— скулу вам, а не штраф... Гэта здзекі з мяне. Я не папушчу.

— Я пры выпаўненні сваіх абавязкаў,— гаманіў хутка старшыня і мерыўся, як бы выскачыць з пакоя...

Язэп пачырванеў ад злосці і ўвесь пачаў трэсціся...

— Шэльмы вы, а не гаспадары нашы... Вам бы сем скур з чалавека драць, які столькі часу на фронце ваяваў за правы працоўных. Няма сілы больш цярпець ад гэтакіх паганцаў, як вы...

Старшыня памкнуўся нырнуць у дзверы, але Язэп хапіў яго за грудзі і гэтак пасадзіў у крэсла, што той зрабіўся белы як палатно.

Пісар нёс паперы на подпіс да старшыні, але, пачуўшы гармідар, выскачыў у сходавую і клікнуў двух міліцыянераў.

Язэп не паспеў аглянуцца, як яго міліцыянер хапіў ззаду за локці і крыкнуў:

— Не варушыся — страляць буду!

Але Язэп гэтак «паварушыўся», што адзін міліцыянер адчыніў сваёю асобаю дзверы і выкінуўся ў калідор, а другі збіў з ног пісара і паваліўся ў куток каля печы.

Старшыня, пабачыўшы, што няма як уцячы, стаў на крэсле і пачаў ва ўсё горла крычаць:

— Лю-у-у-дзі! Сюды!.. Забіва-а-ае!

Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, каб у гэты час не ўвайшлі незнаёмыя людзі з вялікімі жоўтымі партфелямі...

«Рэвізія»,—мільганула ў галаве старшыні, і ён, нібы той слуп, стаяў нерухома з расчыненым ротам.

Так, гэта была рэвізія, якую новы загадчык земаддзела запатрабаваў у спешным парадку абрэвізаваць справы воласці.

Тры незнаёмыя чалавекі разам з прадстаўніком толькі што ўтворанай валасной камуністычнай ячэйкі

не маглі дагадацца, куды яны папалі і што ўсё гэта азначае.

Вартаўнік грамадзянскага спакою — міліцыянер, што ляжаў каля печы, хутка падняўся, абтрос шынель і прылажыў руку да казырка.

Прайшло некалькі мінут маўчання. Язэп дагадаўся, што гэта вышэйшае начальства, і першы загаманіў:

— Вось паглядзіце, таварышы, як ідуць справы ў нашай воласці...

Старшыня закашляў, даючы знак, каб Язэп маўчаў, і пачаў злазіць з крэсла.

— Маўчаць не буду! Няхай вышэйшае начальства бачыць, як намі кіруе воласць... Якія ў нас гаспадары... А вось іх абаронцы,— сказаў Язэп, паказваючы пальцам на міліцыянера.— Усім ім мала вяроўкі...

Незнаёмыя таварышы, выслухаўшы скаргу Язэпа, сказалі, каб ён ішоў дамоў, што ўсё будзе ўладжана — яго справа будзе вырашана ў першую чаргу...

Язэп, кінуўшы злосны погляд на старшыню і плюнуўшы ў бок міліцыянера, адзеў шапку і выйшаў.

Рэвізія пасля кароткай размовы з старшынёю пачала пераглядаць паперы. Першае, што папала ім у рукі, гэта быў пратакол сельскага сходу аб справе Язэпа Драздa. На пратаколе чырвоным чарнілам была напісана гэткая рэзалюцыя:

«ЗАГС. Выканаць. Лічыць Язэпа Драздa не радзіўшымся, як не маючага аб гэтым належачага пасведчання, і жаніцца з якой бы ні было дзяўчынай забараняецца, пакуль не будзе прадстаўлена оная з прылажэннем на ёй царкоўнай пячаці.

Старшыня Віка: Андрэй Стрэмка».

Тры незнаёмыя чалавекі па парадку перачыталі адзін за другім гэту рэзалюцыю, усміхнуліся і адлажылі пратакол убок.

Старшыня патрохі пачаў набірацца смеласці... Ён нават міргнуў пісару, каб той даў загад прынесці крэслы для рэвізійнай камісіі.

А Язэп у гэты час, пакрыўджаны, як ніколі ў жыцці, плёўся дахаты, разважаючы, што рабіць далей. У глыбокім задуменні, пераходзячы праз канаву, не заўва-

жыў, як пад ім пахіснулася кладка, і ён ускочыў па пояс у ваду.

Выкарабкаўшыся з канавы, пачаў на чым свет стаіць лаяць старшыню і папа. У часе непамернай злосці яму запала ў галаву думка зрабіць так, як яшчэ ні адзін з хлапцоў не зрабіў у іх вёсцы.

З гэтай новай думкаю Язэп, выкруціўшы мокрыя анучы, пашыбаваў дахаты.

Настуля, адна з прыгажэйшых дзяўчат у вёсцы, вельмі любіла Язэпа і не мела больш цярплівасці чакаць шлюбу... Калі Язэп апавядаў аб сваім блуканні, аб тым, як цяжка ажаніцца, а яшчэ цяжэй даказаць без метрыкі валасному старшыні, што радзіўся, Настуля трэслася ад злосці і лаяла ўсіх самымі сарамлівымі словамі...

Сёння Настуля спаткала Язэпа, як і заўсёды, са слязьмі на вачах... Язэп жа быў вясёлы, як ніколі.

«Пэўна, удалося наладзіць справу»,— падумала Настуля, глянуўшы на Язэпа, і сама паморшчыла твар непадробнай усмешкай.

— Гатова! Ты мая жонка! — загукаў Язэп, вітаючыся з Настуляй.

— Няўжо? Значыцца, мы ажэнімся?

— Эгэ! Ды яшчэ як! Аж свету моташна стане!

— Як жа гэта? Няўжо не так, як усе людзі жэняцца?

— Куды там! Сама бачыш, што я не такі чалавек, як усе — я чалавек, які не радзіўся... Ну, значыцца, можна і ажаніцца і аджаніцца не так, як усе людзі...

— Дрэннае ты нешта надумаў, Язэпка... пачынаю я палохацца... нават сон нецікавы бачыла...

— Што сон? Сон... Набрала ў бабскую галаву чагосьці нядобрага, ну і сніш тое, што не трэба... А вось ты выдумала б тое, што я...

Пры гэтых словах Язэп моцна абняў Настулю і гэтак горача пацалаваў у яе пухленькія губкі, што сэрца дзяўчыны задрыгала, як птушка ў клетцы.

У хаце нікога не было, апрача іх дваіх. Настуля шчыранька прыгарнулася да Язэпа, пачала ўсхліпваць і скардзіцца на свой дзявочы лёс.

Змрок, нібы аканіцамі, захіліў вокны, у хаце зрабілася цёмна. Седзячы на ложку з Настуляю, Язэп апавядаў пра ўсё тое, што яму прыйшлося перажыць

апошнімі днямі, калі шукаў папер на права быць чалавекам, на права ажаніцца з той дзяўчынай, якая сэрцу яго міла.

Настуля ўвесь час слухала, але не магла дагадацца, да чаго хіліцца гэта размова. Урэшце Язэп сказаў коратка і выразна:

— Давай, Настулька, будзем жыць так, без запісу ў воласці, без шлюбу ў царкве, бо далей я не пайду кланяцца рознаму чорту. Ды навошта ўсе гэтыя працэдуры? Хіба ж, шчыра кахаючы адно другога, без усяго гэтага няможна жыць? Вось падумай харашэнька, абмазгуй, а больш сэрцам адчуй, ці можна зрабіць так, як я кажу? Прыслухайся да сэрца свайго — яно не ашукае цябе. Думка гэта запала ў маю галаву сёння, калі я ішоў з воласці ды ўкінуўся ў канаву. І скажы: праз што і за што пакутаваць будзем?

Засмучаная Настуля, нібы вады ў рот набраўшы, маўчала. Нешта дрэннае дзеелася на яе дзявочым сэрцы.

— Я на ўсё згодна,— прашаптала яна, бліжэй тулячыся да Язэпа,— але мама... Я нават сама адзін раз ужо сказала, што да папа не трэба ехаць. Ого! Яна як залемантуе, дый кажа: «Не радзіўся той чалавек, які возьме цябе без шлюбу». Ну, што далей гаварыць. Бацьку так-сяк можна ўламаць.

— Ды мае бацькі таксама падымуць гармідар, калі скажу аб сваім плане... Але ведай, што больш я ні да папа, ні да старшыні і кроку не зраблю — няхай яны згінуць з метрыкамі сваімі... Вось падумай, памяркуй і зробім так, як я кажу...

— А калі не...

— Калі так не будзе, як я кажу, то плюну на ўсё і паеду куды вочы глядзяць...

Тым часам увайшлі ў хату бацькі Настулі, і прыйшлося запаліць агонь...

Язэп праз некалькі хвілін развітаўся і пайшоў дахаты...

Але гэтым не кончылася гісторыя гарачага кахання сялянскага хлапца і дзяўчыны.

Як толькі Язэп і Настуля выказалі свае думкі бацькам, пачалася калатніна ў абедзвюх хатах.

Па ўсёй вёсцы і нават у аколіцы нібы ў бубен білі пра тое, як Язэп Дрозд жэніцца.

— Нібы чорт зеллем паганым падкурыў хату Супрона Дразда і Змітрука Карча,— казалі сяляне, чуючы кожны дзень сварку ў іх хатах.

Ды ці можна не сварыцца?.. Дзе ж гэта відна, каб гэтак жаніцца? Узяў за руку ды павёў дзяўчыну дахаты!

А Змітрук Корч, бацька Настулі, дык ужо быў згодзен. Толькі маці казала, што выракуся дачкі, хоць і роднае дзіця.

Непакой быў ва ўсёй вёсцы. На Язэпа пазіралі, як на нейкага казачнага героя, які крадзе сабе жонку, які не пабаяўся старшыню натаўчы і нават міліцыянераў. Аб апошнім здарэнні ведала ўся воласць, і кожны, апавядаючы пра гэта здарэнне, дабаўляў што-небудзь і ад сябе, асабліва пасля таго, як змясцілі старшыню з пасады і пасадзілі ў халодную.

Язэп жа трымаў сябе горда і казаў, што, як ён казаў, гэтак і будзе.

Так яно і было.

Адзін раз у нейкі прысвятак Язэп угаварыў сваіх бацькоў і зараз жа пабег да Настулі.

Яшчэ ў сенцах быў чуцён плач Настулі і прыгаворванне:

— Калі не хочаце выдаць замуж так, як мы хочам, то вось нарочна вазьму ды зраблю дзіцё!.. Няхай вам сорам будзе, што дачка ваша байструка радзіла.

Маці і рот разявіла.

— Дык вось чаго ты хочаш?.. Добра, добра!.. Выгадавала дачушку на сваю галаву... Чаму я цябе, у начоўках купаючы, не ўтапіла?.. Можа, ты ўжо... што гэтак табе карціць замуж?..

— Як захацела... слухаць вас не буду,— сказала Настуля і рынулася да дзвярэй.

У гэты час дзверы адчыніліся, і на парозе стаяў Язэп. Настуля, нібы непрытомная, абхапіла Язэпа за шыю і пачала цалаваць.

Маці, як сядзела на лаўцы, так і аслупянела. А бацька ўзяў люльку і пачаў пазіраць у акно.

— Ну, што? Не хочаце выдаваць за Язэпа, як мы хочам, то я сама пайду,— сказала Настуля, пазіраючы на бацькоў.

Бацькі моўчкі пераглянуліся.

— Язэп, пойдзем! Калі твае бацькі не прымуць у хату, то месца знойдзем — свет вялікі.

— Ды мае згадзіліся так жаніцца, як я хачу...

— Ага! Раз так, то... бывайце, татка і мамка, здаровы... Пасагу мне вашага не трэба; жывы будзем ды здаровы — здабудзем усё... Да мяне прыйдзеце — гасцямі дарагімі будзеце, дармо, што супроць вашай волі замуж выходжу...

Сказаўшы гэта, Настуля скаканула праз парог у сенцы і пацягнула за сабою Язэпа.

— Настулька! Настулька,— загаласіла маці,— пачакай... Дай жа хоць благаслаўлю на дарогу...

— Гэт, старая мянташка,— злосна забурчаў бацька,— кажу, не разбівай дзіцяці шчасця. Не пярэч, калі хочуць жаніцца... Ці нам не ўсё роўна, як яны ажэняцца? Абы жылі ў згодзе ды дастачы...

Маладыя вярнуліся...

Пасля слёз маткі і яе прычытання, калі ўжо абое старыя згадзіліся выдаць дачку без усякіх запісаў і шлюбаў, Язэп не сцярпеў і сказаў:

— А ўсё-такі, Настулька, наша ўзяло! Які ж я дурны быў, што абіваў парогі папу ды воласці... І скора і гладка. А каханне, напэўна ж, ад гэтага не зменшыцца...

— Яшчэ мацней будзем кахаць адно другога,— перабіла Язэпа Настуля і абхапіла рукою за шыю...

А праз два тыдні такі баль задалі бацькі маладых, што вёска, як жыве, не бачыла.

І зажылі Язэп з Настуляю на дзіва ўсяму свету... А сялянства вёскі пазірала на маладую пару, ківала галавой, прыцмоквала языком ды гаварыла:

— Вось табе і ажаніліся... Вось табе без папа і без воласці. Усім бы так прыгожа жыць, як Язэпу з Настуляю...

Астаўся ў памяці толькі той сход, на якім рабілі пастанову, што Язэп радзіўся... Гэта не забывалі... І калі на якім-небудзь сходзе крычалі сяляне вы-

брацъ Язэпа Дразда, то абавязкова хто-небудзь ды гукне:

— Язэп Дрозд не радзіўся...

— Як не радзіўся, калі ёсць пастанова сходу, што радзіўся,— адказваў другі...

І ўся грамада рагатала.

## СВІНАПАС

### I

Свінапас дражнілі, а звалі Грышка.

— Свінапас, лаві нас! Свінапас, лаві нас! — гукалі на яго дзеці-сябрукі, калі завошта-небудзь гневаліся.

Не любіў Грышка гэтага прозвішча, злаваўся, калі яго так абзывалі, і не адзін раз за гэту абразу сцябаў пугаўём па пераносіцы свайго ворага.

— Дурны ты,— казаў Грышку бацька,— ты ж такі сапраўды свінапас, бо свінні скарбовыя пасеш... Чаго ж ты сярдуеш? Вось падрасцеш крыху, пачнеш быдла пасвіць, дык і перастануць свінапасам абзываць...

Грышка не мог дачакацца таго дня, калі ён зробіцца пастухом кароў... Прайшло не шмат часу, як раптам пан паклікаў Грышку да ганка пакояў, дзе піў вячэрнюю гарбату, і сказаў яму, каб ішоў падпаскам да бацькі, каровы пасці...

Свіней жа пасвіць быў наняты другі хлапец.

Рад Грышка, адно падскаквае, бегучы дахаты.

— І свінапасам не буду і разам з бацькам каровы буду ганяць у поле — усё ж лягчэй, чым аднаму за свіннямі бегаць,— разважаў Грышка, атрымаўшы новую пасаду.

Грышку пятнаццаць гадоў... Хлопец—зух. Лапці сам пляце, аборы ўе... Нават дастаў ад панскага сына леманта́р і чытаць літары навучыўся.

Але свінапасам не перастаюць клікаць...

Грышка да таго звыкся з гэтым нялюбым празваннем, што часта забываў сваё ўласнае імя, а адклікаўся, калі яго абзывалі «свінапасам».

Не дражніла яго свінапасам толькі адна дзяўчынка Гэлька, дачка лесніка, з якою ён разам пасвіў каровы і вучыўся па адной кніжцы чытаць...

Грышку вельмі было прыемна праводзіць час з Гэлькаю...

Стары ляснік, бацька Гэлькі, вартуючы лес, часамі падыходзіў да пастухоў і, жартуючы, казаў:

— Ведаеш, Лявон, падабаецца мне твой Грышка, ці не будзем мы сватамі?... Гэлька мая таксама не брыдкая дзяўчына... Толькі вось адно дрэнна, прозвішча брыдкае Грышка мае — свінапас!..

Грышка чырванеў і з-пад лоба пазіраў на Гэльку... Гэлька, чатырнаццацігадовая дзяўчынка, моўчкі калупала пугаўішчам пясок.

Старыя бацькі рагаталі, любуючыся на сваіх дзяцей...

## II

Надыходзіў вечар...

Каровы спакойна пасліся каля бору на іржэўніку.

Лявон канчаў падплятаць лапаць і дудзеў пад нос нейкую сумную песню...

Грышка, які палез на хвою пароць белчына гняздо, вопрамеццю зваліўся на зямлю і, чуць пераводзячы дух, бег да бацькі...

— Тата, тата! — гукаў ён здалёку.— Нейкі страшны чалавек у лесе ходзіць...

— Ты што гэта? Мазгі адбіў, кідаючыся з дрэва, ці вочы выпараў?.. Што ты плявузгаеш?.. Вось падганяй у гурт каровы, хутка дахаты гнаць час...

Грышка не пераставаў тлумачыць бацьку, каго ён убачыў, і гэтак зацікавіў, што стары Лявон устаў, ускінуў на плечы вярэньку і падыбаў да лесу, каб упэўніцца самому, ці праўда, што там ёсць хто-небудзь...

Не прайшоў Лявон некалькі крокаў, як пабачыў, што нейкі чалавек выйшаў з-за дрэва і накіраваўся да статка...

Лявон астанавіўся, сеў на камень... Каля яго спужаным зайцам прысеў Грышка.

Незнаёмы падышоў да іх...

Увесь абросшы валасамі, у парванай вопратцы, у дзіравых ботах, з загарэлымі рукамі...

— Добры дзень! — загаманіў першым незнаёмы.

— Дзень добры! — адказаў Лявон. — Куды гэта бог нясе?..

— Не бог нясе, а сам нясуся... А куды?.. Вось гэта і я не ведаю...

Гаварыў меладычна-прыемным голасам незнаёмы і прысеў каля пастухоў.

— Відаць, не з нашых краёў,—казаў паважна Лявон, узіраючыся на рызманы незнаёмца,— пэўна здалёку?

— Я тутэйшы, хіба вы не спазналі?

Прайшло некалькі хвілін маўчання.

Лявон паківаў галавою, абвёў вачыма з ног да галавы шмат разоў незнаёмага і сказаў:

— Першы раз спатыкаю цябе...

Незнаёмы ўсміхнуўся...

Грышку гэтак зацікавіў незнаёмы чалавек, што ён, разявіўшы рот, лавіў кожнае яго слова і ўсё штораз бліжэй да яго падсоўваўся.

— А ты чаго з лесу ад мяне ўцякаў? — звярнуўся незнаёмы да Грышкі.

— Спужаўся вас, дык і ўцякаў,— адпаліў не думаючы Грышка і перавёў свой погляд на бацьку.

Губы і твар незнаёмага пакрывіліся, лоб паморшчыўся...

Праз паўгадзіны незнаёмы закусваў з Лявонавай вярэнькі. Кавалак засохлага хлеба, абліты крынічнаю вадою, смачней булкі быў для зморанага голадам...

Грышка пабег да хвойкі, зняў торбачку і прынёс кавалак сыру...

Падмацаваўшыся крыху, незнаёмы шчыра падзякаваў пастухоў і на развітанне запытаў:

— Ці пан ваш зноў вярнуўся дахаты?

— Так, вярнуўся толькі стары, а маладога няма,— адказаў Лявон.— Пасля таго, як straслося такое няшчасце, калі тут пачалі паліць маёнткі, ён недзе быў уцёкшы, а з прыходам палякаў зноў прыехаў і пачаў панаваць, пачаў маёнтак адбудоўваць... Жывёлы накупіў шмат, бо тая, што была раней, памарнавалася ў

часе завірухі... Нягодны наш пан, бадай на яго шыбельніца... Усіх парабкоў папраганяў, што калісь былі, шмат каго ў турму пасадзіў, за тое што з бальшавікамі канштахтавалі... Вось мой Даніла таксама...

Пры гэтых словах Лявон пачаў выціраць слёзы рукавом сваёй світкі. А Грышка пачаў моцна плакаць, успомніўшы старэйшага брата Данілу, якога пан пасадзіў у турму нямаведама за што...

— Не плач, Лявон,— сказаў незнаёмы, абнімаючы пастуха...

Лявон і Грышка здзіўлена пазіралі...

— Адкуль ты імя маё ведаеш?

— Добра ведаю і тваё імя і твайго сына Данілу...

...Ён ужо не ў турме, ён, як і я, вандруе па лесе, чакаючы лепшага часу... Што так здзіўлена пазіраеце на мяне? Я таксама скарбовы парабак, толькі другога маёнтка, і разам з вашым Данілам быў засуджаны...

Лявон ад радасці кінуўся незнаёмаму на шыю і пачаў яго цалаваць, як роднага сына. Грышка пазіраў на бацьку і на незнаёмага і ад радасці не мог прагаварыць слова...

У гэтую самую ноч Даніла разам з незнаёмым пабываў у бацькі ў гасцях, прыказаўшы бацьку і Грышку, каб нікому не прагаварыліся, што ён жыве ў лесе разам са сваімі сябрамі...

### III

— Неспакойны, дужа неспакойны наш лес,— гаманіў пан, паклікаўшы да сябе лесніка,— няўжо ты ні разу нікога не спаткаў вартуючы?

— Не, паночку, апрача вясковых мужыкоў, якія часамі прыязджаюць жэрдку ўкрасці, нікога бачыць не давялося... У лесе ціха і спакойна.

— Ды ты звар'яцеў,— закрычаў на яго пан.— Мне добра вядома, што тут цэлая банда жыве, абірае маёнткі, багатыя хутары і гэтым жывіцца... Ты чуў, дубовая твая галава, што мінулай ночы пану Альхоўскаму сырабойню спалілі і хацелі аграбіць, але жаўнеры стаялі ў маёнтку, дык перашкодзілі?

Ляснік маўчаў. Ён сам ведаў, што лес напоўнен не-

знаёмымі людзьмі — бегунамі, якія хаваліся ад польскай улады. Ведаў, што гэтыя людзі былі найзлосныя ворагі паноў, але не хацеў выказваць пану, бо яны яму аб гэтым сурова прыказалі.

— Глядзі мне,— паківаў пан пальцам на лесніка, адпускаючы яго дамоў,— няхай толькі здарыцца што-небудзь з маім маёнткам, то табе першаму астрога не мінаваць... Які ж ты ляснік, які ты вартаўнік, што не ведаеш, хто жыве ў тваім лесе? Можа, сам пакрываеш гнёзды гэтых прахвостаў?.. Пайшоў з вачэй маіх.

Ляснік хутка выйшаў з пакояў, а пан стаў меркаваць, як бы акружыць лес і зрабіць аблаву...

Аб усіх арганізацыях больш за ўсіх ведаў падпасак Грышка. Ён штодня тайком сустракаўся з братам Данілам...

Кожны дзень раніцаю альбо змрокам Грышка адносіў у вызначанае месца вярэньку, альбо торбу, напоўненую харчамі, і пасляваў аб тым-сім пагутарыць з братам.

Лявон толькі раз і меў магчымасць пабачыць сына Данілу, а так ведаў пра яго жыццё па апавяданню Грышкі.

Грышка мала таго, што насіў харчы ў лес, быў таксама і жывою сувяззю паміж патайнымі арганізацыямі лесу і арганізацыямі акружаючых вёсак.

Грышку ўсе давяралі, і ён ніколі ні ў чым не падкачаў, дармо што быў малы, і яго называлі свінапасам.

Грышка насіў у лес газеты, якія краў у панскіх пакоях альбо якія яму перадавалі вясковыя хлопцы. Грышка гэтак захапіўся сваёю чыннасцю, што часамі ночы цэлыя не спаў, а абдумваў той ці іншы план выпаўнення даручанай яму работы.

Бацька і рад быў і дужа баяўся, каб дрэнным не скончылася ўся гэта штука.

— Глядзі, сынку, глядзі, мілы, не пападзіся,— часта напамінаў яму бацька,— а то прапалі мы ўсе тагды...

Грышка ўсміхаўся, падбягаў да бацькі і шаптаў яму на вуха:

— Не бойся, тата, ужо хутка скончыцца гэта блуканне па лесе... Мне Даніла апавядаў, што чырвоныя войскі пачынаюць хутка праганяць ад нас панскіх паслугачоў-жаўнераў...

Стары Лявон жагнаўся і цяжка ўздыхаў, ківаючы галавою.

А смеласць і храбрасць Грышкі, здавалася, не маюць ніякіх межаў...

## IV

Была туманная летняя раніца. Не можна было пазнаць, узышло сонца ці не.

Грышка, бегучы ў стадолу памагаць бацьку адвязваць каровы, убачыў, што каля ганка панскіх пакояў вялікая грамада польскіх жаўнераў з коньмі і аружжам...

Грышка ўвесь задрыжаў. Яму было вядома, што пан збіраецца зрабіць аблаву па ўсім лесе, каб палавіць тых, хто яму перашкаджае супакойна жыць. Грышка дагадаўся, што грамада гэта якраз і прыехала на аблаву.

Чакаць не можна было ні адной хвіліны.

— Тата,— шаптаў спужаным голасам Грышка на вуха Лявону,— ты адзін сёння каровы гані на раніцу, а я павінен зараз жа бегчы ў лес... Я хачу папярэдзіць хлопцаў, што пан напраўляе на іх жаўнераў...

Лявон памкнуўся нешта казаць, але каля яго ўжо не было Грышкі.

Грышка пераскочыў цераз плот у сад, пасля папоўз між кустоў парэчак і агрэсту аж у канец саду, дзе ўжо пачынаўся лес.

У лесе Грышка адчуваў сябе крыху вальней.

Ён увесь час бег бягом, штохвіліны азіраючыся, каб за ім ніхто не гнаўся і не сачыў, куды і якой сцежкаю ён імчыцца...

Каб зацерці след, які заставаўся на расе, Грышка некалькі разоў абягаў наўкола аднаго дрэва, кідаўся бегчы назад, бегаў улукаткі, альбо лажыўся на бок і каціўся праз некалькі крокаў...

У самым гушчары, ва ўмоўленым месцы для спатканняў, Грышка залажыў два пальцы ў рот і засвістаў...

Трэск пераломанай недалёка палкі быў адказам.

Грышка абрадаваўся, што так хутка адшукаў.

Між мокрых кустоў арэшніку паказалася сонная постаць Данілы. Грышка кінуўся да яго і расказаў, што іх збіраюцца лавіць.

— Ідзі за мною,— сказаў Даніла, трымаючыся зусім спакойна.

На невялічкай палянцы, аброслай з усіх бакоў густым арэшнікам, стаялі і ляжалі людзі, усе падобныя адзін да другога...

Грышку не было страшна... Яму было цікава ўбачыць тых смелых хлопцаў, якія вялі барацьбу з панамі, якія паўцякалі з астрогаў і жылі ў лесе.

— Нам пагражае небяспека,—сказаў не зусім трывожным голасам Даніла,— сёння нас акружаць польскія жаўнеры... Нам трэба зараз жа перабрацца з гэтага лесу ў больш густы і прастарнейшы лес князя Радзівіла... У Вараб'ёўскія пушчы, куды адправіліся дзве першыя нашы арганізацыі... У адну хвіліну сабрацца ў дарогу!..

Усе ўсхапіліся і першым чынам аглядзелі аружжа.

Праз пяць — дзесяць хвілін атрад паўстанцаў, чалавек сорак, быў у поўным баявым парадку...

— А што з запасным аружжам? Не кідаць жа яго гніць у зямлі? — загаварыў адзін з паўстанцаў.

— Гэта я ўладжу,— адказаў Даніла,— Грышка будзе ведаць, дзе яно захована, і перадасць аб гэтым вясковым хлопцам, якім таксама хутка прыйдзецца жыць, як і нам... у лесе.

Грамада паўстанцаў акружыла Грышку, і ўсе хвалілі яго за храбрасць.

— Ты, свінапас, маладзец! Твая адвага зробіць цябе вялікім чалавекам,— казаў стары паўстанец, гладзячы Грышку па плячы.

Увесь мокры, з абдзёртымі да крыві босымі нагамі, Грышка стаяў і весела пазіраў на свайго брата Данілу. За слова «свінапас» ён не крыўдзіўся, бо яно стала цяпер падпольнаю клічкаю для Грышкі. Нават часта перадаючы пісьменны данос той ці іншай патаемнай паўстанцкай арганізацыі, Грышка ўнізе допісу выводзіў нязграбнымі кручкамі сваё новае прозвішча: «Свінапас».

— У дарогу, хлопцы,— скамандаваў Даніла,— які быў старшым арганізацыі,— і ты за намі, Грышка, прайдзі некалькі крокаў, а пасля вернешся.

— Я хачу заўсёды быць з вамі,— звярнуўся Грышка да брата.

— Не, ты тут больш карысным будзеш...

У гэты час далёка, на краю лесу, пачуўся выстрал, які моцным рэхам пакаціўся па ўсім лесе...

Паўстанцы рассыпаліся па кустах і прыбавілі кроку...

Даніла пайшоў шпарчэй, а за ім Грышка...

— Вось бачыш,— сказаў Даніла,— бураю выламана хвоя. Пад вываратнем барсукова нара... У гэтай нары, якая зверху здаецца маленькай дзюрачкай, ляжыць шмат аружжа, бомбаў і дынаміту... Сам ты нічога не чапай, бо не ведаеш, як абыходзіцца з ім, і можаш пакалечыцца... Ты аб гэтым перадай Андрэю, з якім увесь час ты быў у сувязі... А мы пайшлі... Нас не зловяць...

За апошнімі словамі Даніла моцна пацалаваў свайго брата Грышку і скрыўся ў гушчары...

Грышка хацеў заплакаць, але апомніўся, што яму зараз жа трэба пакінуць гэта месца і выбрацца непрыкметна з лесу да бацькі, які ўжо даўно іграў на трубе, даючы ведаць, куды павінен пакіроўвацца Грышка...

Сонца паднялося вышэй, і туман знікаў. У лесе было сыра і холадна...

Грышка, тулячыся за дрэвы і кусты, прабіраўся да бацькі... Яго ахоплівала нейкая незразумелая палахлівасць...

Стук дзятла па гнілым дрэве яму здаваўся выстралам жаўнера, які нібыта крадзецца ўслед за ім...

## V

Лес з трох бакоў быў акружан жаўнерамі...

Заставалася чацвёртая старана, дзе лес прымыкаў да абшараў балот, зарослых густымі кустамі лазы. А за балотамі, якія цягнуліся ўшыркі вярсты тры, пачыналіся непраходныя лясы князя Радзівіла. Туды грамада паўстанцаў і пакіравалася.

Грышка дабраўся да самага краю лесу. Ён ужо бачыў раз'язджаючых на конях з белымі арламі польскіх жаўнераў, чуў мала зразумелыя для яго выкрыкі камандзіраў.

Раптам Грышка пачуў за плячыма трэск сухога галля. Ён аглянуўся і ўбачыў, што за ім крадзецца жаўнер...

Сэрца моцна застукала ў маладога барацьбіта.

Грышка, доўга не думаўшы, павярнуў хутка ўправа, а затым — што было сілы — папёр назад у лес.

— Стой, пся крэў! Страляю!..

І водгалас выстралу пакаціўся па лясным гушчары...

Грышка, не азіраючыся, стралою імчаўся, сам не ведаючы куды... Урэшце ён папаў на сцежку, якая вяла да хаты лесніка...

У галаве мігнула думка бегчы да лесніка...

За некалькі крокаў да леснiковай хаты Грышка ўбачыў на дварэ Гэльку... Дзяўчынка, якая гэтак падабалася Грышку, нібы паддала яму смеласці. Ён стаў, азірнуўся ва ўсе бакі, пільна прыслухаўся і пабег на двор лесніка.

— Мне трэба ў вас схавацца,— загаварыў Грышка да Гэлькі,— за мною гоняцца польскія жаўнеры і калі зловяць, то будзе вельмі дрэнна...

Гэлька спалохалася і не ведала, што рабіць.

— Таты няма дома, пайшоў на абход... Я адна... Я не ведаю, куды лепш...

Грышка акінуў вокам і застанавіўся на складзеных у кастры дровах...

— У хату я не пайду. Там знойдуць... Я лепш залезу між двух кастроў дроў, а ты аблажы з бакоў мяне паленнямі, каб не маглі ўбачыць...

Так і зрабілі...

Грышка прасядзеў у дровах больш гадзіны, раздумваючы, што рабіць, куды пайсці.

Гэлька прынесла яму хлеба і шкварку сала. Грышка з'еў.

Сонца пачало прыпякаць. Грышку гэтак зрабілася прыемна пасля ўсёй сённяшняй беганіны, што ён пачаў драмаць... Але страляніна, якая чулася ўсё бліжэй і бліжэй, не давала яму заснуць, а пачынала штораз то больш непакоіць.

Чуе Грышка, што нехта ўзыходзіць на двор. Прылёг шчыльней да зямлі і ўсцягнуў на сябе палена дроў...

Прыслухоўваецца...

Ляснік божыцца і моліцца, што ён нікога не хавае, што нават да яго ні адна душа чалавечая не заглядае ў гэтым гушчары...

Жаўнеры лаюцца апошнімі словамі, пагражаюць бізуном і стрэльбаю, каб ён выказаў, дзе знаходзіцца гняздо паўстанцаў.

Ляснік плача...

Гэлька таксама плача і нічога не адказвае на запытанні жаўнераў...

Грышку стала страшна, як ніколі. Ён ляжыць і не шавеліцца.

Ажно чуе — нешта ўзбіраецца на дровы.

У Грышкі пот пачаў выступаць на твары. Ён заплюшчыў вочы і баіцца пазіраць угору.

Пасля асмеліўся і зірнуў... Морда лесніковага сабакі Лыскі тарчала між дроў і пазірала на яго.

Лыска забрахаў...

«Знойдуць!» — успеў толькі падумаць Грышка, як да дроў падбег жаўнер...

Лыска пазіраў з кастра ўніз і гаўкаў.

— Вылазь, псякрэў! — крычаў жаўнер.— Вылазь, а то штыком пароць буду... Застрэлю, шэльма! Вылазь!..

Галава Грышкі высунулася з дроў.

Гэлька загаласіла мацней...

Калі жаўнер узяў Грышку за світку і вёў к варотам, дзе стаяў ляснік і яшчэ некалькі жаўнераў, Лыска падскочыў да Грышкі, пачаў лашчыцца і лізаць яму рукі. Гэлька са злосцю схапіла палку і з усёй сілы аперазала сабаку.

Жаўнеры рагаталі.

— Гэта Грышка, сын пастуха, з гэтага самага маёнтка, ён прыходзіць гуляць да маёй дачкі... Ён дзіця, ну, і залез у дровы, як пачуў страляніну...

Але ў гэты час на двор прыбег жаўнер, які гнаўся за Грышкам.

Ён, спазнаўшы хлопца, загадаў звязаць і адправіць да пастарунка.

Да пастарунка загадалі ісці лесніку і яго маленькай дачушцы Гэльцы...

Грышку павёў жаўнер асобна. Па дарозе Грышка не адказаў ні на адно запытанне.

Жаўнер некалькі разоў сцебануў яго не моцна бізуном...

Грышка толькі войкаў, але не ўраніў ні адной слязінкі...

А ў гэты самы час бацька Грышкі Лявон, загнаўшы каровы ў бярэзнік, выйшаў да крыжа, які стаяў пры

дарозе пры ўваходзе ў лес, схіліўся на калені і горача маліўся, просячы бога ратаваць яго сынкоў ад паганых рук азвярэлых панскіх паслугачоў... Потам і слязьмі быў абліты яго паморшчаны твар.

Надыходзіла поўдня. Час быў гнаць каровы на вадапой...

А Грышка так і не з'явіўся на кліч трубы.

Чорныя думкі не давалі Лявону супакою.

## VI

Цэлы дзень па лесе разлягаліся страляніна і свіст. Конніца і пяхота дратавала ўдоўж і папярок тыя мясціны лесу, дзе можна было праехаць ці прайсці. Але нікога не злавілі, толькі напалі на свежы след, які паказваў, што грамада прайшла ў пушчу радзівілаўскіх лясоў...

Паручнік, кіраўнік усёй аблавы, прыказаў трубіць збор...

Калі Грышку прывялі да пастарунка, было ўжо далёка за паўдня...

Грышку ажно скаланула ўсяго, калі ён спаткаў там свайго бацьку і лесніка... Было яшчэ шмат незнаёмых Грышку людзей. На вачах усіх заарыштаваных былі буйныя слёзы. Гэлькі тут не было.

— Вас білі? — было ў Грышкі першым словам да бацькі, калі толькі яго ўпіхнулі добрым штурхачом ззаду ў грамаду заарыштаваных...

Лявон і ляснік кіўнулі галовамі заместа адказу і паказалі, што не могуць сядзець... У Лявона быў глыбокі, акрываўлены шрам на твары — след жандарскага бізуна...

Страшна стала Грышку.

Яго яшчэ не дапрашвалі ў пастарунку, і Грышка быў пэвен, што бізун не міне і яго плячэй, як пачнецца дапрос...

Невядома з якой прычыны, а Грышку не дапрашвалі да вечара...

Грышка ўвесь час хадзіў па вузкім пакойчыку і пазіраў у акно...

У галаве яго раілася адна думка — уцячы. Але на

падворку каля самага акна пахаджваў са стрэльбаю жаўнер,— разбіць акно і ўцячы не было як...

У гадзіне дванаццатай ночы за дзвярыма пачуліся крокі і ляск аружжа.

Дзверы крыху адчыніліся.

— Хто ест тутай хлопак Грышка, ідзь да полкуўніка!

Грышка драмаў на лаўцы пад акном.

Ён усхапіўся, абвёў усіх нейкім незразумелым поглядам і, замест таго, каб ісці да дзвярэй, гэтак рынуўся ў акно, што толькі пачуўся звон шкла ды выкрыкі знянацку перапуджаных арыштаваных, якія драмалі на падлозе...

На двары чутна была страляніна, крыкі жаўнераў, але Грышка нічога не чуў... Ён без памяці бег, сам не ведаючы куды. Ды яму ўсё роўна было, абы толькі ўцячы ад бізуна ды шомпала...

Апамятаўся Грышка толькі тады, калі яму стала холадна. Ён прачнуўся і ўбачыў, што ляжыць у высахшай канаве, вёрст за пяць ад маёнтка, у якім знаходзіўся пастарунак...

Грышка азірнуўся — наўкола нікога не было. Ён пачаў абмываць кроў на твары, на руках і нагах, прыпамінаючы, як усё было...

Сонца ўзнімалася з-за лесу, і цяпло праменняў праганяла холад туманнай раніцы.

Увесь дзень Грышка праляжаў галодны ў канаве, не паказваючыся, каб хто не пабачыў яго.

Як толькі сцямнела, Грышка пачаў прабірацца ў вёску да Андрэя, каб аб усім расказаць яму і хоць трохі прагнаць голад...

Андрэя дома не было... Яго старая матуля, аблітая слязьмі, спужалася, калі пабачыла Грышку, бо ў вёсцы днём пранеслася чутка, што Грышку-свінапаса застрэлілі, калі ўцякаў з пастарунка...

Крыху супакоіўшыся, старая расказала Грышку, што Андрэй уцёк мінулай ночы ў лес і што палавіна маладых хлопцаў з вёскі паўцякалі, каб не папасці ў лапы польскіх жандараў.

Грышка павесялеў. Ён быў рад, што не адзін будзе вандраваць па лесе...

Пападвячоркаваўшы, захапіўшы з сабою кусок сала

і буханку хлеба, Грышка пакіраваўся ў лес, які яму быў вельмі вядомы, як падпаску, дзе прыходзілася пасвіць каровы і страчацца з Гэлькаю... Непакоіла яго толькі думка аб бацьку, якога ён пакінуў у пастарунку.

А ноч была цёмная... Узняўся вецер, хмары пачыналі пакрываць неба...

Па ўсім было відаць, што распачнецца страшэнная бура...

Лес шумеў... Дрэвы хіліліся да самай зямлі, нібы нізкім паклонам віталі Грышку-свінапаса, які ішоў хавацца ад злых ворагаў...

На другі дзень адзінокага блукання па лесе Грышка напаткаў грамаду вясковых хлапцоў... Воплескамі і радаснымі крыкамі спаткалі хлопцы Грышку, ведаючы яго старыя заслугі, як спрытнага падпольніка.

З гэтага дня распачалося новае жыццё Грышкі-свінапаса...

Жыццё ўпартай барацьбы за праўду...

## VII

Прытуляе каўказца да сябе ўшчэлле гор, украінца — стэп шырокая ды прывольная, а беларуса — лес...

Эх, лес!..

Нібы думкі ён ведае сваіх насельнікаў.

Плачуць людзі — лес шумна і жаласліва шуміць; людзям радасна, весела — лес рагоча, аж заліваецца. Лісце на дрэвах шапаціць цудоўную казку, верхаліны прыхіляюцца адна да другой і соладка цалуюцца...

Але вось шмат дзён не сціхае бураломнае ігрышча...

Нешта нядобрае дзеецца на абшарах Беларусі, калі стогнам стогнуць сасоннікі і бярэзнікі, калі дубы-сталеткі варушаць сярдзіта сваімі моцнымі рукамі — галлямі...

А па гушчарах лесу блукаюць людзі...

Хто яны?!.

Чаму яны не там, дзе святло і сонца?..

Чаму яны замурзаныя, закураныя дымам, абраслі валасамі?

Чаму яны ў зараслях пушчы, у пастаяннай вільгаці і цемры марнуюць сваё жыццё?!.

Засвістаў вецер, пачаў скакаць з дрэва на дрэва нібы шалёны, пачаў лахмаціць лісце...

І дрэвы загаманілі...

Трэба прыслухацца, аб чым лес гамоніць.

Невядомыя людзі, што вандруюць па абшарах беларускіх лясоў,— гэта паўстанцы...

Гэта пакрыўджаныя, зняважаныя, асмеяныя і аплёваныя польскім панам старыя і маладыя сяляне.

Толькі тут, у лесе, знайшлі яны сабе прытулак, толькі тут ім можна смела выказаць сваю крыўду на ворага... Можна і помсту прыдумаць...

Лес не выдасць...

Вось і сонейка апусцілася за ўзгорак.

Вечар...

Туман нашай балотнай краіны павіс над лесам, нібы хто белую коўдру распасцёр.

Замоўклі спевы дняўных птушак. Толькі аднастайная траскучая песня драча парушала вячэрнюю цішу...

Змрок ахіляў лес усё хутчэй і хутчэй.

Пад старым дубам, які распасцёр сваё голле на некалькі сажаняў ва ўсе бакі, на досыць прасторнай паляне сярод непраходнага гушчару, пачаў усхліпваць агенёк...

Паўстанцы-бунтары адусюль накіроўваліся на полымя, якое асвячала кавалачак пушчы.

Каля агню сядзела некалькі чалавек. На завостраных прутках арэшніку яны пяклі мяса некай застрэленай дзікай птушкі.

Як толькі дзе-небудзь чуліся крокі чалавека, які ішоў да вогнішча, некаторыя палахліва пазіралі ў цёмную даль лесу.

Але вартаўнікі, пастаўленыя ва ўсіх канцах паляны, зараз жа давалі ведаць, што гэта свой, і ўсе былі супакойны...

Малады, стройны хлопец Андрэй закурыў насушаных альховых лістоў, лёг непадалёчку ад вогнішча пад кустам і пад нос сабе запяяў:

Эх ты, ночка, маці-ночка,
Эх ты, бацька — цёмны лес,
Жыву тут я паўгадочка,
Тут не страшны сам і бес...

— Што? Новую сачыніў? — запытаў, папраўляючы дровы, стары Мікола, які кожную хвіліну ўспамінаў пакінутую жонку і дзяцей і плакаў пры кожнай сумнай і вясёлай песні.

— Так, браток, выдумаў пад кустам лежачы. Можна, ведаеш, цягнуць на матыў:

Эх ты, доля, мая доля,
Доля долюшка мая...

— Ну, ну! Пакінь Андрэй,— пачуўся голас з грамады,— бач Мікола ўжо нарыхтаваў рукаў слёзы ўціраць...

— Не буду... А вось Грышка тае... Даўно час быць тут,— сказаў Андрэй, прыкурваючы «папяросу», якая ніяк не хацела гарэць...

— За Грышку баяцца не трэба,— загаманіў Сцёпка, які мацней за ўсіх любіў Грышку і гатовы за яго памерці хоць зараз.— У якіх пераплясах Грышка быў, нам таго не бачыць...

— Ну і хлапец,— падхапіў Мікола,— хто б гэта думаў, каб пастухоў сын, свінапас?.. ну і храбры... Адвагі і смеласці больш як у старога. А да чаго спрытны!

У гэты час недалёка ад вогнішча затрашчала сухое галлё.

Усе наставілі вушы.

Хуткім, але лёгкім поступам нехта ішоў на святло вогнішча...

— Грышка! Грышка! — зашушукала грамада...

Казюк, дванаццацігадовы хлапец, адскочыў ад агню, накінуў на галаву кажух і лёг нібы то спаць...

Казюк уцёк у лес тыдні два таму назад... Бацька яго багаты засцянковы шляхціц... На пытанні, чаго ён пайшоў у паўстанцы, Казюк адказваў, што яго польскія жаўнеры два разы высеклі за тое, што знайшлі ў стозе на гумне аружжа... Гэта і прымусіла ўцячы ў лес, каб адплаціць за шрамы, якіх ён нікому чамусьці не паказваў.

Шмат хто не давяраў Казюку. А Грышка, дык той проста лічыў Казюка не сваім хлопцам і казаў усім асцерагацца яго.

Казюк гэта адчуваў, дзеля чаго стараўся з Грышкам не сустракацца.

— Ён! ён! — мацней загаманілі хлопцы...

Так. Гэта быў Грышка... З кароткім карабінам за плячыма, абвешаны гранатамі, Грышка стаў каля вогнішча і, нахмурыўшы бровы, загаварыў:

— Час надыходзіць! Больш асцярожнасці, больш адвагі і смеласці. Сувязь паміж усімі атрадамі, якія знаходзяцца ў гэтай пушчы, устаноўлена... Праз некалькі дзён мы мусім злучыцца ў больш мацнейшыя дружыны і прыблізіцца да тых шляхоў, якімі маюць адступаць польскія войскі.

— Эх, скарэй бы, далі-бог! — усхапіўшыся з-пад куста, крыкнуў Андрэй і тут жа пусціўся ўпрысядкі...

Грамада зразу павесялела. Усе не маглі счакаць рашучага часу, каб выступіць адкрыта ў бойку з тымі, праз каго гніюць у балоце цэлыя месяцы...

— Адно дрэнна! — пачаў зноў Грышка,— Макара Грыба злавілі, якому было дадзена заданне выкрасці вайсковыя паперы. Але я думаю, што ён не выдасць...

— Ніколі! Ніколі! — загула грамада.

Але гэта вестка крыху сапсавала настрой.

Нейкі час усе маўчалі,

— Змяніць варту,— сказаў Грышка,— ды на супачынак!..

Праз паўгадзіны ўсе спалі. Вогнішча было затушана.

## VIII

Ноч мінула. Надышла раніца.

Холад узбудзіў амаль усіх.

Хто каля агню грэецца, а хто закутваецца з галавою і нагамі ў світку або кажух і нібы вужака шыецца ў куст ці ў кучу сухога лісця. Грышкі ўжо даўно няма.

Да ўсходу сонца ён прачнуўся і пашыбаваў к вызначанаму месцу, дзе яго чакаў чалавек з таго маёнтка, з якога ён уцёк.

— Што з бацькам? — было першым пытаннем Грышкі, калі ён пабачыў свайго сябрука панскага парабка Кузьму.

— Выпусцілі. І лесніка выпусцілі,— гаманіў Кузьма, не верачы, што перад ім стаіць той самы Грышка-сві-

напас, якога ўсе ваколічныя паны баяцца і якога кожная вёска ведае...

— А Макар?

— Застрэлілі,— ціхім голасам сказаў Кузьма,— але маладзец, што ні рабілі, як ні здзекаваліся — не прызнаўся ні ў чым...

Па целе Грышкі прабегла нейкая дрож. Яму захацелася зараз жа прыдумаць помсту для тых, хто застрэліў яго лепшага сябра.

— А дзяўчынка леснікова,— гаварыў Кузьма далей,— Гэлька, таксама некуды знікла. Кажуць, пайшла цябе шукаць... Бацьку выпусцілі, а дачкі няма...

Вочы Грышкі загарэліся дзіўным агнём. Твар паружавеў. Грышка паглядзеў на Кузьму і нічога не сказаў.

Стрэл з вінтоўкі перарваў гутарку.

Грышка хапіўся за карабін і прыхіліўся да дрэва. Кузьма ўпаў на зямлю і палахлівымі вачыма пазіраў на Грышку.

З-за кустоў у кроках трыццаці паказаўся чалавек. Грышка зразу спазнаў Амельку і кінуўся да яго.

А Кузьма тым часам яшчэ лепш прылягаў да зямлі, каб яго не бачылі, думаючы, што пачнецца бойка...

— Я другі дзень не магу адшукаць цябе... Прымушан быў страляць, каб хто-небудзь адгукнуўся — даў аб сабе ведаць...

— Гавары, гавары, як справы? — распяшаў Грышка, вітаючыся з Амелькам...

— У Ігуменшчыне шмат заарыштавана... Цэлую арганізацыю раскрылі...

— Хто прадаў? — злосна крыкнуў Грышка.

— Яшчэ невядома... Толькі я прыйшоў... мяне прыслалі папярэдзіць, што шмат польскіх шпіёнаў пушчана па лясах, каб выкрываць паўстанцкія арганізацыі. Трэба быць асцярожным пры фармаванні атрада і папаўненні новымі людзьмі... Мясцовая шляхта распаўзлася па лесе... Трэба думаць, што не з панамі яны ваяваць будуць, а хутчэй нас прададуць...

У Грышкі мільганула думка аб Казюку.

— У твой раён перасылаецца яшчэ некалькі атрадаў — гаварыў больш спакойна Амелька,— з якімі ты таксама павінен трымаць сувязь. Заўтра, а можа нават

і сёння,ты атрымаеш загад аб нападзенні на харчовы транспарт, які будзе ісці на мястэчка, дзе стаіць N-ская дывізія...

Тым часам Кузьма, убачыўшы таварыскую гутарку Грышкі з незнаёмым, устаў і накіраваўся да іх.

Усе трое пайшлі па вузенькай сцежцы, якая вяла да месца стаянкі атрада, якім камандаваў Грышка...

Сонца пачало прыграваць... Але было росна. Капелькі буйной расы рассыпаным серабром блішчэлі на траве.

Грышка аба ўсім забыўся. Усімі сваімі думкамі ён быў каля леснiковай хаты, каля Гэлькі, аб якой ён ніяк не мог забыцца.

Шмат разоў у яго лунала думка — украсці Гэльку і забраць з сабою ў лес. Альбо спаткацца і ўгаварыць ісці разам з ім.

Цяпер жа, калі Грышка даведаўся, што Гэлька кудысьці пайшла,— непакой апанаваў усю яго істоту...

— Гэй, свінапас! — пачуўся за дрэвам голас.

Усе трое вандроўцаў аглянуліся...

Гэта быў Андрэй, які хадзіў па лесе, задраўшы галаву і трымаючы вінтоўку нагатове, каб падстрэліць якуюнебудзь дзічыну і сасмажыць на полудзень.

## IX

— Паганяй, пся крэў! А то вазьму бат, ды раз па каню, а раз па табе, морда мужыцка!..

— Калі ж, паночку, бегчы не хоча... Не можа... Учора з горада паноў прывезлі, а сёння зноў...

— Ну, ешчэ цо мувіць бэньдзеш?!

І, уздымаючы слуп пылу, неслася фурманка з вёскі да засценка к шляхціцу: сын яго Казюк пайшоў у паўстанцы...

Туды ехаў польскі жандар.

Фурман, вясковы хлапец, які вёз жандара, таксама быў сябрам адной падпольнай арганізацыі... На гэты раз Сяргей (так звалі фурмана) быў нарочна пасланы з жандарам, каб выведаць, чаго ён едзе да Казюковага бацькі...

— Ты што? — загаманіў жандар да Сяргея,— у паўстанцы хутка пойдзеш?

— Тата не пускае...

— А, дурны хлопак! — усміхаючыся, сказаў жандар і закурыў цыгару...

Шляхціц Яроцкі сустрэў жандара, як найдаражэйшага госця...

У часе падвячорку Сяргей, ядучы малако ў сенцах, пачуў размову, якая выкрыла здрадніцтва Казюка...

— Праз тыдзень ён дома павінен быць, каб паказаць нам усе сляды тых шэльмаў,— казаў жандар Яроцкаму, які штохвіліны пазіраў то на акно, то на дзверы...

— Праз тыдзень, кажаце, значыцца, хутка?..

— І Казюк і ты бэньдзеце мець вельку падзяку і нагpаду ад пана палкоўніка...

— Каб жа толькі бог даў усё яно добра абышлося...

Сяргей ціхенька прытуліўся да кубла і слухаў... Ён гарэў увесь ад нецярплівасці, каб хутчэй гэту вестку перадаць каму трэба...

Дадому едучы, Сяргей сам гнаў каня, што было сілы. Яго непакоіла думка — пераказаць аб гэтым Грышку, у атрадзе якога, як вядома, знаходзіўся Казюк...

Не прайшло трох дзён, як Грышка быў паведамлёны аб «паўстанцу»-шпіёне...

Грышка сакрэтна загадаў двум хлопцам сачыць за кожным крокам Казюка і даносіць аб усім яму...

За два дні перад тым, як павінны былі адняць харчы вайсковага транспарту, Казюк хацеў уцячы дахаты і, напэўна, папярэдзіць аб гэтым адпаведных асоб. А можа, проста баяўся ўзброенага выступлення...

Спроба ўцячы скончылася для Казюка вельмі дрэнным... Два сакрэтна прыстаўленыя сачыць за ім хлопцы некалькі вёрст далі яму прайсці, а пасля прымусілі вярнуцца...

Казюк пачаў нават страляць. Але сакрэтнікі не паддаліся і паставілі на сваім...

У тую самую ноч яго судзілі. На судзе Казюк ва ўсім прызнаўся і кляўся, што ніколі б не выдаў ніводнага чалавека...

— Да дрэва! Да дрэва здрадніка! — гукала грамада.— Паміж паўстанцаў не павінна быць шпіёнаў! Да дрэва!..

— У нас хацелі карову і каня забраць польскія жаўнеры... А калі, кажуць, ты будзеш служыць нам і рабіць тое, што загадаем, то нічога не возьмем... Бацька мяне і набухторыў... Я сам ніколі,— поўзаючы па мокрай траве на каленях і кідаючыся Грышку ў ногі, прасіўся Казюк...

Грышка гордым поглядам акінуў усю сваю грамаду, а Казюка падарыў агідлівай усмешкай.

Грамада не перастала патрабаваць хуткай расправы.

— Ціха, хлопцы! — гукнуў Грышка.— Я з ім распраўлюся па-свойму... Нават рукі сорамна мараць аб такую паганую панскую падлізу... Ці ж стоіць псаваць порах і кулю!?.

— Даруйце, даруйце! — абліты слязьмі, прыпадаючы да ног то аднаго, то другога паўстанца, прасіўся Казюк.

— Вон з лесу, паганец, каб і вочы нашы цябе не бачылі! — крыкнуў злосна Грышка і паказаў пальцам удаль...

Усе здзіўлена паглядалі на Грышку...

А Казюк гэтак рынуўся ў кусты, ажно траскатня пайшла па лесе... Пабег куды вочы глядзелі...

— Малады яшчэ хлапец,— казалі сталыя паўстанцы Грышку.— Глядзі, што, выбраўшыся з лесу жывым, ён табе за гэту ласку шыбельніцу нарыхтуе... Ты яшчэ мала ведаеш такіх паганых здраднікаў...

Але Грышка маўчаў. Яму цяпер было не да гэтага, не да расправы над гэткім слабенькім і мізэрным чалавекам, які валяўся пад яго нагамі...

Грышку пачаў непакоіць лёс раскрытай арганізацыі, лёс тых асоб, якія не паспелі ўцячы ў лес...

— Калі толькі іх павесяць ці расстраляюць, то за кожную галаву нашага брата павінна загінуць па дзесяць панскіх галоў і па дзесяць маёнткаў са ўсім скарбам... І гэта мусім зрабіць зараз жа, пакуль яшчэ будзе сырым пясок магіл загінуўшых паўстанцаў,— гаварыў натхнёна Грышка, сабраўшы вакол сябе ўсю грамаду сваёй дружыны паўстанцаў...

У адзнаку згоды ўсе паднялі карабіны ўгору...

Наступіла маўчанне.

А лес так зашумеў, так загуляў віхар па галлі дрэваў,

што, здавалася, вось-вось пранясецца над зямлёю такая страшэнная бура, якая нічога жывога на зямлі не пакіне...

Усе моўчкі пераглянуліся і зашпілілі світкі.

— Кажуць, што нехта павесіўся, калі вецер такі пачынае шаймаваць,— сказаў стары Мікола і, узяўшы карабін у левую руку, правай пераджагнаўся...

— А можа, каго павесілі... Крыжам паратунку ім не дасі,— загаманіў нехта сярод грамады...

— А цяпер,— змяніўшы голас, сказаў Грышка,— гэта месца нам трэба пакінуць... Магчыма, Казюк ужо даносіў як-небудзь аб нашым гняздзе... Бліжэй да Дубовай Грады трэба пакіраваць — туды і носа ніхто не ткне...

І ўся грамада па аднаму слову каманды знікла ў гушчары лесу, забраўшы на сябе ўсе пажыткі і аружжа...

Застаўся стаяць толькі адзін Грышка. Яго нешта вабіла туды, бліжэй да лесніковай хаты. Яму захацелася пабачыцца з Гэлькаю і бацькам...

У глыбіні ж лесу, у пушчы непраходнай Грышка мог толькі спаткацца са сваім старшым братам Данілам, аб паўстанцкай працы якога таксама хадзіла шмат чутак...

Грышка стаяў, абапёршыся на карабін, і думкаю разам з ветрам гатовы быў несціся далёка, далёка...

Вецер не пераставаў гусці...Скрып дрэваў і шуршаніна лісця складалі чароўную, а разам з тым і дзікую лясную песню-казку...

## X

Гараць маёнткі. Нішчацца панскія скарбы, скарбы, набытыя мазольнымі рукамі батракоў ды парабкоў...

І руйнуецца ўсё гэта тымі самымі рукамі, чыімі было і набыта.

Яны маюць права пусціць усё з дымам і пажарам.

Лявон і ляснік, выпушчаныя з астрога, зноў занялі ў таго самага пана свае пасады.

Лявон пасе каровы, а ляснік — лесу вартуе.

Пан праз дзень — два прызывае да сябе Лявона і пытае:

— Скажы мне, Лявон, праўду: дзе твой сын Даніла? Толькі не мані — лепей будзе...

— Каб я так жыў, паночку, што не ведаю. Напэўна, ў бальшавікоў... Я трэці год не бачыў яго...

А свінапас дзе твой?

— Вось гэтага, то я зусім не ведаю... Мусіць, загінуў недзе... Ён тады так напужаўся...

— А ты не чуў, што кажуць пра тваіх сыноў?

— Не, не чуў?

— Маніш, шэльма... Усе як у бубен б'юць, што яны абодва ў лесе арудуюць з іншымі паўстанцамі... Ведаеш, што амаль кожную ноч шугае да нябёс агонь то ў тым, то ў другім маёнтку?.. А ты яшчэ кажаш, што не ведаеш аб іх, што не чуеш гутаркі аб іх зладзейскіх паступках...

— Вольна каму-небудзь плявузгаць, узводзіць ману на непавінных людзей.

— Глядзі, Лявон, яшчэ раз кажу, што твая старая галава адпавядаць будзе, калі толькі ў мяне здарыцца якое-небудзь няшчасце.

Так яно і выйшла.

Нібы то пан нагаварыў сам на сваю галаву няшчасце.

Праз тры дні пасля размовы з Лявонам панскі маёнтак быў падпалены зразу з чатырох канцоў...

Хаця пажар хутка быў затушаны польскімі жаўнерамі, якія стаялі ў маёнтку, але страты было прынесена шмат.

Больш за ўсіх напалохаўся пастух Лявон, які чакаў не малой расплаты за такое здарэнне.

Але пан быццам бы і забыўся на свае пагрозы Лявону, бо адшуканне вінаваўцаў пажару раскрыла зусім новую справу.

У суседняй вёсцы было знойдзена шмат аружжа і кулямёты, а таксама знойдзены былі ў аднаго заарыштаванага паперы, якія выкрылі патаемную арганізацыю.

З гэтай прычыны пан Панятоўскі, пастухом у якога і служыў Лявон, быў заняты распраўаю з сялянствам.

Панятоўскі добра ведаў сялян бліжэйшых вёсак, з многімі судзіўся за сервітут, і вось цяпер ён задумаў за ўсё разлічыцца.

Жандары цэлыя вёскі, ад малога да старога, выганялі на дазнанне.

Самымі жорсткімі карамі мужчын і кабет хацелі выведаць, хто пайшоў з гэтай вёскі ў паўстанцы, з якой хаты ёсць бальшавікі ў Савецкай Расіі.

Ніхто слова не раняў лішняга, ніхто не прызнаўся і не даў правідловага адказу...

Тады караючыя атрады польскай жандармерыі падпальвалі вёску ў трох месцах і нікога не пускалі тушыць...

Змаганне пачалося не на жыццё, а на смерць...

Агонь і дым пакрылі абшары краіны, людзі якой цярпелі праз шмат вякоў і чакалі якогась збавення.

Уночы гарэлі маёнткі, а ўдзень жандары палілі вёскі і сёлы.

Дні і ночы захліпаліся ў моры агню, які і павінен быў прынесці збавенне мільёнам працоўных мас...

У адзін з гэткіх «светлых» дзён адбыўся палявы суд над паўстанцамі Ігуменшчыны...

Іх расстралялі...

— Як мала, як мала! — казаў пан Панятоўскі, п'ючы гарбату з мясцовай жандармерыяй. — Толькі расстраляць?.. Па-мойму— раней павесіць, не даць сканаць на шыбельніцы і тады страляць, па аднаму, як шалёных сабак... Ды ўсё трэба гэта рабіць на вачах ваколічнага сялянства, на вачах бацькоў і матак гэтых бунтаўшчыкоў, каб і дзесяты закаяўся займацца такімі штукамі.

— За тых хлопакаў, якіх мусім ешчэ вешаць і стрэляць! — чуць трымаючыся на нагах і паварочваючы языком, сказаў жандарскі палкоўнік, чокаючыся з панам Панятоўскім...

— Я, пане палкоўніку,— гаманіў, трымаючы чарку ў руках Панятоўскі,— заўсёды мувіў, цо не вольна даваць патолі хамам... Цо, пан палкоўніку, паведзе на тэн выпадак, які быў у моім маёнтку? Хто мусі быць пакараны за руйнаванне і пажары дзесёнткаў, соткі такіх маёнткаў, за пшэліту крэў нашэго шляхецтва ў гэтым хамскім краі!? Так нех бэньдзе спокуй, і наша панаванне нех жые!

Пры слове «жые» камізэлька не стрымала тоўстага жывата Панятоўскага, і два гузікі ўпалі на стол.

— Пшапрашам,— сказаў сканфужаны такім здарэннем пан Панятоўскі і сеў у крэсла...

Траля-ля-ля-ля-ля...—

цягнуў у кутку, набраўшыся да адказу «пазнанкі», ад'ютант палкоўніка, раз-по-раз цалуючы руку маладой дачкі Панятоўскага, паненкі Ванды.

— Мне хцэся до Варшавы... Мувяць, цо там так ладне, так пшыемна,— захапляючыся прыгожасцю ад'ютанта, гаварыла Ванда...

— О, так ... мы хутка ў Варшаве бэньдземы...

— Для чэго?

— А так...

— Цо пан ад'ютанце мувіць?!

Раптам вясёлая капела, якая спраўляла «хаўтурны» вечар па толькі што расстраляных паўстанцах, ускочыла з-за сталоў, пачуўшы за акном страляніну.

Атрад паўстанцаў адбіваў у польскіх жандараў арыштаваных сялян, якіх вялі на дапрос да палкоўніка...

Усе вайсковыя выскачылі на ганак, а Панятоўскі бегаў як апантаны па хаце, не знаходзячы месца, куды схавацца...

Калі бойка скончылася, палкоўніку быў данесен рапарт, што паўстанцы ў ліку больш сотні чалавек перабілі канвойную каманду і вызвалілі арыштаваных, захапіўшы апошніх з сабою ў лес...

Палкоўнік даў загад усіліць варту пастарунка, а сам, насупіўшы бровы, сеў дапіваць «пазнанку»...

## XI

Па дарозе ў вёску Ціхі Бор ішоў сляпы жабрак Мітрафан, трымаючыся рукою за плячо свайго хлапца-павадыра.

Павадыр быў босы, у падраных штанах і кашулі, з торбаю за плячыма і сухім лазовым прутком у руках.

Гарачы ранняга лета дзень змарыў да астатку сіл старога і малога жабракоў...

— Скажы, сынку,— запытаў Мітрафан,— відаць вёска ці не?

— Відаць... некалькі крокаў і мы ў вёсцы,— адказаў павадыр, папраўляючы торбу...

— Гэта што там у цябе ў торбачцы шарахціць?

— Знайшоў кніжку — вось і нясу.

— А цікавая?

— Чытаць не ўмею.

— І ты не ўмееш? Шкода... Няхай я сляпы, а то і

відушчы пазірае на паперу і не разумее, што там надрукавана...

— А начаваць, дзядуля, тут не будзем... Пройдзем адным бокам сяла — ды далей...

— Калі ж ногі мае, сынку, ісці адказваюцца... Ты што!? Ты столькі сцежак не пралажыў, столькі зямелькі чорнай не патаптаў, як я... Мяне тут уся акруга ведае... Мужыкі і паны... Часамі ў маёнтак зойдзеш, то ў парабкоў дзень — два, а то і тыдзень пражывеш. Ёсць людзі добрыя на свеце.

— А паны добрыя? Як па-твойму, дзядуля?

— Што паны... Аб іх цяпер і гаварыць не можна. Я хаджу па свеце і калі не бачу, то шмат чаго чую. О, як здзекаваюцца паны з беднага народу...

— А народ цярпіць,— дагаварыў павадыр.

— Мусіць цярпець, калі панская ўлада...

З гэтымі словамі жабракі ўвайшлі ў вёску...

Ліра Мітрафана і яго ціненькі галасок пачалі напамінаць кожнай сялянскай хаце аб жабрацкім краі. Аб краі і народзе, які спакон веку жабруе.

Павадыр таксама крыху падпяваў.

Але яму не цярпелася. Яму хутчэй хацелася быць у той вёсцы, дзе ў сягонняшнюю ноч павінна адбыцца сходка...

Мінаючы то адну то дзве хаты, павадыр як бачыш прайшоў са старцам вёску і пайшлі далей.

Ужо было цёмна, калі двое жабракоў у той самай вёсцы, куды павадыр і спяшаўся, хадзілі ад хаты да хаты і прасіліся начаваць.

Урэшце самы бяднейшы жыхар вёскі адвёў у сваё гумно і паказаў кучу саломы, дзе можна начаваць.

А дванаццатай гадзіне ночы, як было і ўмоўлена, павадыр выкраўся ад заснуўшага старца і пабег туды, дзе яго чакалі.

Маленькая вясковая хатка, з завешанымі шчыльна вокнамі, была перапоўнена хлопцамі-сялянамі.

Як толькі пасля шостага стуку адчынілі дзверы, у хаце зрабілася так ціха, што жужаніна мухі чутна была...

— Грышка, Грышка! — чулася нават у сенцах...

А калі толькі Грышка ў вопратцы павадыра з'явіўся ў хату, амаль не ўсе спалохаліся.

Грышкі ніхто не пазнаў, таго самага Грышкі, якога не так даўно бачылі ў Каровіным Гаі на сакрэтным сходзе...

— Мяне сляпы Мітрафан сюды прывёў,—сказаў Грышка, вітаючыся са ўсімі па парадку.

— Гэта, значыцца, павязло, калі сляпы відушчага прывёў... А ты хітрэц, Грышка...

— Ай ды малайчына, каб так яму жылося! Вось надумаў штуку!

Некалькі хвілін — і ў кожнага прысутнага ў руках была бальшавіцкая адозва, якія Грышка некалькі дзён насіў у сваёй жабрацкай торбе.

Сход зацягнуўся да трэціх певуноў.

Хлопцы не маглі развітацца з Грышкам, не маглі надзівіцца яго смеласці і выдумцы.

А праз некалькі дзён Грышка ў гэтай самай вопратцы, ведучы за руку сляпога Мітрафана, уваходзіў у маёнтак пана Касінскага, дзе змяшчаўся штаб адной польскай дывізіі.

Тут яму даручана было выпаўніць больш паважную і сур'ёзную справу — выкрасці сакрэтныя паперы і раскідаць прызываючыя да бунту лісткі сярод польскіх жаўнераў.

На вялікі жаль Грышка зразу, як толькі ўвайшоў у пякарню, дзе жывуць парабкі, пачуў вестку, якая парушыла ўсе яго планы.

Два парабкі, якія былі ў сувязі з паўстанцамі і павінны былі дапамагчы Грышку выпаўніць даручэнне, сядзелі ў пастарунку заарыштаванымі за падазрэнне ў нападзенні на скарбніка, які вёз грошы ў дывізійную касу.

У маёнтку было неспакойна.

Грышка ўбачыў, што аставацца тут ні ў якім разе не можна, і, выкінуўшы некалькі лісткоў каля кузні, пад плугі, якія парабкі пасля абеду павінны былі запрагаць для ворыва, угаварыў дзядулю ісці далей.

— Няма супакою на свеце і не будзе,— казаў Мітрафан, чуючы размову Грышкі з тутэйшым пастушком,— тады толькі настане для чалавека супакой, калі зямлёю вочы загорнуць... Чаго б вось нам баяцца з табою? Нас не абкрадуць, бо не багатыя, не заб'юць бо нікому дрэн-

нага нічога не робім, а неяк вось, сынку, непакойна на сэрцы...

Грышка маўчаў. Яму нават сорамна стала, што ён водзіць сляпога жабрака, а жабрак прыкрывае маладога бунтара-паўстанца, які вялікую справу робіць, ходзячы ад вёскі да вёскі... Такую справу, за якую сотні і тысячы людзей павешаны і застрэлены...

І пайшлі жабрак і бунтар ад адной мясціны да другой..

Адзін моліцца — ласкаю і пакорнасцю просіць сабе кавалак хлеба...

А другі, каб мець кавалак хлеба, каб знішчыць крыўду і няволю, уздымае бунтарскі дух народу, кліча да барацьбы з панамі...

## XII

Недалёка ад шляху, на ўзгорку, пад трыма нізкарослымі хвойкамі была насыпана высокая магіла...

Там былі закапаны сяляне-паўстанцы.

Грышку аб гэтым месцы даўно было вядома, вось чаму, параўняўшыся з гэтымі трыма хвойкамі, Грышка звярнуўся да сляпога старца:

— Дзядулька! Вунь... але ты, праўда, не бачыш... Адным словам, недалёчка ад шляху стаяць магілы, дзе закапаны паўстанцы...

— Так чуў, чуў аб гэтым...

— Зойдзем туды...

На вачах Грышкі навярнуліся слёзы, калі яны ўкленчылі на жоўты пясок магілы...

— Маліся, сынку, хай ім бог дае царства нябеснае.

— Я не ўмею, дзядуля, маліцца... Ты маліся, а я так... па-свойму...

Тры жмені пяску Грышка ўсыпаў сабе ў торбачку. Сэрца яго забілася мацней. Але пачуццё помсты заглушала ўвесь боль яго маладой, поўнай агню і адвагі, бунтарскай душы.

Толькі шум хвоек вывеў яго з задумення.

— Не дараваць! — вырвалася гучна слова з вуснаў Грышкі.

Мітрафан у гэты час выпрастаўся і сказаў.

— Слабыя мы з табою, сынок дарагі... Не даруе, хто сілу будзе мець...

Грышку нібы то хто сказаў зірнуць на шлях, з якога да гэтых самых магіл ішоў нейкі незнаёмы чалавек...

— А можа, сочаць за тымі, хто тут бывае на гэтых магілах? — мільганула думка ў Грышкі.

І ён, доўга не думаючы, ускінуў сваю торбу на шыю Мітрафана, сам пабег з узгорка ўніз, у адваротны бок ад шляху.

Грышка не памыліўся.

Незнаёмы чалавек падышоў да жабрака, нешта доўга гаварыў, паказваючы пальцам на Грышку. Пасля відаць было, што выцягнуў з торбы лісткі і, разгледзеўшы іх, сілком пацягнуў за сабою сляпога.

Грышка што было духу папёр цераз поле ў бярэзнік. Яму было вядома, што за вёрст пяць пачынаюцца абшары пана Панятоўскага, дзе ён быў свінапасам, дзе і пагэтуль яго бацька пасе быдла...

«Туды страшна,— падумаў Грышка, прыхіліўшыся за бярозу і аглядаючыся наўкола, каб з кім-небудзь не спаткацца.— А то можа да лесніка? Няўжо хто зловіць? Няўжо там варта пастаўлена?»

Дабраўшыся да густога лесу, Грышка зусім спакойна пайшоў па знаёмых дарожках да леснікoвай хаты.

«А што яны зробяць са сляпым жабраком? — не пакідала думка Грышку.— Няўжо таксама па-зверыаму расправяцца?»

Ляснік толькі што вярнуўся з абходу і разам з Гэлькаю сядзелі на прызбе.

Гэлька вярнулася дахаты праз два тыдні.

Яна ўцякла была з дому да цёткі, якая таксама была замужам за адным з леснікоў радзівілаўскага лесу.

Усе думалі, што Гэлька загінула. Бацька хацеў ужо імшу адслужыць. Але яна з'явілася дахаты, ні слова не кажучы, дзе і чаго была. Толькі праз некалькі дзён прызналася бацьку, што пайшла шукаць у лесе Грышку і гэтакім чынам дайшла да цёткі.

Стары ляснік быў бязмерна рад, і цяпер ні на адзін крок не адпускаў яе ад сябе.

У лес ідзе — вядзе з сабою, дома сядзіць — казкі ёй гаворыць або паложыць галоўку на калені і гладзіць яе прыгожыя, мяккія, як шоўк, валасы.

А Гэлька назбірае кветак, уе вяночкі і штохвіліны

ўспамінае Грышку, з якім гэтак дружыла, пасучы каровы, і якога выдаў польскім жаўнерам гэты паганы сабака Лыска.

У нядзельку ж яна разам з бацькам нясе гэтыя вяночкі на магілу якогасьці забітага палякамі хлапца, якая знаходзілася недалёка ад краю лесу.

Гэлька чамусьці думала, што там пахован Грышка, якога забілі, калі ўцякаў з пастарунка.

Лявон, бацька Грышкі, таксама штодня маліўся на гэтай магіле, не ведаючы таго, што яго Грышка жывы і здаровы.

— Тата, чаму мне не страшна ў лесе?..

— Таму, дачушка,— адказаў ляснік, — што ты ў лесе радзілася, выгадавалася і ўвесь час жывеш... Ты, як ваўчанятка дзікае, хутчэй людзей спалохаешся, чым глухой пушчы і шумлівага лесу.

Лыска, які ляжаў каля ног лесніка, загаўкаў і пабег да варот.

Гэлька кінулася ўслед за Лыскам.

— Тата, тата!.. Паглядзіце... хто гэта...

Стары ляснік бягом падбег да варот і стаў углядацца на чалавека, які баязліва пазіраў з-за дрэва.

— Грышка! — загукала Гэлька, ажно рэха пакацілася па лесе...

І Грышка стрымгалоў бег да варот.

Лыска перастаў брахаць. А ляснік не верыў сваім вачам.

Толькі калі Гэлька, кінуўшыся на шыю, пачала спазнанага абарванца цалаваць, ляснік паверыў, што гэта быў Грышка-свінапас.

— Ты жывеш?! — чуць прамовіў ад радасці бацька Гэлькі.

— А чаго мне паміраць!

Стары ляснік, выпускаючы слязу за слязою, не пераставаў цалаваць Грышку, аберуч абняўшы яго і Гэльку.

— У нашым лесе цяпер крыху паспакайнела,— казаў ляснік, ведучы Грышку ў хату.— Не бойся, у мяне можна доўга жыць, ніхто ведаць не будзе...

І толькі сёння першую ноч за ўвесь час блукання па лесе, за час паўстанцкага жыцця Грышка начаваў больш-менш спакойна, не галодны і ў цёплай хаце.

Схавалася ў змроку ночы хата лесніка. Наступіла мёртвая ціша. Бадай усё жывое паснула.

Але Грышка яшчэ не спаў. Ён слухаў апавяданні лесніка, які больш месяца разам з Лявонам сядзеў у астрозе.

Гэлька ўжо спала...

## XIII

— Вы чулі? Сляпога жабрака Мітрафана палякі заарыштавалі...

— Гэта таго жабрака, што на Чырвоных магілах маліўся? (так звалі магілы паўстанцаў).

— Таго самага. Павадыр уцёк, а ў яго, кажуць, поўныя торбы знайшлі бальшавіцкіх лісткоў...

Такімі чуткамі зажылі ўсе ваколічныя вёскі...

— Кажуць,— дадавалі другія,— што гэта не павадыр яго быў, а паўстанец, які ішоў пана нашага забіць.

— Шкада, што не забіў гэту погань...

І шмат іншых казак хадзіла пра жабракоў, якія па ўсёй Беларусі хадзілі і бунтавалі народ, каб паўставалі супроць паноў.

З гэтага часу ўсе жабракі, якіх так шмат на Беларусі, былі ў вялікай пашане. А польская ўлада пачала папаўняць пастарункі рознымі калекамі, бачачы ў кожным свайго ворага, шчырага прыхільніка паўстанцаў.

Тым часам наступаў вялікі неспакой сярод польскіх войскаў. У паветры запахла порахам. Усе ў адзін голас пачалі гаварыць, што палякі вось-вось павінны пакінуць залітыя крывёю абшары Беларусі...

— Паўстанцы, стройся! — пранеслася баявая каманда па лясах і балотах...

З далёкіх глухіх пушчаў паўстанцкія атрады пачалі падыходзіць бліжэй да шляхавых дарог, да тых мясцін, дзе маглі быць непадалёку пазіцыі...

Грышка ўжо даўно разам са сваёю дружынаю знаходзіўся ў добра знаёмым яму лесе, дзе быў вартаўніком бацька Гэлькі.

Жыццё паўстанцаў пайшло куды лепей.

Раней прыходзілася жыць дзічынаю ды перахвачанымі харчамі ў польскіх войск, што стоіла заўсёды немалой ахвяры.

Цяпер жа — былі блізка родныя вёскі.

У цёмныя ночы шмат хто з паўстанцаў, крадучыся, прабіраўся дахаты, жыў там дзень — два ў саломе або дзе-небудзь у склепе, каб на вочы нікому не паказацца, а пасля, набраўшы харчоў, зноў уцякаў да сваёй дружыны ў лес...

Хатнія таксама часта дастаўлялі ў лес харчы сваім бацькам ды братам, прысылалі цэлых рэзаных кабаноў, цялят, авечак, хлеба і інш.

Адным словам, не жыццё пайшло, а масленіца. Уся сувязь паўстанцаў той дружыны, дзе быў Грышка, трымалася праз лесніка і яго дачку Гэльку.

Познім вечарам, калі ўсё нарыхтуецца да сну, Грышка штодня ішоў на спатканне да Гэлькі. Гэлька выпаўняла ўсе заданні, якія ёй даручаў Грышка. Яна амаль штодня хадзіла ў маёнтак пана Панятоўскага, прыслухоўвалася да настрою польскіх войскаў, якіх тут было нямала, і аб гэтым даносіла Грышку.

Не паспее ўзысці сонейка, не прасохнуць яшчэ лясныя сцежкі ад ранняй расы, як Гэлька ўжо бяжыць у маёнтак або ў вёску, дзе былі хлопцы, таксама трымаючыя сувязь з баявымі дружынамі лясоў і балот.

А вечарам, маленькая паўстанка са здавальненнем, якога не можна нават апісаць, апавядае Грышку аб усім, што яна чула і што ёй перадавалі сказаць.

Месяц выплыве на сярэдзіну неба. Пачынаюць часамі і птушкі раннія шчабятаць, захаваўшыся ў лісці дрэваў, пастушок-свінапас і пастушка не могуць развітацца.

Скончыўшы гутарку аб справах сакрэтных, яны цэлымі гадзінамі сарамліва пазіраюць адно на другога, моўчкі прытуляюцца, але не знаходзяць слоў аб чым гаманіць.

Ды нашто словы, калі ім і так прыемна, прыемна толькі пазіраць адно другому ў вочы, якія заўсёды зоркамі бліщчаць у змроку ночы.

Гэлька не раз хадзіла разам з Грышкам да дружыны. Ёй падабаліся гэтыя адважныя незнаёмцы, якія дзень і ноч жывуць у лесе.

Паўстанцы таксама любілі гэту дзікую, чарнавокую дзяўчынку, якая парою выручала іх ад голаду і іншага няшчасця. Яны жартавалі з ёю, абзывалі яе лясным ваў-

чаняткам... А Грышку часта не прамiналi сказаць, нiбы жартамi, што ваўчанятка яго каханка.

Грышка маўчаў, толькi яго загарэлыя шчокi ружавелi, вочы хутка пачыналi бегаць i свяцiцца нiбы аганькi.

— Ну, а калi тваё ваўчанятка прыбяжыць да нас? Вясёлая яна дзяўчынка! — не раз жартавалi хлопцы над Грышкам, якi сапраўды пачынаў сумаваць, калi дзень або два не прыходзiлася спатыкацца з Гэлькаю.

Неяк аднаго дня надвечар прыбегла «ваўчанятка» ў густы кустарнiк, дзе быў прывал дружыны...

Але не вясёлую вестку прынесла яна хлопцам, якiя так радасна яе спаткалi.

З вёскi даносiлi, што вайсковыя часцi заўтра павiнны пакiнуць гэты раён i накiравацца да Мiнска. А за тры днi або чатыры ад'язджае i караючы атрад жандармерыi. З гэтай прычыны, як даносiлi падпольнiкi, у гмiне павiнен спешна адбыцца суд над сялянамi, больш чым над палавiнай вёскi, якiя збунтavалiся i не пайшлi да пана на работу. Шмат каго будуць судзiць за зносiны з паўстанцамi, хаця нiякага доказу на гэта ў польскiх уласцей не маецца...

Заставалася адно. Папоўнiць дружыну суседнiмi баявымi атрадамi i ў часе суда напасцi на гмiну, каб такiм чынам выратаваць нявiнных...

Хлопцы заварушылiся.

Былi пасланы нарочныя для паведамлення ўсiх блiжэйшых атрадаў, каб у вызначаны час злучыцца ў пэўным месцы i разам атакаваць гмiну.

Яшчэ патрэбна было як найхутчэй паведамiць мясцовае жыхарства, каб з iх боку была пэўная дапамога паўстанцам разузнаць сiлу польскiх войск, якiя знаходзяцца блiзка ад гмiны, дзе павiнен адбыцца суд над сялянамi...

— Я пайду! — выскачыў першы Сцёпка.— Мяне тут мала ведаюць... Я i Андрэй...

— Я гатовы! — гукнуў Андрэй, майструючы падэшву, якая адвалiлася ад бота.

— Я адзiн пайду,— цiхiм голасам сказаў Грышка,— я як бачыш аб усiм разведаю... Вы таксама са мною, толькi не далей краю лесу... У гмiну я адзiн пайду...

Усе пазіралі на Грышку.

А Гэлька памкнулася была нешта казаць, а пасля закрыла твар хусткаю і бягом пабегла ў туманную даль гушчару.

Назаўтра раніцаю Грышка хадзіў па акраіне лесу, які стыкаўся з канцамі сялянскіх загонаў той вёскі, дзе патрэбна было зрабіць разведку.

На полі нікога не было відаць працуючым, бо было яшчэ рана.

Дзень, як на дзіва, выдаўся цёплы і прыгожы. Грышка скінуў падзёртую вопратку і аружжа, захаваў пад кусты, а сам застаўся без нічога, у адных зрэбных штанах і кашулі.

Чакаючы змроку, каб непрыкметна перабегчы ў вёску, Грышка нарэзаў бярозавых дубцоў і пачаў вязаць венік, каб не было ніякага падазрэння.

Вясновае сонца песціла яго лахматую галаву, цалавала яго твар гарачымі праменнямі.

Рой думак насіўся ў яго галаве аб тым, што ён будзе рабіць, калі яго зловяць. Але палахлівасці не было ні капелькі.

Можа Грышка прывык ужо да такіх апасак, да такіх рыскоўных разведак, калі ён не раз сам ішоў у лапы свайго ворага, але заўсёды з-пад самага носа ўцякаў, як толькі было небяспечна.

— А можа, і цяпер удасца выпаўніць планы,— уцяшаў ён сам сябе.

Пачуўся недзе далёка-далёка плач трубы пастуха. Гэты знаёмы і блізкі сэрцу гук прагнаў усе змрочныя думкі.

Грышка пачаў успамінаць, як ён пасвіў свіней, пасля кароў, як гуляў з хлапцамі, лавіў птушкі,— адным словам, жыў, нічога не ведаў і нікога не баяўся.

— Но, каб цябе ліха!.. Куды вернеш?!.

Грышка зірнуў на загоны і ўбачыў селяніна, які абворваў бульбу...

Узяўшы на плячо звязаныя венікі, Грышка пайшоў да аратага...

« Шнурок вузенькі,— падумаў Грышка,— значыцца, бедны... Не выдасць мяне»

Араты, пабачыўшы незнаёмага хлапца, застанавіўся і пачаў курыць...

— Што, горача, дзядзька? — запытаў Грышка, кідаючы на мяжу венікі...

— Вядома не холадна, калі потам абліты і я і кабыла!.. А ты адкуль гэта? Нешта не ведаю ў твар...

— Я з той вёскі...

— З Камянёў?

— Так... З Камянёў... А чаму дзядзька адзін?

— Не пытайся! Абодва сыны там недзе...

Пры гэтым араты махнуў галавою на лес і цяжка пачаў уздыхаць.

— Я каня паваджу вам, хутчэй будзе... А вы мяне ў вёску сваю правядзіце,— сказаў Грышка зусім смела, бачачы, што перад ім чалавек надзейны.

— Ото-то добра, а то, падла, мухі кусаюць, дык з ёю не справіцца ніяк...

Не прайшло і паўгадзіны, як Грышка запытаў аратага:

— Вы чулі пра Грышку-свінапаса?

— А то як жа!.. Ого, пра яго рэчы апавядаюць...

— Вось гэта я і ёсць той самы Грышка-свінапас...

Араты выпусціў з рук пугу і нейкім спужаным поглядам аглядаў Грышку з ног да галавы...

— Я думаю,— казаў больш сур'ёзным тонам Грышка, выпусціўшы з рук павадкі вобруці,— што ты мяне не выдасі польскім легіёнам...

Незнаёмы селянін, хрысцячыся, пачаў казаць:

— Няхай бог бароніць... Ніколі, ніколі... Сыночак, мае дзеткі таксама там, у лесе... Ужо два месяцы весткі не даюць аб сабе...

І крыж за крыжам клаўся на мокрыя ад поту грудзі сівабародага селяніна...

— Я веру,— сказаў Грышка,— жагнацца не трэба... Я бачу, што табе таксама нясмачна жывецца...

Араты маўчаў, толькі ківаў галавою і ўздыхаў...

Пасля паўдня, калі скончылі абворваць загон, Грышка вярхом на кані, перакінуўшы цераз плечы венікі, уехаў у вёску, па якой дзень і ноч хадзілі і пялі п'яныя жаўнеры. Вясковыя хлопцы і дзяўчаты, як толькі цямнела, нават на вуліцу баяліся паказацца...

На Грышку ніхто нават не звярнуў увагі.

А вечарам, адзеўшы гаспадарову бравэрку і кажух,

Грышка разам з вясковымі хлопцамі і дзяўчатамі ехаў на начлег пад той самы лясок, дзе яго павінны чакаць Андрэй і Сцёпка...

Невясёлая песня начлежнікаў кранула чулае сэрца Грышкі... Ён пачаў ім падпяваць, уваткнуўшы твар у каўнер кажуха.

Ні ў кога з начлежнікаў і думкі не з'явілася, што з імі едзе Грышка-свінапас, аб якім яны гутараць штодня на начлезе.

Калі на сенажаці, каля самага лесу, начлежнікі расклалі вогнішча і паселі наўкола, Грышка зразу пачуў вельмі цікавую і нават новую для яго гутарку.

Хлопцы апавядалі аб Казюку, які быў разам з Грышкам-свінапасам і з іншымі паўстанцамі, а пасля ўцёк дахаты і цяпер паказвае польскім жаўнерам, водзіць іх па лесе, каб выкрываць нашых хлопцаў паўстанцаў...

— Кажуць,— дабавіў адзін з хлопцаў,— што яго Грышка пакрыўдзіў, дзеля чаго Казюк і хоча злавіць Грышку, каб не даравацъ.

— Эге! Здохне, не зловіць! Не такі Грышка дурань, каб яго шляхцюк злавіў! — гаварылі адзін да другога хлопцы, далей адсоўваючыся ад вогнішча, якое расло і шырылася ад ускладзеных на яго сухіх бярозавых дубцоў...

Грышка, седзячы паводдаль каля дрэва, лавіў кожнае іх слова і нейкі час не паказваўся...

## XIV

Поўнач. Маўкліва.

Толькі чуваць, як коні жуюць траву ды бражджыць жалезнае пута.

Але начлежнікам не палахліва. Ім што?! Не першую ночку пасуць яны коней сярод лясоў і палёў... Не адну байку праслухалі яны ад старэйшых начлежнікаў аб розных страхах, аб чэрцях і ведзьмах, аб ваўкалаках і мертвяках. Іншы раз гэтак зачаруюцца якім-небудзь прыгожым сказам, што не пабачаць, як і ночка прабяжыць.

Гэта было раней...

Цяпер жа не байкі баялі, а гаварылі аб тым, што

сапраўды наўкола дзеелася — гаварылі аб паўстанцах.

— Эх, каб я быў такім адважным, як Грышка-свінапас... Я і дня не сядзеў бы ў хаце...

— Пайдзі ў лес, і адвага знойдзецца.

— Баюся... Падумаеш аб гэтым, і то мурашкі па целе забегаюць... Зловяць легіёны — бата ўсыплюць, як Ігнасю Пятроваму, што і цяпер яшчэ сядзець не можа.

І грамада начлежнікаў гучна рагатала...

У гэты час непадалёку ад вогнішча нехта выстраліў з карабіна.

Грышка здрыгануўся...

— Пэўна парабак Яроцкага прывёў коней да нас,— загаманілі хлопцы,— распытаем аб Казюку...

Так. Гэта быў Хведар, які ўжо некалькі гадоў служыць у шляхціца Яроцкага... Хведар быў крыху, як кажуць, «недапечаны»... Служыў увесь час без грошай, толькі за яду і адзенне.

— Ну, Хведар, раскажы, як Грышка-свінапас твайго паніча з лесу прагнаў?

— Што аб гэтым казаць... Ёсць іншыя навіны...

— Ну, ну! Гавары!

Хведар зняў з плячэй карабін, сеў каля вогнішча на купіне і сказаў:

— Учора Казюк з легіёнамі начаваў дома... Паміж сабою гаманілі, што ўцякаць трэба, а то наўкола паўстанцы і чырвоныя напіраюць...

— Напіраюць?!.

— Ды яшчэ як напіраюць... Казюк таксама будзе ўцякаць. Ужо адзеўся ў жаўнерскую форму, з карабінам... А маці яго як плача!.. Не хоча, каб уцякаў... Можа, даруюць, кажа... Казюк і слухаць не хоча... Грышка, кажа, як вернецца, то першы застрэліць за тое, што паўстанцаў выказваў... І то яшчэ, кажа, добра, што зразу не застрэлілі там, у лесе, як даведаліся аб здрадзе...

— Ну, а яшчэ аб чым гаварылі?..

Хведар агляну́ўся на бакі і пачаў шаптаць:

— У маёнтку, дзе стаіць усё начальства, паперы нейкія прапалі... Мусіць важныя, бо шмат каго пасадзілі

ў пастарунак, каб прызнаваліся, хто ўзяў... Парабкоў білі нагайкамі... Нешта пра лесніка гаварылі і пра пастуха Лявона... Не чуў толькі, што гаварылі...

Грышка падняўся. У яго моцна застукала сэрца і паружавеў твар. Гутарка аб прапажы папер, аб бацьку і лесніку выклікала думку аб Гэльцы.

«Няўжо гэта яна выкрала паперы? А што, калі яе зловяць?» — падумаў Грышка і занепакоіўся...

— Заўтра суд будзе над сялянамі ў воласці,— зноў гаманіў Хведар,— легіёны туды з'язджаюцца.

Грамада змоўкла. Пачуліся цяжкія ўздыхі...

— Зноў будуць вешаць...

— І страляць...

— А за што? — загаманіў адзін з хлопцаў, падняўшыся з-пад кустоў,— за тое, што не пайшлі надарэмніцу працаваць на пана?! І за гэта судзіць? За гэта вешаць?

— Хто дужы, таго і права, таго і слухай...

Грышка не сцярпеў. Сціснуўшы кулакі і насунуўшы шапку на лоб, ён падбег да палаючага вогнішча і сказаў:

— А хто, па-вашаму, дужэйшы? Адзін пан ці вось наша гэта грамада хлопцаў?!

— А легіёны! — адказаў Хведар.

Хлопцы прыпадняліся.

— Гэта хто такі смелы? Ты ў каго служыш?— смеючыся, запытаў адзін з хлопцаў.

Усе начлежнікі пачалі ўзірацца на Грышку. А Грышка сярдзітым поглядам аглядаў кожнага хлопца.

— Табе, такому зухаватаму хлопцу, не коні трэба пасвіць, а разам з Грышкам у паўстанцах быць.

— А вы што — баіцеся? — сказаў голасна Грышка.

— Неяк боязна,— пачуўся голас з грамады.

— А вам не боязна, што заўтра прыгавораць на шыбельніцу такіх вось самых, як вы, лапцюжнікаў? Гэта вас не палохае?

Усе маўчалі. Некалькі хвілін Грышка не пераставаў злоснымі словамі лаяць паноў і сарамаціць тых хлопцаў, што не хочуць рашуча бараніцца — не ідуць у паўстанцкія атрады.

Хлопцы, дзяўчаты і нават мужчыны абступілі Грышку і лавілі кожнае яго слова.

— Пакуль не позна — не дайце рабіць самасуду над сялянамі. Віламі і тапарамі абаранеце заўтра тых, каго жандары павесіць захочуць. Мы вам паможам... А цяпер бывайце здаровы! Перадайце прывітанне Казюку і скажыце, што Грышка з ім паспее паквітацца... Цяпер жа Грышку трэба ў лес паспяшацца. Мяне там чакаюць...

І Грышка шпарка пашыбаваў у цемень ночы. Начлежнікі некалькі часу былі нібы зачараваны. Яны не маглі даць веры, што гэта быў той самы Грышка-свінапас.

— Вось скажу заўтра Казюку, што Грышку бачыў,— абазваўся Хведар.

— Маўчы, дурніца... і слова нікому не рэкні... Ён, пэўна, прыходзіў узнаваць, як і што тут робіцца... ая-яй?.. Ну, гэта дзіва... Глядзі — не пабаяўся...

Трашчыць на агні яловае голле, недзе заржала жарабятка... Усе чамусьці павярнулі галовы ў той бок, куды накіраваўся Грышка, і маўчалі... Полымя шугала... Асвечаныя зялёныя дрэвы здаваліся нібы пазалочанымі, здаваліся нейкімі казачнымі раслінамі. Але гэта хараство не вабіла да сябе пагляду начлежнікаў... Яны пазіралі на лес і думалі аб Грышку, думалі аб паўстанцах...

## XV

Грышка спяшаўся ў тое месца, дзе яго чакалі таварышы...

У галаве яго цяпер раілася адно: хутчэй даведацца, што з Гэлькаю...

Не даходзячы некалькі крокаў да чыгункі, Грышка застанавіўся прыслухацца, ці не ходзіць па палатне чыгункі варта.

Было ціха. Толькі недзе далёка-далёка быў чуваць свісток паравоза.

Грышка стаў прыслухоўвацца лепш і ўглядацца паўздоўж чыгункі.

Нібы з зямлі выраслі непадалёку тры чалавечыя фігуры. Яны падняліся з выемкі, успаўзлі па адкосу на палатно, прыпаднялі галовы і доўга пазіралі ў той бок, дзе за тэлеграфным слупам стаяў з карабінам у руках Грышка.

Наўкола лес і балота.

— А можа, свае хлопцы?

Грышка падаў умоўленыя гукі...

Тры фігуры шчыльней прыляглі да зямлі, але адгукнуліся:

— Свае!

Раптам Андрэй спаўзае з адкосу і, сагнуўшыся, ідзе ў бок Грышкі.

— Ты, Андрэй?

— Грышка?!.

— Але...

— Хлопцы, сюды... Свінапас жыў!

Яшчэ два паўстанцы вопрамеццю скаціліся ўніз і бягом да Андрэя і Грышкі...

— Ну, што? — пытае Андрэй,— многа легіёнаў? Ці можна будзе заўтра «прыпарку» ім даць у гміне?

— Не можна, а трэба! — сярдзіта адказаў Грышка,— а ў вас што чуваць?

— Эге!.. У нас, брат, таво...

Чатыры паўстанцы прыселі непадалёку ад палатна чыгункі за альховымі кустамі...

— Кажы, Андрэй!

— У нас, брат, навіны... Тваё «ваўчанятка» такія паперы выкрала ў штабе, што мы ведаем усе шляхі, кудою польская армія будзе адступаць...

— Ты праўду кажаш! А дзе Гэлька?

— Гэлька і яшчэ два паўстанцы панеслі гэту паперу да паўстанцкага камітэта, ну, а адтуль хутка і чырвоныя атрымаюць яе... А лесніка і... твайго бацьку зноў заарыштавалі... Намерваюцца вывезці з сабою...

— Значыцца, Гэлька жыве?! А бацькі зноў...

Шмат бліжэй пачуўся свісток паравоза...

Андрэй усхапіўся.

— Ты што? — запытаў Грышка.

— Паны вязуць нарабаванае дабро... Сялян нашых абабралі... Нам дзве гадзіны назад прыслала тройка загад — спусціць з рэек гэты цягнік... Шрубы адвінчаны, балты выняты... Як цягнік будзе блізка — рэйкі трэба расцягнуць...

Ужо далёка за поўнач...

Яшчэ паўгадзіны, і пачне брацца на золак...

Цягнік ужо недалёка. Чуваць, як шыпіць паравоз і тарахкаюць калёсы... Робіцца жудасна.

— А раптам хто зловіць?

Паўстанцы не палохаюцца.

Грышка ўстае. Карабін за плечы і шэпча голасна:

— Адзін — налева! Другі — направа! Мы з табою, Андрэй, за працу!..

А праз хвілін дзесяць, калі зноў усе чацвёра паўстанцаў стаялі далёка сярод густых кустоў і думалі аб тым, як заўтра абараніць ад шыбельніцы некалькі дзесяткаў ні ў чым не вінных сялян, пачулася груканіна, трэск і чалавечы крык.

Цягнік быў пад адкосам...

У гэты самы час Гэлька з двума праваднікамі ўжо была ў паўстанцкім камітэце.

Атаман паўстанцкага руху па ўсім абшары Беларусі вачам сваім не верыў, што ў яго руках план адступлення польскіх войск. Ён то нахмурыць бровы, то пачынае ўсміхацца...

— Гэта яна, вось гэта «ваўчанятка», як мы яе завем, сцібрыла гэтыя лісты... Яна крыху прыслугоўвала ў пана Панятоўскага... Выгледзела, дзе ляжаць, ды таво... Яна ўвесь час усе сакрэты перадавала Грышку-свінапасу... Па яго даручэнню і паперы гэтыя выкрала... Кахаюцца яны з Грышкам, таварыш атаман...

Гэлька пачырванела!..

Атаман падышоў і стаў яе гладзіць па скудлачаных валасах...

— Ты, «ваўчанятка», будзеш з намі — мы цябе не адпусцім...

— А дзе Грышка? — вырвалася з вуснаў Гэлькі...

— Ён таксама хутка тут будзе...

Зашасталі непадалёку кусты...

Чуваць галасы:

— Прыклад!

— Пінск!

З кустоў выглянуў паўстанец і сказаў:

— Таварыш атаман, да цябе з вусным данясеннем ад Грышкі-свінапаса!

— Слухаю!

— Цягнік пад адкосам. Заўтра пад вечар суд над ся-

лянамі ў N-скай гміне. Сялянства на нашай старане. Польскія войскі нашага раёна рыхтуюцца да одступу!.. Чакаем загаду!..

— Сувязь з вясковымі паўстанцкімі тройкамі ўстаноўлена?

— Устаноўлена, таварыш атаман! Сам Грышка быў на вёсцы — усё зроблена!..

— Тады... усяму раёну быць нагатове!.. Камандзірам усіх паўстанцкіх атрадаў трымаць сувязь з Грышкам-свінапасам і слухаць яго загаду!..

— Добра, таварыш атаман!..

Ужо раніца.

Сонца чырвоным капытом пачынае вытыркаць з-за ўзгорку. Лісце алешнікаў нібы крывёю аплёвана...

Птушкі не перастаюць звінець над галовамі паўстанцаў, якія прылеглі на некалькі хвілін супачыць перад боем...

А Грышка не спіць. Ён павярае ўсе атрады. Абмяркоўвае план наступу на гміну. Раз-по-раз выслухоўвае данясенні аб падрыхтоўцы сялян у бойку з жандармерыяй. А як толькі вольная хвіліна — ён думае аб Гэльцы.

Грышка хацеў бы яе пабачыць... Хацеў бы заглянуць на яе чорныя вочы, на загарэлы ад вясенняга сонца твар— можа, гэта наддало б яму адвагі зрабіць налёт на гміну і выратаваць сялян-бунтароў...

— Грышка, супачні хвіліну! — кажа Андрэй, схіліўшыся пад кустом...

— Не магу... Пасля працы супачыць толькі можна... Цяпер не да гэтага... Рыхтуюся...

І ў галоўным паўстанцкім камітэце таксама рыхтаваліся...

Выкрадзеныя паперы аб плане одступу польскіх войск яшчэ ўночы былі пасланы нарачным да чырвоных... Цяпер жа ў камітэце абмяркоўвалі планы, як накіраваць паўстанцкія атрады, каб перасеч дарогу польскім войскам і пры першай жа бойцы спрытна злучыцца з чырвонымі...

Камітэту таксама было не да супачынку.

Толькі на растрэсеным пад кустамі сене, прыкрытая зверху світкаю атамана, салодка спала Гэлька...

Сонца падымалася ўсё вышэй і вышэй, і яго праменні з кожнай хвілінай мацней і мацней цалавалі прыгожы твар дзяўчынкі-паўстанкі...

## XVI

Вёска, над сялянамі якой сягоння павінен адбыцца суд, была акружана жаўнерамі яшчэ да сонца...

Па вуліцы раз'язджалі конныя жандары і выганялі з хаты тых хлопцаў, мужчын і кабет, якія мусілі пайсці ў гміну...

— Шмат хто паўцякаў у лес,— даносіў, калоцячыся ад страху, солтыс...

— А раз гэтак, то вшысткіх да гміны, старых і малых!.. Пся крэў!.. Запаліць вёску!..

І жандар пачынаў сцябаць бізуном усіх тых старых мужчын і кабет, якія кідаліся пад коней, цалавалі коням капыты, цалавалі боты ўланаў, каб толькі пашкадавалі — не палілі вёскі...

Плач вёскі, войканне і стагнанне разносіліся на некалькі вёрст наўкола.

А па дарозе ў гміну, дзе павінен адбывацца суд, ішоў яшчэ адзін атрад коннай жандармерыі...

Іх песня старалася заглушыць плач і енкі ўсёй паднявольнай Беларусі:

Росквітнэлы пончкі бялых руж,
Вруць, Ясеньку, з тэй военкі, вруць,
Вруць, уцалуй, як за давніх лят,
Дам ці за то ружы найпенкнейшы квят...
Не роспачай, любэ дзевчэ, не,
В польскей земі не бэндзе му зьле.
Там под Міньскем, гдзе он в бою падл,
Росквітл на могіле бялы ружы квят...

— Эх, сволачы! Кравапіўцы! Найміты панскія! У польскай «земі» можа вам «зле» і не будзе, але тут пад Мінскам, то мы яшчэ вам пакажам «бялы ружы квят»! — вырвалася з вуснаў Грышкі, які недалёка ад дарогі ляжаў між кустоў і сачыў, колькі войска ў гміну наязджае...

Жандарскаму палкоўніку, які на брычцы прыехаў у гміну разам з суддзямі палявога суда, ад'ютант данёс, што ўсе ваколічныя вёскі збунтаваліся супроць гвалту

над сялянамі і патрабуюць адлажыць суд да разбору справы.

— Маўчаць! — зверам зарыкаў палкоўнік.— Дзе падсудзімыя? Дзе мяцежнікі-паўстанцы, што паляць маёнткі ды паноў выразаюць? Страляюць без усякага суда!..

— Пане палкоўнік, іх яшчэ вядуць!..

Брычка палкоўніка пасакатала насустрач арыштаванай грамадзе...

Сяляне і сялянкі ішлі са звязанымі назад рукамі...

А з усіх бакоў амаль усе суседнія вёскі высыпалі ў поле з сякерамі і віламі і паводдаль ішлі за арыштаванымі... Зялёныя палеткі чарнелі ад сялянства, паўстаўшага за праўду, за свае правы... Вось-вось, здавалася, гэта чорная хмара людзей, якая насоўваецца з усіх бакоў, на шматкі распатрашыць канваіраў-жандараў і вызваліць арыштаваных...

Жандары некалькі разоў спрабавалі страляць ва ўсе бакі... Гэта нікога не палохала... Паўстаўшае сялянства ўпарта рухала да гміны, чакаючы на дапамогу паўстанцаў з лесу...

Палкоўнік, выехаўшы ў канец вёскі, хапіўся за галаву і з крыкам павярнуў назад...

Ён нёсся да атрада, які супыніўся каля гміны вартаваць за парадкам і супакоем у часе суда...

— На коней! Прэндзэй!.. Паўстанне хлопаў!.. На месцы страляць!..

Конны атрад жандармерыі няўшчвал пусціўся па вуліцы. Але вуліца была ўжо перапоўнена барыкадамі: вуліца была запруджана плугамі, баронамі, бярвеннем і нават пазразанымі дрэвамі яблыняў і ігруш.

Коні ламалі ногі. Жандары тырчком ляцелі з коней — прабіваліся на калючкі або ад неспадзявання не ведалі, што рабіць...

Жандарскі палкоўнік, вядомы кат па ўсёй акрузе, быў ужо схоплен і ўкінуты ў пограб...

Затрашчалі каля лесу кулямёты...

З жыта, якое сінім морам хвалявалася абапал вёскі, пачалі паказвацца галовы паўстанцаў...

— Чырвоныя! Чырвоныя!..

Канвойная каманда і конная жандармерыя, хто застаўся жывым, кінуліся ўцякаць...

Пан Панятоўскі і суддзі ўжо даўно нямаведама куды дзеліся...

Пачалася страляніна.

Жандары, уцякаючы, адстрэльваліся.

— Гэй ты, панская погань! Зладзеі!.. Здавайся!..

А куляметы трашчаць. Лава паўстанцаў заліла зялёныя абшары палёў...

Рукі ў арыштаваных ужо развязаны. Яны з аружжам, з карабінамі і сякерамі... Яны ўжо вяжуць рукі злоўленым жандарам...

У адным канцы вёскі слуп густога чорнага дыму. Загарэліся будынкі...

А ў другім канцы — ідзе суд над палкоўнікам і жандарамі...

Тысячная грамада сялян...

Судзяць паўстанцы.

— Слова мае Грышка-свінапас!..

— Ур-ра-а-а!.. — нясецца доўгі час па аколіцы...

— Дык гэта ён, паганец! — вырываецца з вуснаў палкоўніка.

— Ён,— усміхаючыся, кажа Грышка.

Грамада замоўкла.

— А колькі ты, пане палкоўнік, расстраляў і павесіў беларускіх сялян? Колькі вёсак спаліў і колькі людзей пусціў жабраваць з торбамі? Глядзі — і гэта вёска праз цябе пайшла з дымам-пажарам!.. А калі гэтак, то ахвяра за ахвяру — рас-стра-ляць!..

...Сонца пачало ўжо хавацца за лес, які сёння вельмі сярдзіта шумеў з самага рання...

Не хацелася паўстанцам пакідаць сялян — сваіх братоў і бацькоў...

— Мы з вамі! Мы адны не застанемся, пакуль не прыйдуць чырвоныя...

І паплыло сялянства з коньмі, каровамі і ўсімі сваімі пажыткамі ў лес ды на балота хавацца ад панскага бізуна, ад кулі жандара...

Звечарэла. Над вёскай неба чырвонае ад пажару.

Недзе далёка-далёка на мурожніку каля поля зарыкала карова. Яна адбілася ад чарады і не ведае, дзе яе шукаць — у лесе ці ў вёсцы...

Лес, людзі... Людзі, лес... Вось яно, да чаго дайшло...

У паўстанцкім камітэце Грышка робіць даклад свайму атаману... Атаман моцна цісне руку Грышку, дзякуе яму ад імя чырвоных і кажа:

— Праз два дні мы будзем на волі. Белапалякаў і духу тут не будзе... А цяпер, ці хочаш пабачыцца са сваім памочнікам?..

Грышка здаволена ўсміхаецца...

З-за кустоў выглядае «ваўчанятка»...

— Грышка!..

— Гэта ты, Гэлька?..

Далёка-далёка стукаюць гарматы... Бліжэй крыху — трашчыць кулямёт...

— Пазіцыі чырвоных штораз то бліжэй,— кажа атаман, пазіраючы пад бляск месяца на планы...

Грышка з Гэлькаю прымайстраваліся на зламанай бярозе і не могуць нагаварыцца...

Гэлька расказвае, як яна ўкрала са стала палкоўніка паперы, калі ён быў п'яны і гуляў у садзе з дачкою пана, як Лявона і лесніка арыштавалі, як яна ўцякала...

А Грышка апавядае, як, пераадзеўшыся, быў у вёсцы і як біўся з жандарамі...

Тлее ў глыбокай яме аганёк... Соладка храпуць змораныя паўстанцы... Хутка і раніца...

## XVIII

Польскі штаб занепакоіўся.

Паперы прапалі, адзін з адважных жандарскіх палкоўнікаў забіты сялянамі...

Былі выкліканы карацельныя атрады. Але неспадзяваная вестка, што чырвоныя прарвалі фронт у некалькіх месцах, прымусіла спешна пакінуць маёнтак пана Панятоўскага і бліжэй накіравацца да Мінска...

Пачалася суматоха.

Польскія жаўнеры не вытрымліваюць напору чырвоных, пакідаюць самавольна пазіцыі і бягуць...

Паўстанцы з усіх лясоў і балот Беларусі займаюць галоўныя дарогі, пераймаюць транспарт. Польская артылерыя адступае першай. Кідае гарматы і ўсе баявыя снасці. Паліць за сабою вёскі, масты, узрывае чыгункі...

Чырвоным — мора па калені.

З песнямі, без супачынку... дзень і ноч у паходзе...

Паўстанцы — на першых пазіцыях разам з чырвонаармейцамі...

Але атрады пад камандай Грышкі-свінапаса не хочуць пакуль што станавіцца ў шэрагі з чырвонымі. Яны стараюцца перасеч усе дарогі, стараюцца захапіць у палон цэлыя белапольскія часці...

Гнеў і помста паўстанцаў не мела меры. Недарма бадай што цэлы год гнілі ў балоце, пухлі з голаду...

Грышка падаваў каманду за камандай...

— Заўтра, хлопцы, супачынак у Мінску,— гукаў ён да паўстанцаў, якія ўжо чуць-чуць валаклі ногі ад голаду і спякоты...

Але кожная новая пабеда наддавала натхнення і Грышку і яго сябрам...

Паміж зялёнаю сцяной жыта і прылягаючым да яго густым борам паказалася некалькі чалавек у легіянерскай форме.

— Гэта іх разведка!.. Хлопцы, узяць яе...

Паўстанцы пачалі ахватваць у кола. Частка пабегла жытам, а частка разам з Грышкам — лесам.

Застракатаў кулямёт па густым сасонніку.

Выйшла так, што паўстанцы апынуліся ў коле польскіх жаўнераў, якіх тут было больш за сотню...

— Хлопцы, не здавайся! — гукнуў што было сілы Грышка і пачаў адстрэльвацца...

Кулі свісталі каля яго вушэй...

З-за ўзгорка ж наступалі густыя шэрагі чырвонаармейцаў... Легіянеры кінуліся адступаць. Але Грышка і яшчэ некалькі паўстанцаў былі ўжо адрэзаны, і назад павярнуць не можна было... Аставалася бегчы ўперад, на край лесу, праз які павінна была адступіць густая лава легіянераў...

Грышка азірнуўся — ніводнага з паўстанцаў няма: нямаведама куды дзеліся. Ён кінуўся бегчы...

За лесам пачыналіся сенажаці... Грышка між кустоў прабраўся да рэчкі... За паўвярсты адгэтуль на рэчцы быў мост, па якому, відаць было, цягнуліся шэрагі польскіх войск і грукацелі фурманкі...

Грышка на жываце падпоўз за некалькі крокаў да моста...

Як толькі спыніліся на нейкі час па мосце ехаць і ісці, Грышка набраў сухой лазы і расклаў пад мостам агонь. Мост праз некалькі хвілін быў ахоплен полымем...

Зараз жа наўшчвал да моста сакаталі скрынкі з патронамі і беглі польскія жаўнеры...

Агонь ужо не пусціў пераехаць. Жаўнеры пакідалі ўсё і сталі пераплываць... А ззаду наязджала ўсё больш і больш фурманак. Падняўся гвалт і страляніна... Відаць было, што чырвоныя напіраюць...

Грышку хацелася страляць, але ён баяўся гэтым выдаць сябе...

Наўкола ж страляніна не спынялася. Не спынялася і суматоха каля спаленага моста... Грышка за ўсім назіраў, лежачы між кустоў пад купінамі...

Надыходзіў змрок...

Грышка хацеў падняцца, але раптам прыкмеціў, што нехта паўз рэчкі паўзе...

Хацеў выстраліць...

— А чаму баючыся? Можа, гэта наш дазорца?

Грышка падаў знак. Паднялася галава... Гэта быў паўстанец Андрэй.

— Мяне паслалі мост падпаліць...

— Я яшчэ днём падпаліў...

— Грышка! Ты жыў?!. А мы думалі...

Андрэй абхапіў Грышку і пачаў яго цалаваць...

— Дзе нашы?

— Нашы ўжо акружылі гэты лясок, дзе нас хацелі палавіць. Палякі ўцякаюць на злом галавы...

А па дарозе ізноў імчыцца чорная лава польскіх жаўнераў — бягуць пехатою, едуць на конях...

Адны скачуць у згарэлы мост, ад якога толькі дымяцца галавешкі, другія кідаюцца пераплываць рэчку...

— О, пся крэў! — смяецца Грышка,— прыпякло! Пакупайце ў нашай Свіслачы свае панскія жупаны...

Зусім стала цёмна. Сваіх і чужых ноч апранула ў чорную вопратку цемры... Толькі наўкола віднеюцца бліскучыя плямы,— гэта дагаралі падпаленыя легіянерамі вёскі...

Грышка і Андрэй пачалі пракрадацца да чырвоных пазіцый...

То бягом беглі, то паўзком паўзлі яны канаваю паўз

дарогі, па якой час-ад-часу пападаліся насустрач польскія разведчыкі...

— А што, калі нас зловяць?..

— Дагэтуль не злавілі, то цяпер дудкі!..— паціху адказаў Грышка.

Абодва вылезлі на дарогу...

— Мне думаецца, што калі не ўжо, то праз некалькі крокаў мы будзем на пазіцыях чырвоных,— сказаў Андрэй, пільна прыглядаючыся ўперад...

— А ўсё ж такі трымай вуха востра!..

Прайшлі з паўвярсты полем, а пасля пачаўся сасновы лес...

Дзве дарогі перасякаюцца ў лесе...

— Цяпер куды? — пытае Андрэй у Грышкі.— Гэта дарога ў панскі двор вядзе, а гэта — у вёску Бярозаўку. Месца гэта мне крыху знаёма...

— Стой! Ні з месца!..

З кустоў язміну, між якіх стаяў крыж з распяццем пана Езуса, выскачылі чатыры легіянеры з карабінамі ў руках...

Паўстанцы маланкай шмыганулі ў лес... Толькі трашчала сухое галлё ды шасталі кусты арэшніку...

Легіянеры пачалі страляць...

Грышка і Андрэй не агледзеліся, як прыбеглі да незнаёмага маёнтка. У пакоях свеціцца агеньчык...

— Няўжо паны яшчэ не выехалі?..

Увайшлі на дзядзінец...

— Хто тут?! — раптам голас з-за старой ліпы.

— Мы... свае хлопцы,— смела адказаў Грышка,— а ты хто?

— Вартаўнік...

— Што, паны вашы выехалі?

— І след прастыў... Вунь коні каля ганка запрэжаны — аканом скарбы збірае ды таксама дае лататы...

— А бальшавікі далёка?

— Кажуць, за лесам стаяць... Палякі ўсе адгэтуль уцяклі...

Грышка падскочыў да ганка, зачыніў у пакоі дзверы, падпёр нейкай палкай...

Каля ганка скарбовыя калёсы са скарбам... і запрэжаны два добрыя жарабцы...

— Садзіся, Андрэй!..

— Што вы, хлопцы, павар'яцелі?

— Маўчы, стары!.. Садзіся і ты...

Стары вартаўнік жагнаецца... Баіцца садзіцца на акономаву фурманку.

— Садзіся! — крычыць Грышка,— а не дык страляць буду... Садзіся і кіруй у той бок, дзе бальшавікі...

Вартаўнік спужаўся і моўчкі карабкаецца на воз...

Грышка пазірае на Андрэя, і абодва рагочуць...

Праз некалькі хвілін, як пад'ехалі да акраіны лесу, Грышка злез і пачаў шукаць, дзе стаяць чырвоныя дазорцы... Нікога не можна было знайсці...

Толькі, пад'язджаючы да вёскі, калі мінавалі лес і праехалі вярсты паўтары полем, спаткаўся незнаёмы чалавек...

— Тут хто: бальшавікі ці палякі?

— Учора былі палякі, ■ сёння ні тых ні другіх няма... Жывём без улады, вось чаму смела і ходзім...

— Значыцца, мы ў сваіх, Андрэй!.. Баяцца няма чаго!..

А назаўтра чуць золак два паўстанцы, Грышка і Андрэй, ехалі вярхом на панскіх конях на чырвоныя пазіцыі...

Траскатня кулямётаў, груканне гарматаў і свісты куль абуджалі ўсіх ад сну і спатыкалі летнюю цёплую раніцу...

Распачынаўся бой...

## XVIII

Паляна, на якой знаходзіўся галоўны паўстанцкі камітэт, была з двух бакоў акружана польскімі салдатамі...

Пры атамане было чалавек дзесяць паўстанцаў і дзяўчына-паўстанка Гэлька. У бойку ўступаць не было як, бо палякаў было ў шмат разоў больш. Заставалася хутчэй рассыпацца па лесе і далучыцца да сваіх атрадаў...

Акружана паляна была зусім нечакана і якраз з боку чырвоных пазіцый...

Атаман, ён жа і старшыня паўстанцкага камітэта, сабраў жмут сакрэтных папер і перадаў Гэльцы.

— Ты бяжы ў першую вёску і хавайся там, пакуль не прыйдуць чырвоныя... Ім гэтыя паперы перадасі... А мы, хлопцы, гайда!..

Над галовамі ўжо свісталі кулі... А там, далей, за шэрагамі польскіх салдат, звонка сакатаў кулямёт чырвоных... Усе дарогі былі заняты паўстанцамі...

Польскім салдатам прыходзілася адступаць пушчамі-лясамі, часта спатыкацца з паўстанцкімі атрадамі і ўступаць з імі ў бойку...

Паўстанцкі камітэт на гэты раз не мог весці барацьбу, бо не разлічваў ужо спатыкацца з ворагам. Пазіцыі чырвоных былі гэтак ужо блізка, што атаман збіраўся здаць штабу чырвоных усе справы, а самому хацелася хутчэй далучыцца да чырвоных часцей...

Здарылася іначай... Прыйшлося ўцякаць...

Гэлька з сакрэтнымі паперамі за пазухай ужо выбягала з лесу...

Дзе-ні-дзе яна бачыла паводдаль людзей, не ведаючы— свае гэта ці чужыя...

Па мокрай сенажаці яна ішла ціхімі крокамі, шукаючы вачыма ў туманнай сіні якую-небудзь будыніну.

Падышла да рэчкі...

Ісці паўздоўж рэчкі да моста ці кладкі — палахліва. Можна напаткаць польскага салдата. Перайсці рэчку — глыбока...

Гэлька ўмела плаваць. Але як не замачыць папер?..

Рэчка шуміць. Рыба плюскоча, ганяючыся за машкарою па паверхні бягучых хваляў... Зашастаў аір... Гэта напэўна шчупак хвастануў хвастом...

Гэлька здрыганулася і прысела на траву.

— Трэба пераплываць...

Маленькая паўстанка скінула з сябе вопратку, укруціла туды паперы, прывязала да галавы і шубоўснула ў ваду...

На сярэдзіне рэчкі — вір... Яна не прыкмеціла, як усплыла ў бурлячую крыніцу... Яе пачало вярцець на адным месцы і цягнуць на дно...

Доўга Гэлька змагалася з бурлівымі хвалямі, стараючыся пераплысці вір...

Урэшце, зусім ужо зморaная, Гэлька неяк знайшла

сілы адплыць ад віру, і яна панеслася хвалямі па цёку вады...

Толькі на крутым павароце рэчкі яна змагла ўхапіцца за прыгнутую к вадзе алешыну і вылезці на бераг...

Доўга ляжала Гэлька на беразе паміж высокай травы і пахучых лугавых кветак, пакуль апомнілася і адпачыла...

Сонца ласкава грэла яе маладое ахаладзелае цела... Сонца цалавала яе прыгожы твар, як бы дзякуючы ёй за адвагу і храбрасць...

Вечарам Гэлька ўжо была ў вёсцы, дзе гулялі і глуміліся над дзяўчатамі п'яныя польскія салдаты...

— О, пся крэў!.. Хцэш большэвіка, а легіёна не хцэш?!. Ах ты!..

Дзяўчаты беглі на агароды, хаваліся ў гумнах... А тыя, хто ўжо раз пабываў у руках легіёна, уцякалі ў поле, у лес за некалькі вёрст...

У апошнія дні перад адступленнем пачалі хавацца ўсе сяляне...

Разам з імі хавалася і Гэлька, як дачка бежанцаў з Віленскай губерні...

Усе чакалі чырвоных...

А за некалькі адгэтуль вёрст ішла пякучая бойка... Ваявалі не на жыццё, а на смерць... Грышка з іншымі паўстанцамі быў ужо разам з чырвонымі...

Ён самаахвотна пайшоў у разведку...

Прайшлі два дні...

Была цёмная, цёмная ноч...

Грышка і яго два таварышы пракрадваліся ў горад Мінск...

Хто не памятае апошніх дзён балявання польскай арміі ў Мінску?

Чырвона-светлыя ночы ад пажараў...

Гараць будынкі, узрываюцца камяніцы... Наўкола страляюць... На кожнай вуліцы і завулку звон вітрын... На кожным задворку і ў кожнай хаце плач і лемантаванне людзей...

У вокнах хат выстаўлены абразы... З акна яўрэйскай згніўшай халупы Лагойскага тракту выглядае твар Езуса, абвешаны белым ручнікам...

Нічога не памагае...

Звіняць вокны... Галосяць людзі... Гараць будынкі... Пяюць п'яныя салдаты...

Не роспачай, любэ дзевчэ, не,
В польскей земі не бэндзе му зьле.
Там под Міньскем, гдзе он ■ бою падл,
Росквітл на могіле бялы ружы квят...

Зноў чуе Грышка знаёмую песню... Грышка дрыжыць ад злосці, ходзячы па Мінску, пераапрануўшыся ў вопратку польскага салдата.

— Помста вам, паганцы, рабаўнікі, помста!..

На адной з вуліц Мінска Грышка прыглядаецца ў твар жандара, які едзе з пагардай на буланым кані...

— Няўжо Казюк?!. Так, гэта ён, прадаўца...

Грышка схапіў з плячэй карабін і пачаў цэліцца...

Але ў гэты час другі жандар гэтак хватануў Грышку прыкладам па галаве, што ён упаў на тратуар без памяці...

Апомніўся Грышка толькі вечарам у нейкім каменным будынку, дзе над ім і над іншымі мясцовымі паўстанцамі адбываўся суд...

— А! Грышка-сві-на-пас?!.— злосна прашыпеў Казюк перад судом,— атаман паўстанцаў беларускіх лясоў!.. Ты помніш, як мяне выгнаў з лесу за «здраду»?! Панове суддзі, ён шмат чаго ведае, што нам карысна будзе ведаць... Яго страляць пакуль што не можна, дармо, што ён у мяне цэліўся...

Грышка не даў адказу ні на адно пытанне...

— У арыштанцкім вагоне да Варшавы!..

Гэтакая была пастанова над маладым паўстанцам, героем беларускіх лясоў — Грышкам-свінапасам...

У гэтую самую ноч, апошнюю ноч польскага панавання ў Мінску, разам з другімі засуджанымі Грышка быў ужо ў запёртым вагоне... А над горадам лёталі бомбы чырвоных гармат...

Грышка ў кожным свісце кулі, у кожным грукаце бомбы чуе голас чырвоных ваякаў, вольныя спевы сялян і рабочых...

Засвістаў паравоз... Застукалі вагоны...

— Бывайце здаровы, лясы і балоты роднай краіны!..

А можа, яшчэ і пабачу вас, можа, вольна буду разгульваць па вашых абшарах, а не баючыся і не хаваючыся, як у дні мінулага паўстання!..

Аднагалосная музыка калёс, боль перанесеных жандарскіх нагаек і шомпалаў навяваюць салодкую дрымоту...

Грышка прытуліўся ў куток вагона і заснуў...

А ў Мінск у гэты час уступалі чырвоныя войскі...

Была раніца... Святочны дзень...

Спевам «Інтэрнацыянала» горад спатыкае першых чырвонаармейцаў-казакаў...

З загарэлымі тварамі, поўныя адвагі і помсты, уехалі яны на руіны горада...

— Няхай жыве чырвоны Мінск!..

Тысячная грамада з чырвонымі сцягамі, з музыкай вітае чырвоных герояў...

Гэлька з чырвоным камандзірам, якому яна перадала сакрэтныя паперы з паўстанцкага камітэта, таксама ўехала ў Мінск...

На твары яе радасць... Але на сэрцы сумна... Яна не ведае, дзе Грышка, не ведае, дзе яе бацька... Яна толькі ўчора даведалася, што амаль увесь паўстанцкі камітэт, разам са старшынёю-атаманам, які перадаў ёй захаваць паперы, папалі к палякам у палон... Што з імі — невядома...

Каля Гэлькі некалькі знаёмых хлапцоў-паўстанцаў... Яны пацяшаюць засмучаную дзяўчыну:

— Не сумуй, «ваўчанятка», свінапас твой ніколі і нідзе не загіне!..

Па вуліцы горада шэраг за шэрагам ідуць чырвоныя войскі...

— Даеш Варшаву! — гукаюць чырвонаармейцы...

Музыка грае... Не змаўкаюць спевы...

Радасць, якой можа Мінск ніколі не адчуваў...

Побач з камандзірам вярхом на белым кані едзе па горадзе і дзяўчына-паўстанка...

— Грышка! А дзе Грышка?! — раз-по-раз вырываецца з яе вуснаў...

І сонца яскравей засвяціла над вольным горадам... Усмешка гуляе па тварах шматлікай грамады...

У Гэлькі на вачах слёзы... Але на твары яе радасная ўсмешка...

Яна гукае:

— Няхай жывуць чырвоныя паўстанцы!..

— Няхай жывуць!..

Нясецца па ўсяму гораду, нясецца па ўсёй Беларусі...

Музыка грае... Спевы не змаўкаюць.

*(Канец першай часткі.)*

## ПАСТУШКІ

***Дзіцячая п'еса ў 2-х актах***

**АСОБЫ:**

Вацік, Ядзя — панскія дзеці.

Лявонка, Грышка — дваровыя пастушкі 13—14 год.

Марыська, Юзік — дзеці дваровага каваля.

Янка — дваровы хлопчык.

## АКТ I

Хор за сцэнаю

Панскі двор. Пекна прыбраны ганак. Каля ганка панская калыска і шмат розных цацак.

### З'ява I

Я д з я *(калышацца ў калысцы з лялькаю і пяе дзіцячую песню)*. Чаму ж ты вочак не закрываеш? Я цябе і калышу і песеньку табе спяваю, а ты ўсё не спіш. Што? Не хочаш? Калі ты мяне, паненкі, не будзеш слухацца, дык скажу нашаму аканому. Ён цябе моцна, моцна будзе біць. Тады ж плакаць будзеш, а я цябе не пашкадую. Чула, як учора аканом біў нашу пакаёўку Юльку, а яна плакала, плакала... Гэтак і ты будзеш плакаць... Ён сярдзіты, усіх б'е, хто паноў не слухаецца... Або аддам цябе пастушкам... А яны чорныя, страшныя, возьмуць цябе ў лес, ваўкам аддадуць! Ну, дык спі ж... А я песеньку праспяваю *(пяе дзіцячую песню)*.

### З'ява II

В а ц і к *(выходзіць з хаты)*. Вось, ты тут, а я цябе шукаю ў пакоях.

Я д з я. Нашто я табе патрэбна?

В а ц і к. Бач, Ядзя, сёння пекная пагода, дык трэба запрэгчы Юзіка і Янку ды і паехаць у лес... Трэба паглядзець, каб вясковыя дзеці ягад не збіралі ў нашым лесе...

Ядзя. А як жа мы пакоі пакінем? Тата з мамаю яшчэ ў гасцях... Хто ж павінен за ўсім наглядаць... Сёння мы нікуды не паедзем...

Вацік. Ага!.. Ну, значыцца, заўтра паедзем...

Ядзя. Ды ты, Вацік, павінен вартаваць сад. А то бачыш, як пастушкі прыганяюць паіць быдла, дык заўсёды нашыя яблычкі рвуць... Ідзі ў татаў пакой, сядзь і пазірай у акно, пакуль яны зноў у лес не пагоняць.

Вацік. Ну, добра, пайду... А як пабачу, што будуць рваць яблыкі, паклічам аканома, ён ім задасць такога перцу... (*Пайшоў у пакой.*)

Ядзя. Паганцы гэткія, рвуць нашыя яблыкі... Чуеш? (*Да лялькі.*) Крадуць у паноў яблыкі... Дасць ім аканом, як мы яму скажам. А ты не спіш? Бедненькая!.. Ну, я цябе панясу ў пакоі на мякенькія падушачкі... Ты там хутка заснеш... Пойдзем, мая маленькая, мая прыгожая, мая харошая. Дам табе булачкі з малачком, спяю песеньку, ты і заснеш... Пойдзем жа, мая кветачка... Пойдзем... (*Пайшла ў пакой.*)

### З'ява III

Лявонка (*крадучыся, выбягае*). Грышка! Грышка! Ідзі сюды! Хутчэй!

Грышка (*крадучыся, выходзіць*). Чаго? Што?

Лявонка. Паны старыя паехалі ў госці, Вацік і Ядзя ў пакоях, давай ускочым у сад, нарвем яблыкаў ды тады кароў пагонім... Вось будзем есці!

Грышка. Не, брат, баюся! Мой бацька шмат разоў лупцаваў мяне за такія штукі, баюся!

Лявонка. Ды не бойся!

Грышка. Яшчэ хто ўбачыць ды скажа аканому... Дык і той, брат, не пашкадуючы, так пагладзіць, што і сядзець не будзе на чым... Хіба паклічам Юзіка кавалёвага, ён палезе і нарве. Ён на гэткія штукі майстар добры!.. Вось бачыш?! Ён ля кузні... Юзік! Юзік! Бяжы сюды!

Лявонка. Юзік-гузік! Хутчэй! Каб толькі не позна было кароў гнаць, а то зноў аканом вячэраць не дасць.

Грышка. Яблыкаў пад'ядзім — вячэраць не трэба будзе.

## *З'ява IV*

Ю з і к *(адна нага ў лапці, другая ў боце)*. Навошта мяне клікалі?

Г р ы ш к а. Лявон кажа, што ты надта палахлівы, што пабаішся нарваць панскіх яблыкаў...

Л я в о н к а. Ведама, пабаіцца!

Г р ы ш к а. А вось жа не! Ускоч у сад, Юзік, вырві некалькі штучак з чырвонымі бачкамі.

Л я в о н к а. Баіцца! Ха-ха-ха!

Ю з і к. А вось жа не баюся! Захачу і нарву!

Г р ы ш к а. Вось маладзец! Ускоч у сад, а мы павартуем, каб панскія дзеці не ўбачылі.

Л я в о н к а. Ды баіцца!

Ю з і к. Ага... Яшчэ зловіць хто дый шапку здзярэ!

Г р ы ш к а. Ты ж без шапкі, што ён у цябе здзярэ?

Ю з і к. А я... яй! Дзе ж я згубіў?.. Цабягу шукаць!..

Г р ы ш к а. Стой! Стой! Пасля знойдзеш!

Ю з і к. А яшчэ вушы аддзярэ!..

Л я в о н к а. Ты ж без вушэй!

Ю з і к. Што?

Л я в о н к а. Не, не... Ёсць вушы, толькі ўскоч у сад.

Ю з і к. А вы самі...

Г р ы ш к а. Ты спрытнейшы! Ускоч — ягад прынясем з лесу.

Л я в о н к а. І дудку скруцім, іграць будзем!..

Ю з і к. Дудку? Ну, добра, толькі каб вечарам дудку прыняслі, ды даўгую, як...

Л я в о н к а. Як твой нос!..

Ю з і к. Ну, вось і не пайду, самі ідзіце.

Г р ы ш к а. Кінь, Лявон! Скакані, Юзік: ты добры хлапец!..

Ю з і к. Ну, вартуйце, а я абягу кругом, з таго боку плот паламаны, я ўжо тудою лазіў... А пасля, як нарву, вы бяжыце за мною, я вам аддам...

Г р ы ш к а. Толькі, Юзік, шмат не рві.

Л я в о н к а. Лепш насабірай, што пападалі.

Ю з і к. Я ведаю якіх — кругленькіх, з чырвонымі бачкамі. Толькі, як будзе хто ісці, свішчыце — я ўцяку.

Г р ы ш к а. Добра! Свіснем!..

Л я в о н к а. Бяжы хутчэй!

### З'ява V

Г р ы ш к а. Куды я палажу?

Л я в о н к а. Я за пазуху!

Г р ы ш к а. А я ў торбу.

М а р ы с ь к а (*за сцэнаю*). Пачакай, пачакай, Юзік! Скажу я тату!.. Ну і дасць жа ён табе! Адлупцуе! (*Выходзячы.*) Ужо падвучылі дурныя пастухі! Скажу тату! Далі-бог, скажу!

### З'ява VI

Г р ы ш к а. Марыська-крыська! Чаго ты галёкаеш, каб усе чулі. Панскіх яблыкаў табе шкода?

М а р ы с я (*увайшла*). А чаму ж ты сам, Грышка-кішка, не лезеш, а Юзіка нашага падвучыў. Скажу і твайму тату! Вось будзе!

Г р ы ш к а. Баюся я цябе, як жаба мухі! Ну, бяжы, скажы, бяжы!..

Л я в о н к а. Ці мы яго вучылі? Сам захацеў яблыкаў, дык і палез!

М а р ы с я!. Сам!.. сам!.. Ведаю я! Пастухі дурныя, красці вучаць!..

Л я в о н к а. Можа разумнейшыя за цябе... Ён не пайшоў красці, а толькі ўзяць.

Г р ы ш к а. Не чапай яе, а то заплача!

М а р ы с я. Ты хутчэй заплачаш!

Г р ы ш к а. Ціха! Ідуць! Вой! Свішчы, Лявон!

Л я в о н к а (*свішча*). Ты свішчы: я спужаўся, не засвішчу!

Г р ы ш к а (*свішча*). У мяне не выходзіць!

А б о д в а (да *Марысі*). Марыська, ты засвішчы!.. засвішчы!..

М а р ы с я. Вось бацька вечарам, калі возьме пугу, ды і засвішча вам абодвум, толькі нагамі задрыгаеце!..

Г р ы ш к а (*крычыць*). Юзік, уцякай!

Л я в о н к а. Хутчэй у лес бяжы!

## З'ява VII

В а ц і к. Мы скажам тату: бачылі, як Юзік яблыкі збіраў!.. *(Убачыўшы Лявонку і Грышку.)* I вы тут, пастухі?

Г р ы ш к а. Тут!..

В а ц і к. Мо' і вы хацелі ў наш сад лезці?

Л я в о н к а. Хацелі!

В а ц і к. Скажам аканому, ён вам пакажа!..

Г р ы ш к а. Не баімся мы аканома!

Я д з я. Ого! Можа, і паноў і нас не баіцеся?

Г р ы ш к а. І паноў і вас не баімся!..

Я д з я. Чуеш, Вацік, што яны кажуць?

В а ц і к. Вось, як вернецца тата ды прыкажа даць розаг, як учора фурманшчыку за тое, што брычкі не памыў, дык будуць баяцца.

Л я в о н к а. Што? Нам розаг дасць?!

Г р ы ш к а. А назад мы яму не патрапім даць?..

Я д з я. Вацік, Вацік! Чуеш, што гэтыя чорныя пастухі нам кажуць?

Г р ы ш к а. Тое, што белыя чуюць...

В а ц і к. Нашто вы ў наш сад лазілі?

Л я в о н к а. Які ён ваш? Што, вы яго садзілі?

Я д з я. А можа, ваш?

Г р ы ш к а. Але, наш, бо я вясною вазіў гной пад дрэвы, а Лявонаў бацька дрэвы садзіў. А мой бацька галлё сухое абразаў.

В а ц і к. Дык калі ваш, чаму ж вы крадзяце яблакі, а смела не ідзяце і не рвяце іх?

Г р ы ш к а. Таму, што вы нашага ўласнага не пазваляеце нам смела ўзяць!

Я д з я. Вось як?

Г р ы ш к а. Вось так!

Л я в о н к а. Мы не крадзём, бо гэта не чужое, мы толькі, хаваючыся, бяром!

В а ц і к. Дык, можа, і каровы вашы, бо вы іх пасеце?

Г р ы ш к а. Але, нашы!

Я д з я *(смяецца)*. Дурныя вы пастухі! Чаму ж мы малачко ядзім, а вы толькі бегаеце за каровамі, пасучы іх?.. Вы ўсе чорныя, як галавешкі, як наш гаршчок, што Агата есці варыць!

Г р ы ш к а. Каб і вы ўвесь дзень папякліся на сонцы, як мы, дык горш бы за гаршчок пачарнелі!

Л я в о н к а. Як не накормім кароў, дык здохнеце без малака!..

Я д з я. Мужыкі, пастухі! Мы з вамі гаварыць не хочам!..

Л я в о н к а. І не трэба!..

Г р ы ш к а. Мы з вамі дзесяць разоў не хочам! Паны якія знайшліся!

В а ц і к. Вон ідзіце!

Г р ы ш к а. А вось жа не пойдзем!

Я д з я. Ідзіце ад нашага ганка, хто вам пазволіў тут стаяць у лапцях? Пастухі чорныя!

Г р ы ш к а. Хоць і пастухі, хоць і чорныя, а вось жа не пойдзем!

В а ц і к. Ну, дык стойце, як сабакі, каля ганка

Л я в о н к а. Гэта ж вы сабакі! Гыр-гыр-гыр!

Г р ы ш к а *(цішэй)*. Аканом ідзе, уцякайма!

Л я в о н к а. Няўжо ж? Але, ідзе! Хутчэй у лес кароў пагонім!

В а ц і к. Як вырасту, вось пакажу, як паноў зневажаць! Пачакайце!

Я д з я. Ідзіце з двара, чэрці!

Г р ы ш к а і Л я в о н. Гэта ж вы чэрці, каб вам памерці, у суботу рана, выкапана яма... *(Дражняцца і ўцякаюць.)*

## *З'ява VIII*

Я д з я. Пастухі гэтыя! Прыйшлі пад панскі ганак і яшчэ адважыліся так гаварыць! Марыська, да нас: ты не такая, як яны, ты добрая!

М а р ы с я. Гэта яны нашага Юзіка падвучылі, каб лез у сад!..

В а ц і к. Нічога! Аканом увечары ім пакажа, як у панскі сад лезці. Як чапаць панскае дабро!

Я д з я. Яшчэ дурні паважыліся казаць, што іх сад, і што каб не яны пасвілі кароў, дык мы б малака не елі! *(Пауза.)* Але, праўда, Вацік, хто б нашы каровы пасвіў, каб не Грышка ды Лявонка!

В а ц і к. Хто? Мала хлапцоў у двары.

Я д з я. А каб і іх не было, хто пасвіў бы?

Вацік. Ну, дык... стары Кузьма, ці з вёскі каго-небудзь узялі! *(Пайшоў у пакоі.)*

Ядзя. Але, праўда, на вёсках шмат людзей... Яны да нас на работу прыходзяць... Ты была, Марыська, на вёсцы?

Марыся. Была!

Ядзя. А якія там людзі, белыя, як мы, ці чорныя, як нашы пастухі і парабкі?

Марыся. Такія ўсе, як пастухі і парабкі!

Ядзя. А чаму яны такія? Чаму яны чорныя?

Марыся. Я не ведаю!

Ядзя. А чаму ты чорная? Вось ты добрая, не такая, як тыя пастушкі, а гэтакая чорная, як і яны, чаму?

Марыся. Не ведаю. Тата мой чорны і мама чорная, дык і я чорная!

Ядзя. Ага! Вось чаму! А ў нас усе белыя, харошыя, чыстыя! А ў вас усе замараныя!.. Твой тата заўсёды чорны...

Марыся. Бо мой тата каваль, заўсёды працуе, вугалле бярэ ў рукі, дык і чорны. Каб і твой тата працаваў у кузні ды браўся за вугалле, таксама зарабіўся б у сажу!

Ядзя. Што ты, Марыська! Мой тата вугалле будзе браць у рукі? Ён жа рукавічкі замарае!

Марыся. Не, я так сабе кажу!..

## З'ява IX

Юзік *(поўна за пазухай яблыкаў і ў руках. Ядучы яблык)*. Уцякалі і яблыкаў не ўзялі!.. І дудкі не зробяць, іграць не буду!..

Марыся. У кулак зайграеш, як тата вечарам адлупцуе!...

Юзік. Што?! *(Хавае яблыкі за пазуху.)*

Марыся. Будзе і дзвесце, не толькі сто!

Ядзя. Вось які ты, Юзік! Мы табе і боцік далі, а ты ў нас яблыкі крадзеш!

Юзік. Я? Далі-бог жа не краў! Я хацеў толькі ападкаў назбіраць!.. Яны ўсё роўна ў траве гніюць!..

Ядзя. І ападкаў няможна, няхай сабе гніюць!.. Не тваё дзела!

Юзік. А што бот далі, дык на чорта ён мне, ды яшчэ адзін!

Марыся. Нашто так гаворыш?!

Юзік. Вось я скіну. *(Скідае.)* Лепш я ў лапцях пахаджу альбо босы!..

Марыся. Дасць тата за бот!

Юзік. Гэта ж не наш, Марыська, а іх, няхай сабе бяруць, калі ім шкода! Шкадаваць не буду!

Ядзя. Не скідай, не трэба!

Юзік *(кідае на ганак)*. На! Хоць на нос адзень свой недатопак!

Ядзя. Вацік, Вацік! *(Да Юзіка.)* Нашто паскудны бот на ганак кідаеш?

Юзік. Хоць паскудны, але ён панскі, яму ў пакоях і месца!

### З'ява X

Вацік. Хто бот шпурнуў?

Юзік. Я! Насі ты: на маю нагу не прыйшоўся!

Вацік. Дурны мужык! Бяры паскудны бот, ганак замараеш! *(Кідае назад.)*

Юзік. Я паскудных не нашу!.. Толькі паны такія носяць, бо і самі паскудныя!

Ядзя. Як ты паважыўся, дурны?

Юзік. Вы самі дурныя, як гэты бот! *(Кідае назад.)* Пойдзем, Марыська! *(Пайшлі.)*

Ядзя і Вацік. Мужыкі дурныя! Пастухі чорныя!

*Заслона.*

## АКТ II

Лес. Невялічкая палянка. Абапал кусты і дрэвы. Свеціць сонца. Пяюць птушкі. Час-ад-часу чуваць далёка хор вясковых дзяцей. Грышка і Лявонка сядзяць і абедаюць, дастаюць хлеб з торбачкі.

### З'ява I

Лявонка. Еш, Грышка, бо да вечара яшчэ далёка *(пазірае на сонца)*.

Грышка. Ды я ем... Але нешта хлеб усухамятку не дужа лезе.

Л я в о н к а. Не лезе?.. Дык пабяжы да канавы ў ваду памачы, мо' лепей палезе!

Г р ы ш к а. А што ты думаеш? Сапраўды, пабягу памачу... Гэта ж тут блізка і канава з вадою (*устае*).

Л я в о н к а. Там маю чорную карову перагані на гэты бок, а то яна, паралюш на яе, на тым баку ўжо апынулася...

Г р ы ш к а. Добра!.. Я хутка! (*Пабег.*)

## З'ява II

Л я в о н к а (*пауза*). Вось жыццё!.. Цэлае лета каровы пасі, а хлеб з вадою еш, а не з малаком... Божа мілы! Як ты няроўна падзяліў: той, хто нічога не робіць, есць булкі з малаком, а той, хто працуе,— чорны хлеб з вадою. Вось хоць бы Вацік і Ядзя — панскія дзеці! Мы іх каровы пасём, а яны малачко п'юць і кажуць, што гэтак трэба... Не! Па-мойму зусім не гэтак трэба. Але нічога не зробіш! Трэба слухаць, што пан кажа, бо як не паслухаеш, — і хлеба з вадою не будзе... А замест хлеба лазы не пашкадуе даць... Эх, як кепска жыць на свеце!.. (*Уздыхае.*)

## З'ява III

Г р ы ш к а. Ну, вось! Карову тваю перагнаў і хлеб размачыў!.. (*Садзіцца каля пня зноў.*)

Л я в о н к а. Ну, дык садзіся, еш... Я кажу, што дрэнна бог мяркуе. Вось мы ўсё лета каровы пасём, а малака ў вочы не бачым.

Г р ы ш к а. А я, каб ты ведаў, сала вельмі люблю, але бяда, што няма яго.

Л я в о н к а. Эх! Мала што і я люблю. Нам трэба, брат, любіць тое, што ёсць...

Г р ы ш к а. Гэтак жа, гэтак!.. Вось панам мусіць добра, чаго захочацца, тое і ядуць...

Л я в о н к а. А хоць іх чэрві ядуць. Парабкі на іх працуюць, а яны тое і ведаюць, што ядуць, ды яшчэ на парабкоў сварацца.

Г р ы ш к а. Ну, брат, я, як вырасту, не буду ў паноў служыць.

Л я в о н к а. А дзе ж ты падзенешся?

Г р ы ш к а. Пайду ў свет! Няўжо дзе-небудзь будзе горш, як тут?

Л я в о н к а. Але пахвалішся тады, калі пан пусціць.

Г р ы ш к а. Уцяку, і бачыць не будзе!

Л я в о н к а. Хіба што так... Ну, вось трохі і падмацаваліся, дужэй будзе бегаць за быдлам... *(Вешае торбу на дрэва.)*

Г р ы ш к а. Павесь, братка, і маю.

Л я в о н к а *(беручы)*. Што, пад'еў шмат, дык не ўстанеш?

Г р ы ш к а. Але... А можа, недаеў, дык сілы няма стаць.

Л я в о н к а *(узіраючыся ў лес)*. Ого-го!.. Сёння паніч з паненкаю едуць у лес...

Г р ы ш к а. О, зноў нячыстая нясе... А на кім жа едуць?

Л я в о н к а. Здаецца, на кавалёвым Юзіку і на Янку Хведаравым... а Марыська кавалёва за фурмана.

Г р ы ш к а. Я не вёз бы! Ні за што! Вось ахвота, язык высалупіўшы, бегчы аж у лес. Няхай адно другога запрэглі б ды ехалі... Шкада мне гэтых дзяцей, што іх возяць... Але нічога не зробіш: загадае — павінен слухацца... Яны, мусіць, не ведаюць, як гэта цяжка цягнуць каламажку гэткую далечыню?

Л я в о н к а. Вядомая рэч, што не ведаюць, бо ні разу не цягнулі...

Г р ы ш к а. Куды ім!.. Усё наш брат цягне. Як яны завуць: «Мужыкі чорныя, пастухі дурныя»... Эх вы, дармаеды, і робім на іх, а яшчэ ўсё лаюцца... Ніяк ім не ўгодзіш!.. Вось дзе наша няшчасце...

Л я в о н к а. А ведаеш, Грышка, што? Давай калі-небудзь мы іх запрагом! Вось будзе цуд!

Г р ы ш к а. Не ведаю ці цікава, каб пасля не шкадаваць... Але папрабаваць можна...

Чуваць здалёку спевы вясковых дзяцей.

Л я в о н к а. Гэта ж цікава было б, каб паніч ды паненка везлі каго-небудзь.

Г р ы ш к а. Хутчэй на вярбе ігрушы вырастуць, пакуль паны каго-небудзь павязуць.

Л я в о н к а. Вядома, не па добрай волі... Прымусіць трэба...

Г р ы ш к а. Ого-го! Нешта не верыцца... (*Чуваць песня.*)

Л я в о н к а. Во, чуеш? Гэта ж вясковыя пяюць...

Г р ы ш к а. Што, сюды ідуць?

Л я в о н к а. Мусіць, сюды... Ага, вось і Вацік з Ядзяю пад'язджаюць. Давай схаваемся за кусты, каб нас не бачылі.

Г р ы ш к а (*устае*). Давай! Мне хоць бы дзе ляжаць... усё роўна.

Хаваюцца.

## З'ява IV

На каламажцы выязджаюць В а ц і к і Я д з я; М а р ы с ь к а ўперадзе за фурмана; Я н к а і Ю з і к запрэжаны. Задыхаўшыся, моцна сапуць, калі выязджаюць на сцэну.

М а р ы с ь к а (*супыняе.*) Тпру!..

Я д з я (*вылазячы*). Вось мы і прыехалі! А што гэта за спевы чуваць?

М а р ы с ь к а. Мусіць, зноў вясковыя дзеці прыйшлі ягады збіраць.

Я д з я. Ну, добра! Мы спярша паядзім, а пасля іх прагонім.

В а ц і к (*вылезшы*). Марыська, выпрагай коні, няхай пасуцца, а мы будзем палуднаваць.

Я д з я (*вымаючы булку з маслам*). На, еш, Вацік... А для фурмана я ўзяла чорнага хлеба, а коні няхай траўцу скубуць ды ядуць.

Ю з і к. Ты ж траву еш!

Я д з я. Маўчы, коні не гавораць! Марыська, маеш хлеб!

М а р ы с ь к а. Дзякую! (*Бярэ і есць.*)

Я н к а. Як нас не накорміце, дык назад не павязем.

В а ц і к. Коні не маюць чалавечага языка і гаварыць не павінны! Павінны рабіць тое, што ім кажуць!

Я н к а. Але ж мы не коні, не жывёла, а людзі!

В а ц і к. Пакуль мы на вас ездзім, вы — жывёла. Павінны маўчаць і рабіць тое, што гаспадар загадае.

Я н к а. Вось як! Ого-го!

Ю з і к. Дык я больш не хачу канём быць, няхай вас вязе хто хоча; хоць на чорту можаце ехаць, а я вас не павязу!

Я д з я. Што?! Канём быць не хочаш? Канём будзеш і слухаць будзеш, бо пугу доўгую маем!

## З'ява V

Тыя ж. Выходзяць Грышка і Лявонка.

Г р ы ш к а *(паказваючы пугу)*. І ў мяне ёсць пуга!

Л я в о н к а *(вылез з куста і паказвае пугу)*. І ў мяне пуга. Значыцца, у вас адна, а ў нас дзве!

Г р ы ш к а *(да Лявонкі)*. Бачыш, булку ды яшчэ з маслам ядуць.

Ю з і к. Я, дальбог, не павязу назад!

Я н к а. І я не павязу.

Я д з я. Ну і пехатой мы не пойдзем. Як прыкажам везці — павязеце, нідзе дзенецеся!

Я н к а. І не думаю.

Л я в о н к а. Колькі разоў яны на вас прыязджалі?

Ю з і к. Ой, шмат, нават і не пералічыш!

М а р ы с ь к а. Вось маніш, можа, разоў сто.

Ю з і к. Ты ж пальцаў на руцэ не злічыш, жаба ты!

М а р ы с ь к а. І цябе навучу!

Г р ы ш к а. Значыцца, яны на вас наездзіліся?

Ю з і к. Ну, вядома!

Г р ы ш к а. Вы замарыліся?

Я н к а. Яшчэ як...ісці не магу.

Л я в о н к а. Ну, калі ісці не можаце, дык назад паедзеце.

В а ц і к. На кім?

Г р ы ш к а. На табе!

Я д з я *(пагардна)*. Што? На кім?

Л я в о н к а. І на табе!

Я д з я. Як гэта можна! Няхай толькі, дык і месца не знойдзеце!

Г р ы ш к а. Месца хваце. Лес вялікі. А тут у лесе лепш жыць з ваўкамі, як у дварэ з панамі.

В а ц і к. Вы пастухі і гэтак паважыліся казаць на нас, на панскіх дзяцей!?

Л я в о н к а. У дварэ вы паны, а тут — усе роўныя!

Я д з я. Гэта ж наш лес!

Г р ы ш к а. Лес ваш? Усё ваша?

Л я в о н к а. Увесь свет ваш? А дзе ж наша?

Ю з і к *(да Янкі)*. Вось добра; дальбог, паедзем дамоў на панскіх коніках.

М а р ы с ь к а. Юзік, маўчы, а то дасць тата.

Я н к а. Што маўчаць? Чаго маўчаць?

Г р ы ш к а. Хто замарыўся, той і паедзе — гэта па праўдзе будзе.

Ю з і к. Я!

Я н к а. Я!

Г р ы ш к а. Вось і паедзеце!

Я д з я. Але як жа гэта можна, каб вы, пастухі чорныя, і ехалі на нас?

Л я в о н к а. На белых? А чаму ж не? Коні ёсць і чорныя і белыя! Што ж тут дзіўнага?!

Я н к а. Вось Рыгорава кабыла белая.

Ю з і к. А Мікітаў конь чырвоны.

В а ц і к. Гэтак не будзе... Мы пастухоў ніколі не слухалі і слухаць не будзем.

Л я в о н к а. А вось жа паслухаеце. Бо той таго слухае, хто дужэйшы. А мы пастухі — чорныя тут дужэйшыя, чым вы, паны — белыя: нас тут болей.

М а р ы с ь к а. Дармо, паненачка, я вас моцна паганяць не буду.

Ю з і к. А калі я скажу паганяць, дык і пагоніш, бо я буду за пана сядзець!

М а р ы с ь к а. Эх! Пан які знайшоўся! Нос вытры ўперад!

Ю з і к *(моцна ўцірае нос)*.

В а ц і к. Нам яшчэ трэба прагнаць вясковых дзяцей, каб не сабіралі ягад у нашым лесе.

Г р ы ш к а. А вось жа не дадзім іх праганяць з лесу. У вас дома сад ёсць: яблыкі, грушы, вішні, агрэст — усяго ў вас шмат... А вы шкадуеце бедным вясковым дзецям гэтых кіслых ягад. Хлопцы, не дадзім прагнаць дзяцей?

У с е. Не дадзім!.. Няхай збіраюць.

Я д з я. Вацік, як гэта можна? Што яны сабе думаюць?

В а ц і к. Пойдзем хутчэй у двор і раскажам аб усім аканому.

Г р ы ш к а *(не пускаючы)*. Не, мы вас не пусцім!

Л я в о н к а. Вы не пойдзеце ўлегцы, а на вас паедуць Юзік і Янка за тое, што вы на іх ездзілі... Вось пабачыце, як гэта смачна вазіць каго-небудзь... Ну, а ты, Марыська, зноў за фурмана будзеш!

М а р ы с ь к а. Не хачу я за фурмана! Лепш пехатой пайду дамоў.

Ю з і к. Эх, ды паедзем, паедзем!

Я н к а. Ды на беленькіх коніках, на панскіх!

М а р ы с ь к а. Юзік, Юзік! Вось будзе ад таты...

Ю з і к. Не баюся я ні таты, ні мамы, нават аканома не баюся!

Г р ы ш к а. Ну, годзе таройкацца! Юзік і Янка, запрагайце коні!

Ю з і к *(супыняючыся, падыходзіць)*. Я баюся: яшчэ ўбрыкнуць.

Я н к а *(памкнуўшыся)*. І я баюся, ні разу не запрагаліся — брыкацца будуць.

Л я в о н к а. Не будуць, а пуга навошта? Давай, Грышка, мы з табою іх запрагом.

Г р ы ш к а. Я з ахвотаю! *(Ловіць Вaціка.)* Тпру, сюды!.. Стой, коська! *(Запрагае.)*

Я д з я *(уцякаючы)*. Гэта ж нам сорамна: каб на нас ды ехалі... Вон, чорныя пастухі!

Л я в о н к а *(трасучы шапку)*. Кось! Кось! Кось! Кабыла панская не ловіцца! Кось... Кось... Кось! *(Злавіўшы.)* Ага, папалася?

М а р ы с ь к а. Вось будзе ад паноў!

Ю з і к. Будзе, будзе! Нічога не будзе! Каб усе былі гэткія смелыя, як Грышка ды Лявонка, дык бы і старых паноў запрэглі і ездзілі б на іх, а то яны на ўсіх ездзяць.

Я д з я (*запрэжаная*). Як ты паважыўся на тату і маму гэтак казаць.

Л я в о н к а. Тпру! Табе гаварыць няможна! Ты ўжо конь, бо запрэжаная, а коні языка не маюць, вы гэта самі нядаўна казалі на Янку і Юзіка! І булку з

маслам аддайце панам! Яны замарыліся, вас везучы — горш есці хочуць. На, Юзік і Янка!

Ю з і к *(хапаючы)*. О, то-то!

Я н к а. Давай! Давай! *(Ядуць.)*

В а ц і к. Куды нашу булку ясце?

Г р ы ш к а. Тпру! Коні маўчаць, і булак не ядуць. Травіцу скубіце!

М а р ы с ь к а. Не еш, Юзік, няможна, вось будзе!

Ю з і к. Чаму няможна. Я як быў мужыком, дык, дальбог, ніколі панскай булкі не еў... А цяпер жа я пан — чаму ж не можна есці?

Я н к а. А вы, конікі, травіцу скубіце, а то дарога вялікая, ды першы раз у аглоблях — нябось, моташна будзе.

Г р ы ш к а. Ну, паны чорныя, рыхтуйцеся ды садзіцеся на каламажку. Марыська — пугу ў рукі.

Ю з і к. А што, калі яны нас разнясуць ды павыкідаюць, бо маладыя, першы раз запрэжаны?

Л я в о н к а. Дасце рады. Ды на ўсякі выпадак я закілзаю, каб лепш сутрымліваць *(кілзае)*.

Я д з я. Паскудную вяровачку ў рот.

Г р ы ш к а. Вы цяпер коні, без языка — вас ніхто не чуе. Тпру! Не ўстоіш на адным месцы, выгулялася!

Я н к а *(да Юзіка)*. Маладзенькія, дык брыкаюцца.

Л я в о н к а. Ну, усё гатова. Марыська, на маю доўгую пугу, ды не шкадуй беленькіх.

М а р ы с ь к а. Я, паненачка, вас не буду моцна паганяць.

Ю з і к. Няма тут паненачкі. Ёсць толькі коні *(паказвае на іх)* і людзі *(паказвае на сябе)*. Садзіся, Янка!

Я н к а. Паспеем... Яны нас як запрагуць, дык дзве гадзіны стаіш у аглоблях, пакуль з двара выедуць.

Гутараць усе паміж сабою.

В а ц і к. Выпражце нас!.. Чаму яны нас не чуюць?

Я д з я. Бач, Вацік, мы цяпер коні, жывёла, а яны людзі, вось і не разумеюць нашай мовы.

В а ц і к. Ага, вось чаму... значыцца, мы іх павязем?

Я д з я. А ўжо ж павязем, калі запрэглі...

В а ц і к. Дрэнна быць жывёлінай... Хоць і цяжка,

павінен маўчаць, бо ніхто не разумее моеы тваёй... А чаму яны на нас хочуць ехаць?

Я д з я. За тое, што мы на іх ездзілі...

В а ц і к. Дык мы больш на іх не паедзем, няхай толькі на нас не едуць...

Я н к а. Ну, садзімся! Марыська, наперад за фурмана. Бяры лейцы ў рукі ды моцна трымай, каб не вывернулі!

Ю з і к. Ты, Янка, будзеш за паню і сядай з правага боку, а я за пана — з левага: гэтак нашы старыя паны ездзяць.

Л я в о н к а. Ну, вось, Грышка, хоць раз чорныя на белых праедуцца...

Г р ы ш к а. Гэтак то гэтак, але не хацелася б мне на іх ездзіць.

Л я в о н к а. Ведаеш, мне самому шкада было іх запрагаць... Але не запрогшы, не паездзіўшы на іх, яны, бадай што, не павераць, як гэта цяжка вазіць... А вось няхай папрабуюць гэты смак, мо' тады пераменяцца і людзьмі стануць...

Я н к а. А куды нам пад'ехаць: пад кузню ці пад панскі ганак?

Л я в о н к а. Пад'язджайце пад кузню, а як у пакоях жыць будзеце, тады пад ганак будзеце пад'язджаць.

Ю з і к *(кратаючы сядзенне)*. Вось як мякка будзе сядзець... Як гэта добра панам ездзіць.

Я д з я *(праз плач)*. Вацік, вось як дрэнна быць канём ды вазіць паноў.

В а ц і к *(плачучы)*. Але... дрэнна.

М а р ы с ь к а *(падыходзіць да яе)*. Не плачце, я не сяду ехаць... Не, паненачка, толькі кіньце плакаць...

Ю з і к. А цяпер, Грышка і Лявонка, шчыра вам дзякуем, што памаглі запрэгчы, а то зноў бы іх везлі, а так паедзем, Янка.

Я н к а. Эх, ды паедзем на беленькіх рысаках.

Л я в о н к а. А вечарам малачка пад'ядзіце, як прыгонім кароў, бо вы цяпер паны.

Я н к а і Ю з і к. Вось добра будзе жыць!

Ю з і к. Марыська! На месца!

М а р ы с ь к а. Я не паеду... *(Плача.)*

Ю з і к. Што?

Я н к а. Вось навіна!

Я д з я і В а ц і к. Мы болей не будзем вас запрагаць... *(Моцна плачуць.)*

Я н к а. Грышка, Лявонка! Нашы коні плачуць...

Г р ы ш к а. А што, бачыш? Не сказаў я? Эх, брат!..

Л я в о н к а. Вось і рабі, што хочаш!..

Ю з і к. Марыська! А ты чаго выеш, як воўк на здохлую кабылу? Цябе ніхто не запрагае...

Я д з я. Мы больш не будзем, адпусціце...

М а р ы с ь к а. Якія вы ўсе нядобрыя... Яны кажуць, што больш вас запрагаць не будуць...

Л я в о н к а. Мала што яны кажуць, толькі слухай іх!

В а ц і к. Дальбог, не будзем! Мы не везлі, а ведаем ужо, як гэта цяжка.

Ю з і к. А каб жа вы столькі правазілі, як я з Янкам, вы б не толькі гэтак заплакалі. *(Пачынае плакаць.)*

Я н к а. Ага! Бачыце, як лёгка быць канём... А вы заўсёды кажаце—вазі ды вазі! *(Пачынае плакаць.)*

Чуць чуцен хор.

Я д з я. Больш не паедзем... І з саду праганяць не будзем.

Л я в о н к а. А што, Грышка, бачыш? Граза на лес не ідзе!

Г р ы ш к а. А чаго Янка і Юзік плачуць?

Л я в о н к а. Чаго вы? Га?

Ю з і к. Я не ведаю: Марыська плача... і я...

Я н к а. І я не ведаю... усе плачуць...

Г р ы ш к а. Кіньце! Не трэба плакаць. *(Сам плача.)*

Л я в о н к а. І ты плачаш? *(Плача.)*

Чуваць мацней хор. У гэты час Лявонка і Грышка выпрагаюць Ваціка і Ядзю. Невялічкая пауза. Хор патроху заціхае:

Л я в о н к а. Вось бачыце... Чорныя паны не такія, як белыя... Яны маглі б на вас так пракаціцца, што ўвесь свет задзівіўся б, але пашкадавалі вас...

Г р ы ш к а. А вы ніколі не шкадуеце.

Я д з я. Цяпер мы нікога болей не запрагом — ведаем, як гэта смачна... вазіць.

Я н к а. Ага! бачыце!

Ю з і к. Толькі не маніце, бо другі раз мы вам не падаруем.

В а ц і к. Ніколі не запрагом... І пастухамі чорнымі не будзем абзываць...

Я н к а. І мужыкамі не завеце...

Я д з я. Не будзем. Мы бачым, што хоць вы і пастухі, але таксама маеце сілу і можаце зрабіць з намі, што захочаце...

Л я в о н к а. Во, тош-то, і ё... А вы гэтага не ведалі? Не? Дык ведайце!

Г р ы ш к а. Усё роўна цяжка вазіць ці вам, ці нам, бо мы хоць і чорныя, але таксама людзі, як і вы, не праўда?

В а ц і к. Праўда! Такія!.. Я, як выpасту, ніколі аканому не пазволю вас біць, бо і вам баліць так, як бы і мне балела, каб хто біў.

Я д з я. І я не пазволю... Мы будзем зусім добра жыць...

Л я в о н к а. Тады і мы з вамі будзем жыць хораша.

Г р ы ш к а. Ніколі вас крыўдзіць не будзем, калі вы нас не пакрыўдзіце... Бачыце, мы каровак вашых пасём, працуем, а вы нічога не робіце, яшчэ на нас сварыцеся... А хто малачко есць? Вы! А мы чорны хлеб з вадою!..

Ю з і к. Мой тата працуе ў кузні, а аканом яго б'е за гэта... А вы ніхто не працуеце, і вас ніхто не б'е...

В а ц і к. Я, як вырасту, праганю аканома, буду сам працаваць і з усімі згодна жыць...

Л я в о н к а. За гэта ты маладзец!

Я д з я. І я буду працаваць сама, як і ўсе ў двары дзяўчаты працуюць...

М а р ы с ь к а. І я буду з вамі працаваць!..

Я н к а. Усе будзем працаваць разам. *(Чуваць хор.)*

У с е. Усе! Усе!..

Л я в о н к а. Во, за гэта малайцы. Цяпер Ядзя і Марыська садзіцеся. *(Садзяцца.)*

Г р ы ш к а. А ты, Юзік з Вацікам, запрагайцеся і павязіцё іх дамоў, а як цяжка будзе, яны вылезуць... *(Запрагаюцца.)*

Я н к а. А каб не было цяжка, я буду ззаду папіраць...

Л я в о н к а. Вось так гэта добра!

Я н к а. А ззаду не добра папіраць... Эх, пакоцім, аж дамоў!..

В а ц і к. Табе не цяжка, Юзік?

Ю з і к. Не...

Я д з я. А калі цяжка, мы злезем.

В а ц і к. Не, не цяжка! Сядзіце!

М а р ы с ь к а. Няхай правязуць!..

Я д з я. А вечарам, кароў як прыгоніце, будзем усе разам гуляць...

Л я в о н к а. Добра, будзем!

Г р ы ш к а. І яблыкаў дасцё?

В а ц і к. Колькі захочаце!

Я н к а. Ну, пайшлі! Паганяй!

М а р ы с ь к а. Но, белы і чорны!

Л я в о н к а *(да Грышкі).* Белы і чорны і не брыкаюцца.

Г р ы ш к а. Ажна дзіва... Але гэта добрая прыкмета — цягнуць дужэй будуць.

М а р ы с ь к а і Я д з я. Но! Пайшлі! Гэй!

В а ц і к і Ю з і к *(заіржалі).* Іго-га-га!

Я н к а. Эх, паганяй! *(Паехалі з крыкам.)*

Г р ы ш к а. Аж люба глядзець, калі чорны і белы ў адну каламажку ўпрагліся.

Л я в о н к а. Я ж кажу, граза на лес не ідзе!

Ч у в а ц ь г а л а с ы. Бывайце здаровы!

Г р ы ш к а і Л я в о н к а. Бывайце, бывайце! Да пабачэння!

Махаюць рукамі, чуваць мацней хор.

*Заслона.*

# МІКІТАЎ ЛАПАЦЬ

*Камедыя ў 2-х актах*

АСОБЫ:

Яўмень — селянін.

Грыпіна — яго жонка.

Зоська — іх дачка, гадоў 19.

Дар'я — іх суседка.

Саўка — яе сын, гадоў 22.

Мікіта.

## АКТ I

Двор. Абапал — хаты. За вуліцай відаць садок.

### З'ява I

Дар'я (адна)

Д а р'я *(з аўсом у прыполе і кліча курэй)*. Цып! цып! цып! цып! Дзе ж яны падзеліся? Каб часам зноў не пайшлі несціся ў суседаву крапіву! Вось бяда з курамі! Бадай на іх каршун! Цып! цып! цып! Кур! кур! кур! Нездарма, мусіць, людзі кажуць, што суседзі нешта ведаюць, што ў іх не то свае куры нясуцца ў хаце, але і чужыя прыходзяць несціся.

### З'ява II

Дар'я — Грыпіна

Г р ы п і н а *(праз акно)*. Каб ты не ведала ні святых каляд, ні асенніх дзядоў, калі я што-небудзь гэта паганае ведаю і калі ў мяне чужыя куры нясуцца. Вось ты — дык праўда, што кожную раніцу аўсом ды ячменем прынаджваеш да сябе чужых курэй! Выдра ты! Пляткарка! Шкада святой серады, а то аблаяла б цябе, як суку!

Д а р'я. Суседачка! Я ж на вас нічога дрэннага не кажу. Што ў вашай крапіве мае куры несліся — гэта праўда, твой мужык Яўмень не дасць маніць... Але ж я не кажу, што вы іх бралі!.. Няхай мяне пярун заб'е, калі

я дарэмна на каго выдзіраю... А калі яйцы мае прападалі, мо' іх ела ваша сучка.

Г р ы п і н а. Сама ты сучка! Гадаўка! Цьфу! *(Плюе.)* Гаварыць з табой не хачу! *(Зачыняе акно.)*

## З'ява III

Д а р'я (адна)

Д а р ' я. Не разумею, чаго яна да мяне чэпіцца кожны божы дзень!

## З'ява IV

Д а р'я — С а ў к а

С а ў к а *(выходзіць з хаты)*. Мама! Навошта вам сварыцца з суседзямі.

Д а р ' я. Мой сынок! Ці ж гэта я?! Гэта ж яна першая пачала.

С а ў к а. Яна пачынае, а вы ўзялі ды пайшлі ў хату! Што людзі кажуць, чуючы штодзень сварку на нашым двары?

Д а р ' я. Гэтак то гэтак... Але чаго ж яна да мяне лезе заўсёды?

С а ў к а. Няўжо ж не разумееце за што? Усё за тое.

Д а р ' я. Што дачкі не хоча за цябе аддаць? Мы ж сілком не бяром... чаго сварыцца!.. Захочаш жаніцца, дык такое дабро знойдзеш...

С а ў к а. Не кажыце гэтак, бо Зоська мяне ўсёю душою кахае... і бацька згаджаецца... вось толькі маці ніяк...

Д а р ' я. І ліханька яе бяры... Але не дажджэ яна! Я ёй такую штуку падстрою, такога вараб'я падпушчу, што яшчэ сама прыйдзе маёй ласкі прасіць... Вось пабачыш!.. Здохну я, калі ёй не аддзякую за яе сварку!.. Лахта гэта! Як пачнецца раніца — і пачынае лэхціць языком, як трапло! Сутрымаеш язык, пачакай толькі! *(Пайшла ў хату.)*

## З'ява V

Саўка (адзін)

Саўка *(зняўшы касу са сцяны)*. Эх, бяда з гэтымі старымі... Ніяк не паладзяцца! Не тое, дык тое. Не за курыцу, дык за яйцы, а ўсё сварацца. Ніяк іх пагадзіць няможна. Не ведаю, што даў бы, каб толькі яны жылі ў згодзе... Мо' хутчэй Зоська была б маёю... Гэтак я яе страшэнна кахаю... Дзе ні іду, усё аб ёй думаю *(Уздыхае.)*

## З'ява VI

Саўка — Грыпіна

Грыпіна *(уваходзіць)*. Аб кім гэта, пане дабрадзею, думаеш?

Саўка. Ды вось думаю, як бы сенажаць хутчэй скончыць касіць. А цяпер пайду ў садок цялятам травы выкашу...

Грыпіна. Аб сенажаці думай сабе колькі хочаш, а вось аб Зосьцы кінь думаць... Не раз казала і цяпер кажу, што яна табе не пара... За такога, як ты, я яе не выдам; няхай лепш у дзеўках сядзіць... Што ў цябе ёсць? Зямлі кавалак ды хата, небам крытая!..

Саўка. Мне здаецца, цётачка, што лепш выйсці за беднага, калі яго кахаеш, чым за багатага, ды нялюбага...

Грыпіна. Што з твайго кахання: спадніцу пашыеш ці хлеб есці будзеш? Лепш богу не грашы і людзей не смяшы, хлапец!.. Шукай сабе такую, як і сам, ды жаніся, а на Зоську не спадзявайся, бо нічога не будзе... Знайшоў каго пакахаць?! *(Пайшла ў хату.)*

## З'ява VII

Саўка (адзін)

Саўка. Ці я вінават, што яе кахаю... Мо' б я і не хацеў кахаць, але сэрца!.. А што я бяднейшы за яе... і тут не вінен... Эх!.. Як гэтыя старыя не могуць зразумець нас, маладых... Няўжо ў свой час ім не прыходзіла-

ся кахацца і гэтак хварэць, як хварэю я... не... мусіць, не... бо, каб ведалі яны, як гэта цяжка... Эх! Убогасць усяму віна. Але Зоська? Яна шчыра кахае, нягледзячы, што я бедны... Бацька дакляруе нават дапамагчы! чым-колечы, а маці і гаварыць не хоча...

### З'ява VIII

Саўка — Зоська

Зоська *(бегучы з вуліцы)*. Ой! вой! вой! вой! Савачка, барані мяне... *(Мікіта паказваецца і хаваецца.)*

Саўка. Што! што такое?

Зоська. Вой! утамілася!.. Гэта ж той дурань гнаўся за мною!

Саўка. Хто? Які дурань?

Зоська. Які дурань! Адзін жа ў нас дурань — Мікіта!

Саўка *(смяецца)*. А бадай цябе! І ты яго спалохалася?

Зоська. Заўсёды ка мне чэпіцца, кажа — кахаю цябе, жыць без цябе не магу...

Саўка. Ну, значыцца, кахае...

Зоська *(злосна)*. Ідзі ты вон разам з ім!.. Як да нас прыходзіць, я з хаты ўцякаю альбо яго качаргою ганю вон... Ты заступіся за мяне!..

Саўка. Ну добра, заступлюся.

Зоська. А ці сёння мацеркі нашы не сварыліся?

Саўка. Як жа... Яшчэ як!

Зоська. Завошта?

Саўка. За курэй!.. Эх, Зоська, нешчаслівыя мы з табою. Не быць, мусіць, таму, аб чым мы так часта гутарылі!?

Зоська. Не сумуй, Савачка! Прыйдзе шчаслівая хвіліна — мацеркі нашыя пагодзяцца, і мы злучымся назаўсёды... А пакуль што, кахаймася і не трацьма надзеі, што і наша зорка засвеціць ясней на небе і ўзвядзе нас на адну сцежку, якой і будзем ісці з табою ўсё жыццё. *(У гэты час Мікіта праходзіць па вуліцы, хаваецца за вугал і слухае.)* Мо' хто-небудзь пагодзіць нашых мацерак.

С а ў к а. Зоська! Я не счакаю той гадзіны!..

З о с ь к а. Э-э! Счакаеш! Не памрэш! *(Мікіта пераходзіць за другі вугал, бліжэй.)* А куды ты касіць пойдзеш?

С а ў к а. Пайду ў садок, выкашу трохі, пакуль сонца не пячэ, бо тады за вашымі пчоламі няможна пыдысці...

З о с ь к а. Ну, добра! Ты ідзі касіць, а я пайду табе бліноў прынясу.

С а ў к а. Што ты, Зоська!

З о с ь к а. Гэта не тваё дзела!.. Калі я кажу, так і трэба. Я хутка. *(Пайшла ў хату).*

С а ў к а *(паглядзеўшы ўслед).* Ну і Зоська! Без яе мне жыцця не будзе! Эх, доля, доля! Чаму я такім радзіўся! *(Пайшоў у садок.)*

### З'ява IX

Мікіта (адзін)

М і к і т а *(падбягаючы пад дзверы).* Ага, не злавіў! А то, дальбог, пацалаваў бы! Вось толькі лапаць развязаўся, ганяючыся за ёю. *(Садзіцца на лаўку і абувае.)* А спрытная дзяўчына, як наша цялушка!.. Толькі хвастом не махае, а бяжыць таксама, што дагнаць няможна... І чаму яна мяне не любіць? Перш казала: люблю! Нават і яблыкі ёй даваў, дык не хацела браць, кажа: лепш сам еш, я цябе шкадую... А цяпер ні прыступу, як малады конь да аглобляў. Вой дык Зоська, Зоська! *(Чухае патыліцу).* Трэба пачакаць, мо' хутка будзе бліны несці Саўку, хоць пабачу — і то лягчэй будзе. *(Лажыцца на лаўку.)* Каб толькі яна Саўку не пакахала. Але ж!.. Кажуць людзі, што мяне — значыць, мяне... *(Пяе.)* Значыць, мяне... *(Пяе.)*

Ай у полі жыта расце з каласамі,
Пакахала Мікіту яна з кутасамі.

Здаецца, ідзе!.. *(Маўчыць.) (Зося з блінамі ідзе ў садок. Мікіта ўстаўшы.)* Пайду за кусты схавацца... Як пачне Саўка бліны есці, я знянацку як крыкну! *(Крычыць.)* Ён спужаецца і блінамі ўдавіцца, а мне Зоська застанецца... *(Пяе «застанецца...» і пайшоў у садок.)*

### З'ява X

Дар'я (адна)

Дар'я (*выйшла*). Што гэтак сёння доўга Яўменя няма з поля... Зарабіўся!.. Трэба яму нагаварыць хоць няпраўды, каб яе трохі аддубасіў, няхай ведае, як добра слухаць няпраўду... Каб хутчэй ён толькі ехаў... Пабачым, хто перад кім паклоніцца... Паскуда гэтакая!.. Брахуха! *(Пайшла ў хату.)*

### З'ява XI

Зоська (адна)

Зоська (*бяжыць, баронячыся ад пчол, і раскідае бліны*). А няхай вас ліха! Вой! вой! У валасы ці што забіліся... Мёд смачны, але моцна кусаюцца, і бліноў не данесла Саўку, а ён будзе чакаць. *(Бяжыць у хату.)*

### З'ява XII

Мікіта (адзін)

Мікіта (*ідзе ззаду, падымае бліны і есць напяваючы*). Смачныя бліны! Смачныя бліны! Вось яшчэ адзін... Якія смачныя бліны пячэ Зоська. А я яшчэ не снедаў сёнека. Вось падвязло. *(Пяе.)* Смачныя бліны! Смачныя бліны! *(Углядаецца.)* Здаецца, бацька яе ідзе з поля! Трэ ўцякаць. *(Пяе.)* Смачныя бліны! *(Уцякае.)*

### З'ява XIII

Яўмень — Дар'я

Яўмень (*з пугаю*). Во пячэ! Як у чалесніках! Трасца яму ў бок!

Дар'я. (*выйшла*). Дзень добры, суседзе!

Яўмень. Добры дзень!

Дар'я. Я ж кажу, што зранку пачало так пячы, каб дождж, часамі, не пайшоў. І замарыліся, відаць!

Яўмень. А ўжо ж замарыўся, трасца яму ў бок! Хлапца не наняў, самому прыходзіцца і за сахой, і за

бараной, і за канём, і за ўсякаю паветраю цягацца, трасца яму ў бок! Ніколі ў хаце не бываем.

Д а р'я. А гэта і дрэнна, што ў хаце не бываеце!

Я ў м е н ь. А хто ж кажа, што добра? Ведама — дрэнна, трасца яму ў бок!

Д а р'я. Я ж кажу, што чалавек за працаю ніколі ў хаце не бывае, а людзі чорт ведае што гавораць.

Я ў м е н ь. Што ж яны гавораць, трасца ім ў бок? Што я гультай?

Д а р ь я. Ды не... Але лепш аб гэтым не казаць.

Я ў м е н ь. Што ж такое?

Д а р 'я. Кажу, лепш не казаць!

Я ў м е н ь. Зацікавіла, трасца яму ў бок, і казаць не хочаш! Кажы, я злавацца не буду...

Д а р 'я. Баюся казаць, каб дрэннага чаго не выйшла... Мо' гэта 'шчэ і няпраўда!

Я ў м е н ь. Ну дык кажы, трасца табе ў бок!

Д а р'я. Ну, калі так прыстаеш, то не гневайся і слухай. Кажуць людзі — мо' 'шчэ гэта і няпраўда — што як сам бываеш у полі, працуеш, то да жонкі госці ходзяць... частуюцца...

Я ў м е н ь. Трасца табе ў бок, ад каго ты чула?

Д а р 'я. Гэта я табе не скажу, але 'шчэ раз кажу, што можа ўсе маняць. Пакуль сам не пераканаешся, маўчы лепш: мала што людзі кажуць!

Я ў м е н ь. Я буду маўчаць, трасца ёй у бок! Яна тут п'янствуе ды 'шчэ што вырабляе! Я бачу, што апошнія дні асою ў вочы пачала кідацца! Вось гэтым пугаўішчам пацягну разоў колькі, дык не захоча мяне больш ашукваць, трасца ёй у бок! Бачыў ты яе?! (*Пайшоў за дзверы.*)

### З'ява XIV

Д а р'я (адна)

Д а р'я. Вось і ўдалося! Няхай жа ведае, як няпраўду казаць. Мо'трохі памякчэе, а то не прыступіцца. Ён ёй пакажа: Яўменя я добра ведаю. (*Слухае.*)

Я ў м е н ь (*чуваць за дзвярыма*). Што? Трасца табе ў бок.

Д а р ' я. Дастанецца ёй за курэй! Пугаўё добрае маё! Будзе ведаць, як з суседзямі трэба жыць. *(Пайшла ў хату.)*

### З'ява XV

Мікіта (адзін)

М і к і т а. Няма нікога. *(Аглядаецца.)* Жадаў, каб Саўка блінам падавіўся, ажно сам чуць не ўдавіўся ўцякаючы! Але бліны смачныя... Трэ' 'шчэ паляжаць, мо' вынесе болей. *(Лажыцца на лаўку і пяе.)* Вынесі, Зоська, бліноў яшчэ болей! У садку цябе Саўка чакае... *(Смяецца.)*

Я ў м е н ь *(чуваць у хаце крык)*. Гэта падзяка за маю шчырую працу?! Вон з хаты!

М і к і т а. Вой! Дзе мне дзявацца! А мо' не ўбачыць! *(Выцягнуўся на ўсю лаўку).*

Я ў м е н ь. Каб і нага не была тут! Вон, трасца табе ў бок!

М і к і т а *(кідаецца з лаўкі і лезе пад лаўку)*. Вось тут! Можа, не знойдуць. Чаго гэта Яўмень расхадзіўся?! *(Пяе.)* Вынесі, Зоська, бліноў яшчэ болей. У садку Саўка чакае. *(Далей хаваецца.)*

### З'ява XVI

Я ў м е н ь — Г р ы п і н а — З о с ь к а — М і к і т а

Г р ы п і н а *(бяжыць, за ёю Яўмень з пугаю, за ім Зоська).*

Я ў м е н ь. Сорам на свет паказацца будзе!

Г р ы п і н а. Яўменька, даражэнькі, паслухай!

З о с ь к а. Татачка, гэта — няпраўда! *(Дар'я пазірае ў акно, смяецца.)*

Я ў м е н ь. Я табе пакажу, як здзекі з мяне строіць, трасца табе ў бок! Вон з двара, каб вочы мае не бачылі, калі ты гэтакая!

Г р ы п і н а. Слухай жа, дурны!

Я ў м е н ь. Слухаць не хачу! Я вось табе выведу твой розум, трасца табе ў бок!

Г р ы п і н а. Не баюся я цябе, дурань! Дурань! *(Бяжыць пад лаўку.)*

Я ў м е н ь. Дык ты вось як, трасца табе ў бок! *(Сцёбае раз пугаю па лаўцы.)*

З о с ь к а. Ай, татачка!

М і к і т а. Вой! вой! вой! Залавіў па пальцы! *(Ліжа палец.)*

Г р ы п і н а. Ну, бі болей, бі болей.

Я ў м е н ь. Трасца табе ў бок! *(Хвошча па лаўцы.)*

З о с ь к а *(крычыць)*. Ай, татачка, не біце!

Г р ы п і н а. А-я-яй! а-я-й!

М і к і т а *(крычыць пад лаўкай)*. Вой! вой! вой! Ратуйце! *(Кідаецца Яўменю пад ногі, збівае з ног і ўцякае.)*

Я ў м е н ь *(валячыся, крычыць)*. Трасца табе ў бок! *(Мікіта паўзе.)*

*Заслона.*

## АКТ II

**Тая самая дэкарацыя. На лаўцы сядзяць і гутараць Грыпіна і Дар'я.**

### З'ява I

Г р ы п і н а — Д а р'я

Г р ы п і н а. Не хачу клясціся святою нядзелькаю! Самі бачыце, што дарэмна на мяне наваліўся... І гэтак збіў, што яшчэ не магу да плячэй дакрануцца... Каб я калі каму што якое,— ніколі нікому нічога! А каб я калі каму што якое, дык што там такое! Ды ці ж бы вы, суседачка, не бачылі, па суседству жывучы, каб хто да мяне хадзіў. Але ўсё благія языкі...

Д а р'я. Я ж кажу — языкі!.. Але... але... Сёння спаткалася з Яўменем і ўчора нават казала яму, што не слухай людзей, бо людзі — чэрці, так і мяркуюць, каб звесці каго-небудзь.

Г р ы п і н а. Дзякую, дзякую табе... Я бачу, што ён памякчэў крыху, мусіць, ад таго, што вы яму гаварылі аба мне...

Д а р'я. Я ж кажу... Гаварыла не верыць усякай брыдзе!

Г р ы п і н а. Ён увесь час цяпер сходзіць з дому, а потым раптам з'яўляецца, каб каго застаць... Бачыце

вы самі, ці ж я даслужыла гэтага, каб цікаваць... І цяпер кудысь выйшаў з дому. Ох, божа, божа!

Д а р ' я. Я ж кажу, што зрабіць! Пацікуе, пацікуе, нікога не ўбачыць, дасць веры, што мана ўсё... 'Шчэ перапросіць... Я яму ўжо казала, каб хутчэй перапрасіў вас, бо ўсё, што ён чуў — выдзірка людская.

Г р ы п і н а. Ён то перапросіць, але сінякі, што парабіў пугаю, ад гэтага не загояцца.

Д а р ' я. Я ж кажу, трэба цярпець...

Г р ы п і н а. Ды ўжо ж буду цярпець... Няхай таму бог аддасць, праз каго ён біў мяне...

Д а р ' я. Я ж кажу, і клясці не трэба — загояцца...

Г р ы п і н а (*устае*). Эх, эх! А дзе ж ваш Саўка?

Д а р ' я. У хаце сядзіць.

Г р ы п і н а. І Зоська адна ў хаце. Чаму ж ён не прыйдзе да яе пабавіцца... Які ж з яго хлапец... Ідзіце, кажыце, кажыце, няхай ідзе да яе... А вам дзякуй, што хоць вы майго дурня ўгаворваеце... Ён вам дае веры... Ды пайду і я ў хату... *(Пайшла.)*

### *З'ява II*

Д а р ' я (адна)

Д а р ' я (*ідучы ў хату*). Ну вось і ўдалося! Бач якая мяккая стала, хоць к хвораму месцу кладзі. А то нос вышэй коміна насіла! Ага! Як у бяду ўпадзеш, Кузьму бацькам назавеш. Толькі хутчэй бы зусім іх згодзіць, мо' б тады і Зоська з Саўкам пабраліся... А то ўсё хванабэрыю нейкую строіла, але вось за гэту хванабэрыю чухай цяпер плечы. *(Пайшла.)*

### *З'ява III*

М і к і т а (адзін)

М і к і т а (*праходзячы па вуліцы, пяе і пазірае ў двор*).

На вуліцы тупанец,
Дзеўка, не шатайся:
Хлапец зловіць, пацалуе, —
Нікому не жалься! *(Пайшоў.)*

## З'ява IV

Зоська (адна)

Зоська *(праз акно)*. Эх, як хараша на дварэ! Хлопцы і дзяўчаты на сяле гуляюць, а мне так сумна, што гэта нядзелька здаецца буднім днём. І Саўка таксама сумненькі. І хто нам дапаможа ў нашым каханні, хто паможа злучыцца назаўсёды?

## З'ява V

Саўка — Зоська

Саўка *(выходзіць з хаты)*. У свята 'шчэ горш на сэрцы робіцца. У будні дзень працуеш, дык аб усім забываешся.

Зоська. Саўка!..

Саўка. Чаго? Ага! Я і не бачу!

Зоська. Куды ты сабраўся?

Саўка. Пайду разнясу жуду. Пагляджу, як гуляюць хлопцы ды дзяўчаты! Мо' пойдзем разам! Ах... я і забыўся, што твая маці ў хаце... Я буду там, дзе гуляюць!

Зоська. Не, даражэнькі, я не пайду, бо тата вернецца. Баюся, зноў каб не біліся з мамаю.

Саўка. Паб'юцца і пагодзяцца. Ну, я пайшоў... А вечарам...

Зоська. Вечарам я буду... Я толькі чакаю вечара!.. Толькі не пазніся! Памятай!

Саўка. Не. Ніколі не спазнюся! Бо, дзе шчасце чалавека чакае, і, ведаючы аб гэтым, хто стане марудзіць... Ну, бывай! *(Пайшоў.)*

## З'ява VI

Зоська (адна)

Зоська. Бывай! Бывай, мой саколік! Гуляй і за мяне, а я ... я застануся ў хаце і буду чакаць вечара! Ох! Хутчэй бы сонейка хавалася і зоркі на небе ўбачыць. Не... не так хутка! 'Шчэ рана. Эх, эх! *(Хаваецца.)*

### З'ява VII

Мікіта (адзін)

Мікіта *(ідучы)*. Хлапец зловіць, пацалуе — нікому не жалься. Ну, пайшоў Саўка на ігрышча, значыць, смела можна ісці гуляць да Зоські... Ды трэба занесці ёй яблыкаў. *(Вымае з-за пазухі.)* Аж папацелі, увесь дзень за пазухай лежачы... Толькі каб не даць кіслага, а то, як учора, шпурне мне ў галаву. *(Кусае.)* Вой, кіслы! Пэўна, дзічка папалася! *(Плюе.)* Як палын пячэ! *(Кусае.)* Гэты лепшы! *(Кусае.)* А вось гэты, як цукар! Ну, гэты я дам ёй. *(Шчэ разы два кусае, кладзе за пазуху і ідзе ў хату.)*

### З'ява VIII

Дар'я

Дар'я *(выйшла)*. Саўка! А, Саўка! Дзе ж гэта ён дзеўся? Няўжо да Яўменевых пайшоў! Палуднаваць забыўся хлапец! А бадай цябе! *(Пайшла ў хату.)*

### З'ява IX

Зоська — Мікіта

Зоська *(у хаце)*. А то як скажу Саўку! Што? Вось гэтай чапялою!

Мікіта!. Вой, вой, вой! *(Выбягае, але абора ўчапілася ў дзверы, ён падае.)* Стой, стой, абора ўчапілася! *(Зрывае лапаць і ўцякае. Здалёку.)* Пайду Саўку скажу, што не хоча цалавацца. Ай-яй-яй! Бацька ідзе! Уцякаю!

### З'ява X

Яўмень (адзін)

Яўмень. Ага! Трасца яму ў бок! Не ўгледзеў толькі, хто паляцеў з двара! Значыцца, не абмыліўся! Значыцца, мая жонка, трасца ёй у бок!.. А гэта што? І лапця забыўся, як спужаўся! *(Падымае.)* Аборку ўшчаміў, каб ты сабе галаву ўшчаміў у плот, трасца табе ў бок! Я ёй пакажу гэты лапаць! *(Пайшоў у хату.)*

### З'ява XI

Мікіта (адзін)

Мікіта (*выбягае на двор*). Куды ж гэта ён дзеўся? Так напалохала, што згубіў лапаць і не ведаю дзе... Вось бяда! Штодзень новыя лапці пляці; гэтак хутка рву, а тут яшчэ губляць пачаў. Не відаць!.. (*Пайшоў па вуліцы.*)

### З'ява XII

Яўмень (адзін)

Яўмень (*выйшаў з хаты*). А трасца табе ў бок! Цяпер не вывернешся!.. (*Пад акно.*) Суседка! А, суседка! Калі ласка, на хвілінку выйдзі на двор, трасца табе ў бок!

### З'ява XIII

Дар'я — Яўмень

Дар'я. А што маеце казаць, суседзе!

Яўмень. Скажы мне, трасца табе ў бок, чый гэта лапаць?! А?

Дар'я. Скуль я магу ведаць, пане суседзе!

Яўмень. Не! Ты ведаеш, але казаць не хочаш! Вы ўсе ў адну дудку іграеце, трасца вам у бок!

Дар'я. А дзе вы яго ўзялі, пане суседзе?

Яўмень. Дзе ўзяў? Вось тут, на дварэ!

Дар'я. Мо' дзеці чые прынеслі. Я ж кажу...

Яўмень. Дзеці, дзеці! Вось я ёй пакажу — дзеці! Значыцца, і ты за яе,— чорт за чорта! А 'шчэ хацела, каб дачку аддаў за сына, трасца табе ў бок! А праўды казаць не хочаш!

Дар'я. Ды кіньце вы, суседзе! Людзі нагаварылі, вы і веры далі. (*Пайшла ў хату.*)

### З'ява XIV

Яўмень (адзін)

Яўмень. Я не кіну, пакуль не буду ведаць, чый гэта лапаць. А тады... тады... трасца яму ў бок! (*На вуліцы бегае Мікіта, шукае лапця, размахвае рукамі.*)

## З'ява XV

Яўмень—Мікіта

Яўмень. Мікіта!
Мікіта. Чаго?
Яўмень. Ты не бачыў?
Мікіта. Каго?
Яўмень. Хто з двара бег?
Мікіта. Чаго?
Яўмень. Хто з двара бег?
Мікіта. Чаго? *(Плюе.)*
Яўмень. Цьфу! дурніца, трасца табе ў бок, я пытаю...
Мікіта. Чаго?
Яўмень. Ты не бачыў?
Мікіта. Каго?
Яўмень. Хто з двара бег?
Мікіта. Чаго?
Яўмень. Цьфу! *(Мікіта плюе.)* Трасца табе ў бок! *(Пайшоў.)*

## З'ява XVI

Мікіта (адзін)

Мікіта. І крычыць і плёвае. Ці не адурнеў ён? Нічога не разумею!.. І што гэта будзе? Што я бацьку скажу, дзе ён дзеўся? А мо' я яго дома забыўся?.. Не, здаецца, быў; трэба шукаць. *(Пайшоў.)*

## З'ява XVII

Яўмень—Зоська—Грыпіна

Яўмень. Трасца табе ў бок! Я ж пытаю, хто ў цябе быў? Я пытаю, чый гэта лапаць?..

Зоська. Скуль жа мама ведае, чый гэта лапаць. Можа, свінні прыцягнулі на двор.

Яўмень. Мо' скажаш — вароны прынеслі!.. Не, я ўсё разумею! Далей гэтак не будзе! Я хутка за цябе вазьмуся. *(Суне лапцем жонцы пад нос.)* Кажы хутчэй, чый гэта лапаць?

Грыпіна. Адчапіся! Здзяцінеў, ці што? Знайшоў недзе атопак, ды каб я ведала, чый ён! Скуль жа мне ведаць?

Яўмень. Вось як вазьму аборамі сцягаць, дык будзеце ведаць, трасца вам у бок!

Зоська! Ізноў, тата, пачынаеце? Святы дзень — усе людзі на вуліцы смяяцца будуць!

Яўмень. Няхай смяюцца! Няхай ведаюць, якую Яўмень жонку мае, той Яўмень, які на ўсёй вёсцы лепшым гаспадаром лічыцца.

### З'ява XVIII

Яўмень — Зоська — Грыпіна — Дар'я

Дар'я (*увайшоўшы*). Няўжо ж аб тым!.. Суседзе даражэнькі!

Грыпіна. Вось бачыш, мая міленькая, знайшоў на вуліцы лапаць і хоча, каб я згадала, чый ён... Звар'яцеў ці што чалавек?

Яўмень. Не на вуліцы, а на двары, трасца табе ў бок!

Зоська. Кіньце вы яго, тата! Няхай ён згарыць!..

Яўмень. Я не кіну, пакуль не даведаюся, чый ён!..

Дар'я. Кажу, што дзеці тут пясок у ім вазілі, сама бачыла.

Грыпіна. Ну, вось, пясок вазілі...

Яўмень. Каб цябе на могілкі вывезлі! Ты яшчэ будзеш зубы загаворваць! Я цябе пытаю, чый гэта лапаць?

### З'ява XIX

Тыя ж — Мікіта

Мікіта (*бегучы*). А дзядзечка, аддайце лапаць мой, а то тата сварыцца будзе на мяне!

Яўмень. Які лапаць, трасца табе ў бок?

Мікіта. Ды мой! Я ўцякаў ад вас і ўшчаміў абору ў дзверы, дык лапаць адарваўся!..

Я ў м е н ь *(кідае лапаць)*. Цьфу! Трасца табе ў бок! Што ж ты раней не казаў, як я ў цябе пытаў?

М і к і т а *(падымаючы лапаць)*. А дзякуй вам! А я думаў, што згінуў.

Г р ы п і н а. Ага! Ці я не казала! Каб табе столькі дзён хварэць, колькі ты мне сінякоў дарэмна пасадзіў на плячах пугаю! Бачылі, якая праўда!?.

Д а р ' я. Я ж кажу, суседзе, людзей не слухай!

Г р ы п і н а. Вось як вазьму гэты лапаць, дык усю морду вытаўку. *(Бярэ лапаць.)*

М і к і т а *(не даючы)*. Ой-ёй! Я не дам, я не дам паскудзіць лапця!

Г р ы п і н а *(да Яўменя)*. Прасі прабачэння!

Д а р ' я. Але, суседзе, трэба перапрасіць жонку! Мала што прыйдзецца. Лепш згодна жыць.

Я ў м е н ь. Ну, прабачай, трасца табе ў бок! Я абмыліўся — людзей паслухаў... Болей гэтага не будзе... І вы, суседка, прабачайце: здаецца, з гарачкі сёння і вас трохі аблаяў,— мне здавалася...

Г р ы п і н а. Здавалася!.. Няхай табе не здаецца, дурной авечцы... Здавалася!

Д а р ' я. Ды нічога... Я ж кажу, я прабачаю...

З о с ь к а. Вось, дзякуй табе, Мікітка, што ты прызнаўся да лапця, а невядома, што было б...

М і к і т а. Прызнаўся! Каб да свайго лапця ды не прызнацца! Хто мне спляце, акром бацькі!

Д а р ' я. А лепш за ўсё — гэта з суседзямі жыць у згодзе. Яны заўсёды праўду скажуць!.. Ці ж не бачаць, што робіцца на адным двары... *(Чуваць спей хлопцаў і дзяўчат.)*

З о с ь к а. Пэўна, Саўка вяртаецца! А мо' б у гэту шчаслівую гадзіну на ўсё мама згадзілася?.. *(Ідзе на вуліцу, за ёй Мікіта.)*

Г р ы п і н а. Ды мы, здаецца, ніколі не сварымся, хіба вось ён...

Я ў м е н ь. Што ён? Што ён, трасца табе ў бок?

Д а р ' я. І дзеткі нашы жывуць у згодзе паміж сабою!.. Мой Саўка колькі разоў хацеў, але не адважыўся ў вас запытацца.

Я ў м е н ь. Ды што там пытацца, калі Зоська згодна...

Грыпіна. Ці ж у нас аб гэтым пытаць? Самі няхай згаворацца!

Зоська. Мамачка! Даражэнькая! Даўно аб гэтым хацела вас запытацца.

Грыпіна. Дачушка! Або я перашкаджаю? Няхай бог дае ўсяго найлепшага...

Дар'я *(убок)*. Вось і памагло тое зелле! Мікіта, пазаві ідзі Саўку.

Мікіта. Вось ён тут ужо! Ідзе з хлопцамі.

Зоська *(з радасцю)*. Саўка!.. Хутчэй, хутчэй!

### *З'ява XX*

Тыя ж

Убягае Саўка. Услед за ім хлопцы і дзяўчаты.

Саўка *(да Зоські)*. Чаго табе?

Зоська. Не пытай чаго, а вось цалуй руку тату і маме!

Саўка. Навошта!

Зоська. Не пытай, а цалуй, калі кажу! Ды Мікіту «дзякуй» скажы, хутчэй — яго лапцю; ён пагадзіў бацькоў, а яны згадзіліся, каб мы жаніліся...

Саўка. Няўжо? *(Цалуе руку.)* Дзякую! Большага шчасця я мець не хачу! Дзякую!

Яўмень. Жаніся з Зоськай, а як мы, старыя, памром, прыары зямлю сваю да нашай ды жывіце з богам, трасца вам у бок!

Жонка. Няхай вас бог благаслаўляе. *(Мікіта стаіць з лапцем і робіць міну.)*

Саўка. Але цікава, як Мікітаў лапаць дапамог мне жаніцца з Зоськай?

Дзяўчына. Мікіта! Абувай лапаць! Зараз скакаць будзеш. Зоська замуж ідзе за Саўку!

Мікіта. Замуж! За Саўку! Вой! Вой! Вой!

Зоська. Ну, Мікіта, і ты паскачаш на вяселлі. Бо каб гэта не твой лапаць, мо' б 'шчэ не скора яно было б. *(Смяецца.)*

Мікіта. А мо' гэта не мой лапаць? *(Углядаецца.)*

Дзяўчына. Ну, хутчэй абувай, чуеш! Скакаць пойдзеш!

Мікіта. З табой?

Д з я ў ч ы н а. Ну, а што ж? Са мною! Ох ты, дурніла! Яшчэ падзякуй, што бяру!

М і к і т а. Бярэш?! Буду абувацца. *(Садзіцца і абувае.)*

Я ў м е н ь. Трасца вам у бок, праспявайце што-небудзь ды паскачыце!

Д а р ' я. Але, дзяўчаткі! *(Пяюць вясельную.)*

У с е. А цяпер паскачам!

Д з я ў ч ы н а. Хутчэй, Мікіта!

М і к і т а. Абору завяжу!

Я ў м е н ь. Мо' і мы, свацц累, тупнем, трасца ім у бок?

Д а р ' я. А чаму ж не!

Х л а п е ц. А я з вамі, цётачка, каб зайздросна не было, што ўсе скачуць.

Г р ы п і н а. Дый даўно я ўжо не скакала.

М і к і т а. А цяпер і я тупну! Вось гэтым лапцем, што Зоську ажаніў! Пойдзем, Аўгіня, ды тупнем, каб чорту моташна стала!

(Усе напяваюць і пачынаюць скакаць.)

*Заслона.*

## АПАВЯДАННІ

**Сон Габруся.** Апавяданне. Надрукавана было ў газ. «Савецкая Беларусь» № 171 (281) за 1921 г. Апавяданне напісана з выпадку голаду на Паволжжы ў 1921 г.

Друкуецца па зборніку: М. Чарот. Веснаход. Апавяданні. Выданне трэцяе, Мінск, 1928 г.

**Дзіўная заява.** Апавяданне. Друкавалася ў часопісе «Вольны сцяг» (1921 г., № 1/3).

Друкуецца па кнізе: М. Чарот, Творы, т. 3, Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1936 г.

**Апошняя ноч.** Апавяданне. Надрукавана было ў газ. «Савецкая Беларусь» №№ 202, 208 за 1921 г. Друкуецца з невялікімі скарачэннямі.

Друкуецца па кнізе: М. Чарот, Творы, т. 3, Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1936 г.

Улукаткі — зігзагам.

**На Пасеках.** Апавяданне. Змешчана было ў газ. «Савецкая Беларусь» №№ 267, 269 за 1922 г.

Друкуецца па кнізе: М. Чарот, Творы, т. 3, Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1936 г.

Сервітут — права абшчыннага карыстання выгодамі (зямлёй, лугам, сажалкай і г. д.).

Гасціба — урачыстая сустрэча, прыём.

**Бацюшка.** Апавяданне. Змяшчалася ў газ. «Савецкая Беларусь» №№ 283, 286 за 1922 г.

Друкуецца па зборніку: М. Чарот. Веснаход. Апавяданні. Выданне трэцяе, Мінск, 1928 г.

Парафія — царкоўны прыход.

Жырандолі — вісячыя падсвечнікі, люстры.

Пацеры — малітва.

Клірас — месца для пеўчых у царкве на ўзвышэнні перад іканастасам.

Камілаўка — царкоўны галаўны ўбор.

Аналой — высокі столік, на якім у царкве кладуцца іконы ці кнігі.

Цвінтар — царкоўны ганак, пляцоўка перад уваходам у царкву.

**Пасля буры...** (Сказ старога дзядулі.)

